


ФОТАРЭПАРТАЖ




Стаім мы перад будучыняй нашай
І ўсё варожым, сочым ейны ход...
Ці ўваскрэснем мы душою, ўпаўшы,
звяўшы,
Каб выйсці ў свет, як нейкі здольны род...

Сягоння мы жывём і ўдзень мы блудзім
Пад маскай, асляпляючаю нас,
І што сказаць самім сабе і людзям,
Не ведаем, не можам, хоць і час...

Янка **КУПАЛА**, Менск,
24.1.1922.






**Х**то сёння ўпэўнена адкажа на купалаўскае пытанне! Якая будучыня нас чакае! Якой заўтра будзе наша Бацькаўшчына! Які лёс чакае ўсіх нас! Не знайсці адказу на гэта ні на мітынгах і фэстах, ні ў зацішку ўрадавых апартаментаў, ні на стракатых старонках шматпартыйнага друку. Спачатку кожны сам-насам павінен адказаць і вырашыць, якой дарогай яму ісці. Бо сёння мы зноў стаім на раздарожжы, «на пыльным крыжы беларускіх дарог» і вагаемся, які шлях абраць, якім накірункам пайсці кожнаму і ўсім разам.

Вяртаюць вернікам саборы, і ў храмах зноў гучыць арган. І з Божай ласкі вяртаецца на бацькоўскую зямлю гаспадар-земляроб. Але не прыходзіць супакаенне, таму што бачым, як дачка кладзе камень замест міласціны ў працягнутую руку маці. Выстройваюцца чэргі жабракоў і прахожыя не адварочваюцца, а прызвычаена праходзяць і не звяртаюць увагі.

Колькі ўсяго яшчэ ўчора было для нас непарушнымі догмамі, а сёння ўспрымаецца як байкі! Колькі добрага і ліхога памянялася месцам і спраўдзілася! Але няма адказу, як жыць далей тым, хто нарадзіўся на Беларусі пад чорным знакам радыяцыі. На каго спадзявацца бацькам хворых дзяцей! На тое, што хутка адродзіцца велічная і магутная Радзіма-дзяржава і ўсім дапаможа! Усіх выратуе і вылечыць! Спадзявацца на камерцыйна-эканамічны цуд! На Бога!

А можа папросту ўсё застанецца як было! Застанецца Беларусь, як прапануе А. Салжаніцын, у складзе Паўночна-Заходняга краю на карце наноў перакроенай Вялікай Расіі. І будзем разам з братамі ўсходнімі славянамі шукаць выйсце з агульнага крызісу. Будзем і далей рабаваць Сібір з яе нафтаю і Урал з ягонымі дыяментамі. Або, згодна з прапановай БНФ, адхрысцімся ад Масквы і створым Балтыйска-Чарнаморскі саюз з пяці рэспублік — Беларусі, Латвіі, Літвы, Украіны і Эстоніі, «каб разам інтэграваць у сусветную эканоміку». У гісторыі такі саюз існаваў амаль пяць стагоддзяў. Усё вяртаецца на колы свае, і добрае, і благое. А сёння застаецца верыць у народную мудрасць, а «вышэйшая мудрасць — гэта ўменне аддзяліць добрае ад благога», як пісаў французскі асветнік Блез Паскаль.

Стаім мы перад будучыняй нашай...

Міраслаў ШАЙБАК.
Фота Віктара ДРАЧОВА.

**Адно з найважнейшых рашэнняў Першай сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі — утварэнне канстытуцыйнай камісіі для стварэння новай Канстытуцыі. Аб тым, як ідзе работа над праектам асноўнага закона суверэннай Беларускай дзяржавы, расказвае член камісіі сакратар ЦК КПБ В. Г. ЦІХІНЯ.**



# БУДЗЕМ ЖЫЦЬ ПА КАНСТЫТУЦЫІ ШВЕЦЫІ?

— Тры гады назад увесь дэмакратычны свет адзначаў 200-гадовы юбілей Канстытуцыі ЗША. За два стагоддзі ў гэты дакумент было ўнесена ўсяго 15 (!) паправак. Мы ж на 73-м годзе Савецкай улады «шчасліва» жывём ужо пад чацвёртай канстытуцыяй і рыхтуемся да прыняцця пятай. Такое адчуванне, што знаходзішся ў становішчы пасажыра, які даганяе поезд. Ці дапаможа нам новая канстытуцыя заняць сваё месца ў купэ і якога класа будзе гэты білет?

— Яшчэ пяць гадоў назад сама ідэя прававой дзяржавы разглядалася ў нас як буржуазная, лжэнавуковая. У выніку ніякіх тэарэтычных распрацовак не вялося, не было манаграфічных даследаванняў. Мы сапраўды сталі на пероне і глядзелі ўслед поезду. Нарэшце, у 1988 годзе была абвешчана ідэя пабудовы ў нашай краіне прававой дэмакратычнай дзяржавы. Два гады мы яе будуем, але да гэтага часу сур'ёзных канцэпцый няма. Толькі сёння ліхаманкава, на хаду мы ўзяліся іх ствараць.

Дык вось, прававая дзяржава, перш за ўсё,— канстытуцыйная дзяржава. А распрацоўка і прыняцце новай канстытуцыі — найважнейшая складаная частка фарміравання дэмакратычнай дзяржавы ў нашай рэспубліцы.

Новая канстытуцыя — гэта мікрамадэль грамадства, да якога мы імкнёмся, яго юрыдычны каркас, у рамках і на аснове прынцыпаў якога функцыяніруе ўлада, увесь дзяржаўны механізм, забяспечваюцца і абараняюцца правы і свабоды грамадзян, вызначаюцца многія сферы грамадскага развіцця, перш за ўсё палітычная, эканамічная, сацыяльная, культурная. Таму ў будучай канстытуцыі важна ўвязаць перспектыву развіцця грамадства са сцвярджэннем і замацаваннем агульнапрызнаных каштоўнасцей дэмакратыі, гуманізму, справядлівасці. У яе цэнтры павінны быць адносіны паміж грамадзянінам, грамадствам і дзяржавай, выразна адлюстравана прыхільнасць Беларускай ССР да агульначалавечых каштоўнасцей і нормаў міжнароднага права.

Чалавек — мера ўсіх сацыяльных каштоўнасцей, яму павінны быць забяспечаны эканамічныя і палітычныя свабоды, мір і бяспека, вартае існаванне, рэальныя гарантыі ажыццяўлення правоў і свабод.

— У свядомасці жыхара рэспублікі дзеючая Канстытуцыя БССР, узору 1978 года, асацыіруецца з перыядам застою. Гэты асноўны закон брэжнеўскага часу прыгавaрыў нас тады да «ўсеагульнага шчасця», а яе ідэалагічныя тлумачы бясконца запэўнівалі, што яна «сцвярджае і замацоўвае агульнапрызнаныя каштоўнасці дэмакратыі, гуманізму, справядлівасці», якія, тым не менш, ужо падвяргаліся частковаму перагляду ў 1988, 1989 гадах.

Дык што ж, зноў лёгкі касметычны рамонт або карэнная рэканструкцыя?

— Сапраўды, беларуская канстытуцыя, якую мы зараз маем, у многім была палітычным маніфестам застойных, як прынята гаварыць, часоў. Яму надаваліся важныя, у горшым сэнсе, прапагандысцкія функцыі.

Так, яе пераглядалі. Была зменена, у прыватнасці, выбарчая сістэма, унесены навоўвядзенні ў сістэму выбараў суддзяў і іншыя. Але сёння абмяжавацца толькі «касметычным рамонтам» нельга. Патрэбна прынцыпова новая канстытуцыя і вось чаму.

Многія нормы старой канстытуцыі, асабліва ў галіне правоў чалавека, носяць чыста дэкларатыўны характар. Яны абвешчаны, прыгожа гучаць, але гэта толькі прывабны фасад — яны не забяспечаны адпаведнымі гарантыямі.

— З прыняццем Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі асноўны закон састарэў як маральна, так і юрыдычна. У канстытуцыі-78 указваецца, што вяршэнства належыць саюзнаму заканадаўству, тады як у Дэкларацыі — наадварот.

— Ёсць нямала і іншых прыкладаў. Можна гаварыць і аб палітычнай сістэме, эканамічнай, формах уласнасці і г. д. Адзін з галоўных недахопаў дзеючай канстытуцыі ў тым, што ў ёй адсутнічаюць прававыя асновы раздзялення улад. Прававая дзяржава, якую мы хочам пабудаваць, трымаецца на трох кітах: заканадаўчая, выканаўчая, судовая улада.

— Вы сказалі аб «трох кітах». Ці азначае гэта, што ў новай канстытуцыі не будзе «ідэалагічных дырэктыў» і гэта будзе толькі дакумент — база новага заканадаўства суверэннай Беларускай дзяржавы?

— Тэкст канстытуцыі будзе дэідэалагізаваны. Як мне ўяўляецца, яна абвясціць народны суверэнітэт як крыніцу дзяржаўнай улады, народаўладдзе, рэспубліканскую форму праўлення, пацвердзіць курс на пабудову дэмакратычнай прававой дзяржавы, станаўленне адкрытага народнага грамадства. Асноўны закон Беларускай ССР замацуе новы статус Саветаў, асноўныя правы і свабоды грамадзяніна рэспублікі, прававую абароненасць асобы.

Асноўнае ж адрозненне праекта новай канстытуцыі павінна, на маю думку, заключацца ў тым, што яна па сваёй структуры абавязана ісці ад чалавека да дзяржавы, а не наадварот — як у дзеючай цяпер канстытуцыі. Бо краевугольным каменем прававой дзяржавы з'яўляецца забеспячэнне павагі чалавечай годнасці і захаванне неад'емных правоў чалавека.

— Канстытуцыйная камісія, якая была створана на першай сесіі Вярхоўнага Савета БССР, працуе ўжо некалькі месяцаў. Створаны дзве рабочыя групы. Адну з іх узначальвае В. І. Шаладонаў, другую В. І. Ганчар. Для падрыхтоўкі праекта канстытуцыі ўтвораны яшчэ пяць падкамісій. Вы ажыццяўляеце каардынацыю іх дзейнасці. Ці можна ўжо гаварыць аб першых выніках работы над праектам канстытуцыі?

— Вызначаны структура праекта, яго раздзелы, главы, хаця, зразумела, усё гэта носіць пакуль што ўмоўны характар.

— Але ўсё ж?..

— У першым раздзеле, прысвечаным Беларускай рэспубліцы, павінны быць вызначаны і замацаваны асноўныя палажэнні, якія характарызуюць Беларускую ССР як суверэнную дзяржаву, што выцякаюць з прынятай Дэкларацыі аб незалежнасці. Тут жа будуць вызначацца мэты і прынцыпы палітычнай сістэмы, эканамічнага строю, сацыяльнага і культурнага развіцця, знешняй палітыкі нашай рэспублікі. Напрыклад, у галіне палітыкі гэта: фарміраванне прававой дзяржавы, палітычны плюралізм, шматпартыйнасць, галоснасць; у галіне эканомікі — шматстайнасць форм уласнасці, пераход на рынычныя адносіны, справядлівае падаткаабкладанне, рацыянальнае выкарыстанне прыродных рэсурсаў і ахова навакольнага асяроддзя; у галіне сацыяльнай сферы і культуры — дасягненне прынцыпу сацыяльнай справядлівасці, новага ўзроўню духоўных і культурных каштоўнасцей, іх матэрыяльныя гарантыі; у галіне міжнародных адносін — канстытуіраванне прынцыпу адмаўлення ад вайны як сродку вырашэння міжнародных спрэчак, абвяшчэнне прымату міжнароднага права.

Галоўным раздзелам канстытуцыі, на маю думку, будзе другі, з умоўнай назвай «Асоба, грамадства і дзяржава». У яго аснову павінны быць пакладзены правы і свабоды грамадзяніна, замацаваныя ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, Хельсінкскіх пагадненнях і выніковым дакументе Венскай сустрэчы, пад якімі стаіць і подпіс Савецкага Саюза, іншых міжнародных актах. У гэтай сувязі, адначасова з рэалізацыяй правоў і свабод, якія маюць сёння нарматыўнае замацаванне, варта было б дапоўніць статус грамадзяніна Беларусі такімі правамі, як: права на жыццё; права на свабоду думак і перакананняў; на ідэалагічную, рэлігійную і культурную свабоду; на атрыманне і распаўсюджанне інфармацыі; на маёмасную кампенсацыю маральных страт; права на свабоду перамяшчэння і выбар месцажыхарства; свабоднага выезду з рэспублікі і ўезду ў яе; на здаровае экалагічнае асяроддзе; на варты чалавека жыццёвы ўзровень і г. д.

У адрозненне ад дзеючай цяпер канстытуцыі, пытанні сям'і прапануецца выдзеліць у самастойны раздзел і тым самым падкрэсліць заклапочанасць дзяржавы развіццём сям'і як ячэйкі грамадства, яе ролю ў фарміраванні здаровых маральных, фізічных якасцей падрастаючага пакалення, абарону мацярынства і дзяцінства.

Зафіксаваўшы гэтыя найважнейшыя палажэнні, мы тым самым зможам рэалізаваць агульнапрызнаныя нормы міжнароднага права ў асноўным законе нашай дзяржавы, у комплексе вызначыць прававы статус грамадзяніна Беларускай рэспублікі.

Рэгламентацыя пытанняў, якія змешчаны ў раздзелах 3—5, павінна базіравацца на прынцыпе раздзялення улад: заканадаўчай, выканаўчай і судовай. У канстытуцыі будзе выразна вызначана кампетэнцыя Вярхоўнага Савета Беларускай ССР як вышэйшага заканадаўчага органа. Пры гэтым асаблівую ўвагу неабходна аддаць пытанням ажыццяўлення парламентам кантрольных функцый за выканаўчай уладай з магчымасцю вынясення вотуму даверу або недаверу ўраду. Будзе прадугледжана і рэгламентавана магчымасць правядзення агульнанародных рэферэндумаў.

— А як жа кіраўнік дзяржавы — прэзідэнт?

— Пры цяперашняй структуры ў якасці такога выступае старшыня Вярхоўнага Савета, які, па сутнасці, з'яўляецца спікерам. Відавочна зрушэнне функцый, з аднаго боку, а з другога — адсутнасць у старшыні шэрагу паўнамоцтваў, якімі традыцыйна павінен валодаць кіраўнік дзяржавы. Абранне прэзідэнта павінна быць прамым пры тайным галасаванні ўсімі грамадзянамі рэспублікі, якія маюць выбарчае права.

Асобны раздзел будзе прысвечаны выбарчай сістэме. Улічваючы бурнае яе ўдасканаленне, няма, відаць, неабходнасці дэталёва рэгламентаваць гэтыя пытанні ў самой канстытуцыі.

Следства, пракуратура, арбітраж таксама выдзяляюцца ў асобны раздзел. І канстытуцыйнаму нагляду

будзе прысвечаны самастойны раздзел. У гэтым пытанні пакуль што дакладнасці няма, што гэта будзе,— або камітэт канстытуцыйнага нагляду, або канстытуцыйны савет, або канстытуцыйны суд.

— Канстытуцыя, відаць, павінна не толькі абвяшчаць правы і свабоды, але і вызначаць больш дасканалы, у параўнанні з дзеючым, механізм іх рэалізацыі і юрыдычнай абароны?

— Безумоўна, у рабоце над яе праектам мы зыходзім з таго, што абнаўленне практычна ўсіх галін заканадаўства зробіць вельмі актуальнай праблему адпаведнасці канстытуцыі законаў і іншых нарматыўных актаў. Усе законы неабходна будзе прывесці ў адпаведнасць з асноўным.

Усе падзаконныя акты, пачынаючы ад урадавых рашэнняў і канчаючы ведамаснымі загадамі, інструкцыямі, будуць належаць канстытуцыйнаму кантролю, бо вяршэнства закону азначае перш за ўсё прыярытэтнае значэнне канстытуцыі і законаў, якія прымаюцца ад імя народа і выражаюць яго волю над усім масівам іншых нарматыўных актаў. Пры гэтым трэба адназначна вызначыць магчымасць выдання падзаконных актаў толькі ў сілу прамых указанняў закону.

— Новая канстытуцыя — наш пасадачны білет у поезд прагрэсу — неабходна была, як гаворыць адзін з сучасных класікаў сатыры, «яшчэ ўчора». Як хутка можна прывесці асноўны закон нашага жыцця ў адпаведнасць з тымі зменамі, на якія сёння яно, наша жыццё, так багата?

— Верагодна, у лічаныя месяцы гэта зрабіць не ўдасца. Падрыхтоўчая работа над такога роду дакументамі займае, як правіла, працяглы час. І гэта заканамерна. Вельмі важны гэта закон, вялікая адказнасць за яго змест.

Можна меркаваць, што падрыхтоўка самога тэксту новай канстытуцыі запатрабуе, паводле сціплых падлікаў, калі мы будзем інтэнсіўна працаваць, 6—8 месяцаў, а калі ўлічыць маючае адбыцца ўсенароднае абмеркаванне (трэба паспець падрыхтавацца да рэферэндуму, распрацаваць працэдуру яго правядзення), дык асноўны закон нашай рэспублікі, на маю думку, будзе прыняты ў канцы 1991 — пачатку 1992 года.

— Вы сказалі, што ў канстытуцыі прадугледжваецца замацаваць права грамадзяніна рэспублікі на варты чалавека жыццёвы ўзровень, на здаровае экалагічнае асяроддзе і г. д. Як вызначыць у нашай абяднелай і экалагічна запушчанай краіне, што такое «варты ўзровень» і «здаровае асяроддзе»? Мне, напрыклад, вартым уяўляецца шведскі ўзровень жыцця, а вам?

— Я разумею вашу іронію, для яе ёсць усе падставы. І таму мы ў сваёй дзейнасці арыентуемся менавіта на міжнародны вопыт. У мяне на стале вы бачыце тэксты канстытуцый ЗША і Швецыі. Мы шукаем і вывучаем усё, што ёсць карыснага ў свеце па канстытуцыйнай рэформе, што робіцца на Захадзе ў гэтай галіне сёння, асабліва ў тых краінах, дзе абвешчана будаўніцтва дэмакратычнай прававой дзяржавы — тая ж Швецыя (дарэчы, яе канстытуцыя, прынятая ў 1974 годзе, вельмі прагрэсіўная), Італія, Францыя, Іспанія, ФРГ, Данія...

Канстытуцыя — асноўны закон — замацоўвае ваша права на «варты ўзровень жыцця» і гарантуе, што другарадныя законы павінны гэты ўзровень забяспечыць.

Аляксандр КРЫЖАНОЎСКІ.

# ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА — ВЫТОК І ВЫНІК САПРАЎДНАЙ ДЭМАКРАТЫІ І РЭАЛЬНАГА ГУМАНІЗМУ

Нездарма ж і як катэгорыя мыслення, і як практычная рэальнасць правы чалавека катэгарычна не прызнаваліся і грэбліва адкідваліся як нацыянал-сацыялісцкім таталітарызмам Гітлера, так і «інтэрнацыяналісцкім» таталітарызмам Сталіна. Не дзіва: абедзве формы палітычнай дэспатыі над усім, непаўторным у кожнага чалавека, духоўным светам ставілі адну адзіную, гранічна задагматызаваную, гіпертрафіраваную, адчужаную ад чалавека і грамадства ідэалогію, над усімі яго памкненнямі, інтарэсамі, практычнымі дзеяннямі — жахлівы абсалют у выглядзе адчужанай ад грамадства і чалавека, часта варожай ім дзяржавы, яе галоўную фігуру — фюрэра ці правадыра — даведзеную ў сваёй адчужанасці ад чалавека і грамадства да абагаўлёнай абстракцыі.

Чалавек, як галоўны суб'ект гісторыі, ператвараўся ў абсалютнае нішто. Таталітарная дзяржава, дзяржава ўвогуле, яе палітыка, яе ідэалогія, яе першая асоба — у абсалютнае нешта.

У свеце могуць існаваць і суіснаваць розныя формы дэмакратыі і гуманізму. Але на адной планеце ніяк не маглі (не могуць у прынцыпе) існаваць, развівацца і суіснаваць адначасна дзве абсалютныя, калі не звышабсалютныя формы палітычнай і сацыяльнай дэспатыі, якіх яшчэ не ведаў дагэтуль наш не такі ўжо і малады чалавечы соцыум.

Хто ведае, што было б сёння са светам і з намі, каб адзін таталітарызм не ўчапіўся ў глотку другому... Роднаснага ў іх было больш чым шмат... Не выпадкова ж яны нейкі час імкнуліся ледзь не ў адбымкі адзін да аднаго...

Але самага горшага для нас — «роднаснага», з «добрага і ахвотнага дазволу» народаў падзелу свету на рабскія калоніі дзвюх таталітарных імперый не адбылося, ці амаль не адбылося: гітлераўскі фашызм не пажадаў дзяліцца — пачалася другая сусветная вайна.

Бясспрэчна і непазбежна, канечне: гэтыя сілы, роднасныя па сутнасці, антыподныя па вытоках, перадзяляўшы, перакаланізаваўшы свет, усё роўна, у рэшце рэшт, счапіліся б у смяротнай бойцы: суб'ектам планетарнага таталітарызму, паўторым гэта, не могуць быць дзве ці некалькі сіл у адным гістарычным часе, у адной гістарычнай прасторы. У адпаведнасці са страшэннай супярэчлівасцю гістарычных выяў, гісторыі ў цэлым аб'ектыўна сталінскі таталітарызм быў адной з галоўных сіл супрацьстаяння гітлерызму і вызвалення народаў ад нявολі, якую нёс свету фашысцкі таталітарызм.

Суб'ектыўна ж, што добра бачыцца ў святле сённяшняга дня, адпаведна яго ўзроўню інфармаванасці: то была бойка дзвюх сіл, якія мелі адзіны намер — абсалютнае панаванне пэўнай ідэалогіі, палітыкі, эканамічнай сістэмы над усім белым светам.

Не. Пададзеная выснова — не вынік хворага ўяўлення. І наш уласны родны таталітарызм, фарбуй яго ў чорныя ці чырвоныя колеры,— гэта таксама звычайны таталітарызм. Аб гэтым сёння сведчыць многае. Пачнём хаця б з ідэалогіі «сусветнай рэвалюцыі», шматлікія амаль да апошніх часоў практычныя замахі на яе экспарт, ідэалогія і палітыка бясспрэчнай і абсалютнай першасці інтарэсаў і ідэалаў таталітарнай дзяржавы і яе правадыроў перад інтарэсамі як канкрэтнага чалавека, так і цэлых народаў. А сотні канцэнтрацыйных лагераў для іншадумцаў, залічаных у ворагі народа? А дзесяткі народаў, на якіх агулам было пастаўлена кляймо здраднікаў і якія былі гвалтоўна выкінуты з іх гістарычнай радзімы? Пры гэтым я катэгарычна не падзяляю думкі некаторых калег, якія атаясамліваюць сталінскі таталітарызм з сацыялізмам, камунізмам, інтэрнацыяналізмам... Гэта выклікае ў мяне глыбокі і моцны ўнутраны пратэст. То была жахлівая з'ява, якая ўвабрала ў сябе пад прыцягальным для працоўных мас прыміты́ўным ружовым шалупіннем антысацыялізм, антыкамунізм, антыінтэрнацыяналізм.

Неаспрэчная роднаснасць сталінскага таталітарызму з фашызмам, менавіта гэтая яго асаблівасць, ёсць яскравае сведчанне гэтага майго ўнутранага пратэсту супраць зусім непрымальнага атаясамлівання.

Палітычная крывадушнасць вярхоў, найцяжэйшая хвароба, здольная выклікаць поўную дэградацыю дзяржавы і грамадства, менавіта ў тым і была, што ад імя сацыялізму тварыўся антысацыялізм, ад імя інтэрнацыяналізму — антыінтэрнацыяналізм. У выніку — ад імя не такіх ужо благіх па тым часе канстытуцый тварылася непрыхаваная і нахабная антыканстытуцыйнасць, ад імя грамадзянскага права — здзіўляючае сваім цынізмам абсалютнае права эліты і звышэліты і гэткае ж абсалютнае бяспраўе працоўных, на фоне чаго яшчэ зусім да нядаўняга часу афіцыйная апаратная ідэалогія грэбліва абвяшчала паняцце і з'яву правы чалавека толькі як нешта з буржуазнага ідэйна-прапагандысцкага арсеналу.

Пры гэтым ніяк не можна пагадзіцца і з тымі, хто даводзіць, што ўвогуле не было ў гэтай дзяржаве ніякіх правоў у чалавека. Не. Яны былі. Але гранічна і свядома збедненыя, гранічна і свядома ўрэзаныя, гранічна і свядома ігнараваныя нават у іх агульным жабрацкім стане.

Такі падыход да найважнейшай у жыцці грамадства праблемы пусціў у нашай глебе глыбокія карані. Мо таму, нягледзячы на рэабілітацыю правоў чалавека ў афіцыйных дакументах, перабудову, на дзесяткі, калі ўжо не сотні скорым спехам наштампаваных за апошнія пару гадоў законаў, рэальныя правы чалавека і народаў у нашай краіне паранейшаму застаюцца пад пагрозай: таталітарызм і палітычны кансерватызм, як найноўшая разнастайнасць яго ідэалогіі, вельмі неахвотна пакідаюць авансцэну гісторыі. Асабліва разʼюшанасць выклікае ў іх палітычная гама правоў і найпершага з іх — права народаў і чалавека на палітычнае самавызначэнне. Іх вынік — права народаў на дзяржаўны суверэнітэт.

Арганізацыя Аб'яднаных Нацый, народжаная ў першы ж год пасля перамогі над гітлераўскім фашызмам, над ідэалогіяй і палітыкай дзяржаўнага таталітарызму і дэспатыі, абвясціла іх як злачынства перад чалавекам і чалавецтвам. Тут у 1948 годзе прымаецца і абвяшчаецца Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека як ідэалагічная, палітычная і маральная процівага ўсім формам існуючага таталітарызму, які здолеў утрымацца ў сядле гісторыі. Менавіта з гэтых часоў пачынае сваё летазлічэнне феномен новага палітычнага мыслення, філасофскім, сутнасным стрыжнем якога з'яўляецца ідэя роднасці, еднасці, цэласнасці ўсёй чалавечай цывілізацыі, ідэя першаснасці агульначалавечых ідэалаў і каштоўнасцей перад усімі іншымі.

Перабудова ў нашай краіне, усвядомленая народам як рэвалюцыя супраць партыйна-дзяржаўнага таталітарызму, фарміруючы новае палітычнае мысленне, новую сацыяльную псіхалогію, новую грамадскую мараль, новую гістарычную практыку ўсепланетарнага яднання, далучыла да гэтага гістарычнага працэсу народы СССР і мой родны беларускі народ. Больш таго, наша савецкая перабудова стала своеасаблівым рэактарам гэтага аб'ектыўнага гістарычнага працэсу.

Але ні перабудова як другі этап Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, ні працэс дэтаталітарызацыі ўсёй партыйна-дзяржаўнай сістэмы, ні канвергенцыя фармацый і культур пры адначасным росквіце самабытнасці нацый не зробяць ніводнага рашучага кроку наперад, пакуль не будзе рэалізавана галоўнае — правы чалавека і народаў. Бо менавіта яны, рэалізаваныя правы чалавека і народаў, даюць магчымасць узарваць, у рэшце рэшт, таталітарызм, усталяваць высокагуманны дыялектычны баланс інтарэсаў дзяржавы і чалавека — усталяваць абвешчаную палітычнымі лідэрамі прававую дзяржаву.

Каб свядома далучыцца, шаноўны чытач, да вышэй памянёнага аб'ектыўнага гістарычнага працэсу, каб лепш зразумець яго глыбінную сутнасць, каб лепш разгледзець стратэгічны курс, якім павінна кіравацца наша перабудова ў дачыненні да чалавека, далейшай гуманізацыі і дэмакратызацыі ўсіх сённяшніх культур і цывілізацый, часопіс «Беларусь» пазнаёміць Вас з галоўнымі міжнароднымі актамі па правах чалавека, распрацаванымі пасля другой сусветнай вайны да нашага часу не без актыўнага (хаця часта вельмі супярэчлівага) удзелу савецкіх, у тым ліку беларускіх, дыпламатаў і вучоных у арганізацыях сістэмы ААН.

**Леанід ЯЎМЕНАЎ,**
**доктар філасофскіх навук, прафесар, прадстаўнік БССР у Камісіі ААН па правах чалавека (1986—1988 гг.), старшыня Камісіі (1987 г.).**



# УСЕАГУЛЬНАЯ ДЭКЛАРАЦЫЯ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

ПРЫНЯТА І АБВЕШЧАНА Ў РЭЗАЛЮЦЫІ 217 А (III) ГЕНЕРАЛЬНАЙ АСАМБЛЕІ АД 10 СНЕЖНЯ 1948 ГОДА

### Прэамбула

**Беручы пад увагу,** што прызнанне годнасці, уласцівай усім членам чалавечай сям'і, і роўных і неадчужаных правоў іх з'яўляецца асновай свабоды, справядлівасці і ўсеагульнага міру; і

**беручы пад увагу,** што грэбаванне і пагарда да правоў чалавека прывялі да варварскіх актаў, якія абураюць сумленне чалавецтва, і што стварэнне такога свету, у якім людзі будуць мець свабоду слова і перакананняў і будуць вольныя ад страху і нястачы, абвешчана як высокае імкненне людзей; і

**беручы пад увагу,** што неабходна, каб правы чалавека ахоўваліся ўладаю закона ў мэтах забеспячэння таго, каб чалавек не быў прымушаны звяртацца, у якасці апошняга сродку, да паўстання супраць тыраніі і прыгнечання; і

**беручы пад увагу,** што неабходна садзейнічаць развіццю дружалюбных адносін паміж народамі; і

**беручы пад увагу,** што народы Аб'яднаных Нацый пацвердзілі ў Статуце сваю веру ў асноўныя правы чалавека, у годнасць і каштоўнасць чалавечай асобы і ў раўнапраўе мужчын і жанчын і вырашылі садзейнічаць сацыяльнаму прагрэсу і паляпшэнню ўмоў жыцця пры большай свабодзе; і

**беручы пад увагу,** што дзяржавычлены абавязаліся садзейнічаць, у супрацоўніцтве з Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый, усеагульнай павазе і рэалізацыі правоў чалавека і асноўных свабод; і

**беручы пад увагу,** што ўсеагульнае разуменне характару гэтых правоў і свабод мае велізарнае значэнне для поўнага выканання гэтага абавязацельства,

*Генеральная Асамблея*

абвяшчае гэтую Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека ў якасці задачы, да выканання якой павінны імкнуцца ўсе народы і ўсе дзяржавы з тым, каб кожны чалавек і кожны орган грамадства, заўсёды маючы на ўвазе гэтую Дэкларацыю, імкнуліся шляхам асветы і адукацыі садзейнічаць паважанню гэтых правоў і свабод і забеспячэнню, шляхам нацыянальных і міжнародных прагрэсіўных мерапрыемстваў, усеагульнага і эфектыўнага прызнання і ажыццяўлення іх як сярод народаў дзяржаў — членаў Арганізацыі, так і сярод народаў тэрыторый, якія знаходзяцца пад іх юрысдыкцыяй.

### Артыкул 1

Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзелены розумам і сумленнем і павінны абыходзіцца ў адносінах адзін да аднаго ў духу братэрства.

### Артыкул 2

Кожны чалавек павінен валодаць усімі правамі і ўсімі свабодамі, абвешчанымі гэтай Дэкларацыяй, без якога б там ні было адрознення, як у адносінах расы, колеру скуры, полу, мовы, рэлігіі, палітычных ці іншых перакананняў, нацыянальнага ці сацыяльнага паходжання, маёмаснага, саслоўнага ці іншага становішча.

Апроч таго, не павінна праводзіцца ніякага адрознення на аснове палітычнага, прававога альбо міжнароднага статуса краіны ці тэрыторыі, да якой чалавек належыць, незалежна ад таго, ці з'яўляецца гэта тэрыторыя незалежнай, падапечнай, несамакіравальнай або неяк інакш абмежаванай у сваім суверэнітэце.

### Артыкул 3

Кожны чалавек мае права на жыццё, на свабоду і на асабістую недатыкальнасць.

### Артыкул 4

Ніхто не павінен утрымлівацца ў рабстве ці ў падняволным стане; рабства і гандаль рабамі забараняюцца ва ўсіх іх відах.

### Артыкул 5

Ніхто не павінен аддавацца катаванню альбо жорсткім, бесчалавечным ці зневажальным для яго годнасці абыходжанню і пакаранню.

### Артыкул 6

Кожны чалавек, дзе б ён ні быў, мае права на прызнанне яго правасуб'ектнасці.

### Артыкул 7

Усе людзі роўныя перад законам і маюць права, без усялякага адрознення, на роўную абарону законам. Усе людзі маюць права на роўную абарону ад якой бы там ні было дыскрымінацыі, якая парушае гэтую Дэкларацыю, і ад якога б там ні было падбухторвання да такой дыскрымінацыі.

### Артыкул 8

Кожны чалавек мае права на эфектыўнае аднаўленне ў правах кампетэнтнымі нацыянальнымі судамі ў выпадках парушэння яго асноўных правоў, якія дадзены яму канстытуцыяй ці законам.

### Артыкул 9

Ніхто не можа быць самавольна ўзяты пад арышт, затрыманы ці кінуты ў выгнанне.

### Артыкул 10

Кожны чалавек, для вызначэння ягоных правоў і абавязкаў і для выяўлення абгрунтаванасці прад'яўленага яму крымінальнага абвінавачання, мае права, на аснове поўнай роўнасці, на тое, каб яго справа была разгледжана публічна і з выкананнем усіх патрабаванняў справядлівасці незалежным і бесстаронні судом.

### Артыкул 11

1. Кожны чалавек, які абвінавачваецца ва ўчыненні злачынства, мае права лічыцца невінаватым да таго часу, пакуль яго вінаватасць не будзе вызначана законным парадкам шляхам публічнага судовага разбору, пры якім яму забяспечваюцца ўсе магчымасці для абароны.

2. Ніхто не можа быць асуджаны за злачынствы на падставе ўчынення якога-небудзь дзеяння альбо за бяздзеянне, якія ў час іх учынення не з'яўляліся злачынствам паводле нацыянальных законаў ці міжнароднага права. Не можа таксама накладвацца пакаранне больш цяжкае, чым тое, якое магло быць прыменена ў той час, калі злачынства было здзейснена.

### Артыкул 12

Ніхто не можа быць падвергнуты самавольнаму ўмяшанню ў яго асабістае і сямейнае жыццё, самавольным замахам на недатыкальнасць яго жылля, на тайну яго карэспандэнцыі альбо на яго гонар і рэпутацыю.

Кожны чалавек мае права на абарону закона ад такога ўмяшання ці такіх замахаў.

### Артыкул 13

1. Кожны чалавек мае права свабодна перамяшчацца і выбіраць сабе месцапражыванне ў межах кожнай дзяржавы.

2. Кожны чалавек мае права пакідаць любую краіну, уключаючы сваю ўласную, і вяртацца ў сваю краіну.

### Артыкул 14

1. Кожны чалавек мае права шукаць прытулку ад ганення ў іншых краінах і карыстацца гэтым прытулкам.

2. Гэта права не можа быць скарыстана ў выпадку ганення, у сапраўднасці заснаванага на здзяйсненні непалітычнага злачынства, або ўчынку, які пярэчыць мэтам і прынцыпам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

### Артыкул 15

1. Кожны чалавек мае права на грамадзянства.

2. Ніхто не можа быць самавольна пазбаўлены свайго грамадзянства ці права змяніць сваё грамадзянства.

### Артыкул 16

1. Мужчыны і жанчыны, якія дасягнулі паўналецця, маюць права без

усялякіх абмежаванняў па адзнацы расы, нацыянальнасці або рэлігіі браць шлюб і асноўваць сям'ю. Яны карыстаюцца аднолькавымі правамі ў адносінах узяцця шлюбу, у часе шлюбу і ў часе яго скасавання.

2. Шлюб можа быць узяты толькі пры вольнай і поўнай згодзе абодвух бакоў, якія бяруць шлюб.

3. Сям'я з'яўляецца натуральнай і асноўнай ячэйкай грамадства і мае права на абарону з боку грамадства і дзяржавы.

## Артыкул 17

1. Кожны чалавек мае права валодаць маёмасцю як аднаасобна, так і сумесна з іншымі.

2. Ніхто не можа быць самавольна пазбаўлены сваёй маёмасці.

## Артыкул 18

Кожны чалавек мае права на свабоду думкі, сумлення і рэлігіі; гэта права ўключае свабоду мяняць сваю рэлігію ці перакананні і свабоду спавядаць сваю рэлігію ці перакананні як аднаасобна, так і сумесна з іншымі, публічным ці прыватным парадкам у навучанні, богаслужэнні і выкананні рэлігійных і рытуальных парадкаў.

## Артыкул 19

Кожны чалавек мае права на свабоду перакананняў і свабоднае выяўленне іх; гэта права ўключае свабоду бесперашкодна прытрымлівацца сваіх перакананняў і свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю і ідэі любымі сродкамі і незалежна ад дзяржаўных граніц.

## Артыкул 20

1. Кожны чалавек мае права на свабоду мірных сходаў і асацыяцый.

2. Ніхто не можа быць прымушаны ўступаць у якую-небудзь асацыяцыю.

## Артыкул 21

1. Кожны чалавек мае права браць удзел у кіраванні сваёй краінай непасрэдна ці пры дапамозе свабодна выбраных прадстаўнікоў.

2. Кожны чалавек мае права роўнага доступу да дзяржаўнай службы ў сваёй краіне.

3. Воля народа павінна быць асновай улады ўрада; гэта воля павінна знаходзіць сваё выяўленне ў перыядычных і нефальсіфікаваных выбарах, якія павінны праводзіцца пры ўсеагульным і роўным выбарчым праве, шляхам тайнага галасавання ці праз іншыя разназначныя формы, якія забяспечваюць свабоду галасавання.

## Артыкул 22

Кожны чалавек, як член грамадства, мае права на сацыяльнае забеспячэнне і на ажыццяўленне неабходных для падтрымання яго годнасці і для свабоднага развіцця яго асобы правоў у эканамічнай, сацыяльнай і культурнай галінах пры дапамозе нацыянальных намаганняў і міжнароднага супрацоўніцтва і ў адпаведнасці са структурай і рэсурсамі кожнай дзяржавы.

## Артыкул 23

1. Кожны чалавек мае права на працу, на свабодны выбар работы, на справядлівыя і спрыяльныя ўмовы працы і на абарону ад беспрацоўя.

2. Кожны чалавек, без якой-небудзь дыскрымінацыі, мае права на роўную аплату за роўную працу.

3. Кожны, хто працуе, мае права на справядлівае і здавальняючае ўзнагароджанне, якое забяспечвала б вартае чалавека існаванне для яго самога і яго сям'і і якое дапаўнялася б, пры неабходнасці, другімі сродкамі сацыяльнага забеспячэння.

4. Кожны чалавек мае права ствараць прафесіянальныя саюзы і ўваходзіць у прафесіянальныя саюзы для абароны сваіх інтарэсаў.

## Артыкул 24

Кожны чалавек мае права на адпачынак і вольны час, уключаючы права на разумнае абмежаванне працоўнага дня і на перыядычны водпуск, які аплачваецца.

## Артыкул 25

1. Кожны чалавек мае права на такі жыццёвы ўзровень, уключаючы харчаванне, адзежу, жыллё, медыцынскі догляд, які неабходны для падтрымання здароўя і дабрабыту яго самога і яго сям'і, і права на забеспячэнне з выпадку беспрацоўя, хваробы, інваліднасці, удаўства, надыходу старасці або іншага выпадку страты сродкаў на існаванне па незалежных ад яго абставінах.

2. Мацярынства і маленства даюць права на асаблівую апеку і дапамогу. Усе дзеці, якія нарадзіліся ў шлюбе ці пазашлюбна, павінны карыстацца аднолькавай сацыяльнай абаронай.

## Артыкул 26

1. Кожны чалавек мае права на адукацыю. Адукацыя павінна быць бясплатнай, прынамсі, у тым, што датычыць пачатковай і агульнай адукацыі. Пачатковая адукацыя павінна быць абавязковай. Тэхнічная і прафесійная адукацыя павінна быць агульнадаступнай, і вышэйшая адукацыя павінна быць аднолькава даступнай для ўсіх на аснове здольнасцей кожнага.

2. Адукацыя павінна быць накіравана на поўнае развіццё чалавечай асобы і на павелічэнне павагі да правоў чалавека і асноўных свабод. Адукацыя павінна садзейнічаць узаемаразуменню, цярпімасці і дружбе паміж усімі народамі, расавымі і рэлігійнымі групамі і павінна садзейнічаць дзейнасці Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у падтрыманні міру.

3. Бацькі маюць права прыярытэту ў выбары віду адукацыі для сваіх малалетніх дзяцей.

## Артыкул 27

1. Кожны чалавек мае права свабодна ўдзельнічаць у культурным жыцці грамадства, атрымліваць асалоду ад мастацтва, удзельнічаць у навуковым прагрэсе і карыстацца яго дабротамі.

2. Кожны чалавек мае права на абарону яго маральных і матэрыяльных інтарэсаў, што з'яўляюцца вынікам навуковых, літаратурных ці мастацкіх намаганняў, аўтарам якіх ён з'яўляецца.

## Артыкул 28

Кожны чалавек мае права на сацыяльны і міжнародны парадак, пры якім правы і свабоды, выкладзеныя ў гэтай Дэкларацыі, могуць быць цалкам ажыццёўлены.

## Артыкул 29

1. Кожны чалавек мае абавязкі перад грамадствам, у якім толькі і магчыма свабоднае і поўнае развіццё яго асобы.

2. Пры ажыццяўленні сваіх правоў і свабод кожны чалавек павінен падпадаць толькі пад такія абмежаванні, якія ўстаноўлены законам выключна з мэтай забеспячэння належнага прызнання і павагі правоў і свабод іншых і задавальнення справядлівых патрабаванняў маралі, грамадскага парадку і агульнага дабрабыту ў дэмакратычным грамадстве.

3. Ажыццяўленне гэтых правоў і свабод ні ў якім выпадку не павінна пярэчыць мэтам і прынцыпам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

## Артыкул 30

Нішто ў гэтай Дэкларацыі не можа быць вытлумачана як дазвол якой-небудзь дзяржаве, групе асоб альбо пэўным асобам займацца якой-небудзь дзейнасцю ці ўчыняць дзеянні, скіраваныя на знішчэнне правоў і свабод, абвешчаных у гэтай Дэкларацыі.

**ЗАМЕСТ КАМЕНТАРЫЯ.** Падрыхтоўкай праекта Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека займалася Камісія па правах чалавека, спецыяльна створаная Генеральнай Асамблеяй ААН 16 лютага 1945 года. У яе саставе было 18 прадстаўнікоў ад розных дзяржаў, у тым ліку ад СССР, Беларускай ССР і Украінскай ССР. Савецкія прадстаўнікі актыўна ўдзельнічалі ў распрацоўцы Дэкларацыі, аказалі значны ўплыў на фармуляванне шэрагу артыкулаў.

На першы погляд, барацьба СССР за правы чалавека на міжнароднай арэне ва ўмовах таталітарнага сталінскага рэжыму, беззаконня, самавольства ў адносінах да савецкіх грамадзян здаецца парадаксальнай. Але яна, тым не менш, надзвычай лагічна вынікала з палітыкі «двайных стандартаў», характэрнай для знешнепалітычнага курсу палсяваеннага СССР, яго жадання сцвердзіцца ў вачах сусветнай грамадскай думкі ў якасці самай дэмакратычнай сацыялістычнай дзяржавы.

Распрацоўка і абмеркаванне праекта артыкулаў Дэкларацыі як у рамках Камісіі па правах чалавека, так і ў трэцім Камітэце Генеральнай Асамблеі адбываліся ў вострай дыпламатычнай барацьбе, якая яскрава адлюстроўвала атмасферу халоднай вайны, ідэалагічнага супрацьборства паміж краінамі сацыялістычнага і капіталістычнага лагераў. Выяўлялася і рознае разуменне правоў чалавека, іх аб'ёму і зместу.

Заходнія краіны, грунтуючыся на прызнанні прыярытэтнасці індывідуальных правоў як абсалютных і ўласцівых кожнаму чалавеку, настойвалі на абмежаванні зместу Дэкларацыі толькі фіксацыяй грамадзянска-палітычных правоў па аналогіі з французскім і амерыканскім канстытуцыйным заканадаўствам 18-га стагоддзя.

Савецкія прадстаўнікі даволі абгрунтавана ўказвалі на неабходнасць выкарыстання канстытуцыйнага вопыту ўсіх краін, у тым ліку і сацыялістычных, уліку непарыўнасці грамадзянска-палітычных і сацыяльна-эканамічных правоў, поўнае аддаванне якіх чалавеку з'яўляецца доказам іх павагі і захоўвання ў дзяржаве. Большасць членаў Камісіі падтрымала пазіцыю савецкіх прадстаўнікоў, і ў выніку шэраг сацыяльна-эканамічных правоў — такіх, як права на працу, на адпачынак, адукацыю, сацыяльнае забеспячэнне — быў уключаны ў тэкст Дэкларацыі.

Заслугай савецкай дыпламатыі з'яўляюцца палажэнні Дэкларацыі аб універсальнасці абвешчаных правоў і іх прымяняльнасці на любой тэрыторыі, да якой чалавек належыць, «незалежна ад таго, ці з'яўляецца гэта тэрыторыя незалежнай, падапечнай, несамакіравальнай або неяк інакш абмежаванай у сваім суверэнітэце» (арт. 2).

Вострыя дыскусіі разгарэліся вакол прапановы савецкіх прадстаўнікоў аб дапаўненні артыкулаў 19, 20, 21, 22, 23 гарантыямі з боку дзяржаў. У прыватнасці, артыкул 19, які абвяшчаў права на свабоду перакананняў і свабоднае іх выяўленне, прапаноўвалася сфармуляваць наступным чынам: «З мэтаю забеспячэння права на свабоднае выяўленне думак значных пластоў насельніцтва, а таксама для іх арганізацый дзяржава аказвае ім садзейнічанне і дапамогу матэрыяльнымі сродкамі (памяшканнямі, друкарскімі машынамі...), неабходнымі для выдання дэмакратычных органаў друку». Заходнія краіны адхілілі гэты праект, спасылаючыся на тое, што даванне дзяржавай дапамогі можа стаць «формай націску на грамадскую думку».

Варта зазначыць, што заходнія прадстаўнікі ў цэлым пярэчылі супраць уключэння якіх-небудзь гарантый з боку дзяржаў, справядліва матывуючы гэта тым, што Дэкларацыя прызвана зафіксаваць толькі правы чалавека. Апроч гэтага, адпаведна Статуту ААН, любая дэкларацыя носіць рэкамендацыйны характар і не можа накладваць абавязацельствы на дзяржавы.

Не знайшла падтрымкі ў членаў Камісіі ініцыятыва савецкіх прадстаўнікоў адлюстраваць у Дэкларацыі сувязь правоў чалавека з праблемай дзяржаўнага суверэнітэту. Заходнія дыпламаты лічылі, што гэта прапанова з'яўляецца адлюстраваннем пануючай у Савецкім Саюзе тэорыі аб падпарадкаванні асобы дзяржаве, якая пярэчыць абсалютнаму характару правоў чалавека. Наўрад ці можна прызнаць правільнай пазіцыю заходніх дзяржаў, якія адхілілі прапанову савецкіх прадстаўнікоў аб уключэнні ў Дэкларацыю артыкула аб праве нацый і народаў на самавызначэнне.

У выніку дэлегацыі Савецкага Саюза, Украіны, Беларусі, разам з іншымі сацыялістычнымі дзяржавамі, устрымаліся пры галасаванні Усеагульнай дэкларацыі. Матывуючы сваё галасаванне, савецкія прадстаўнікі заявілі, што Дэкларацыя парушае суверэнітэт дзяржаў, не гарантуе асноўных правоў і свабод. Паводле ацэнкі міністра замежных спраў СССР А. Вышынскага, дакумент «нездавальняючы і недапрацаваны і не ў стане дасягнуць той мэты, якой прызначаны служыць».

І ўсё ж, нягледзячы на наяўнасць недахопаў у Дэкларацыі, з такой яе ацэнкай цяжка пагадзіцца. Прызнанне дакумента ва ўсім свеце, а пасля і ў Савецкім Саюзе, які неаднойчы спасылаўся на Дэкларацыю пры распрацоўцы розных міжнародна-прававых дакументаў, пацвярджае гістарычную значнасць Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.

**Людміла ПАЎЛАВА,**
**дацэнт кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права юрыдычнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна.**

Час — катэгорыя не толькі надзённага, ва ўсёй яго мітусні і недаўгавечнасці, але і вечнага, і калі памятаць пра гэта, калі ўразумець, што мы — не адно дзеці свайго кароткага веку, але і праз повязь з продкамі і нашчадкамі — дзеці вечнасці, то і ўспрыманне таго, што адбываецца з намі, з грамадствам, з краінай, будзе іншым.

Так, наша грамадства хворае. Хворае знутры. І колькі б і якімі б прагнозамі ні палохалі свет дактары ад самых розных навук, даводзячы адзін аднаму і ўсяму свету, што эканоміка ў нас развівалася насупраць усім яе законам і цяпер, чарговы раз, патрэбны наступныя пяцьдзесят — семдзесят гадоў, каб вярнуць усё на кругі свае, вярнуўшы нас цывілізаванаму свету, веры ўсім гэтым прагнозам няшмат. І не таму, што пастаўлены яны няправільна ці непрафесійна: перабудоўваць, пераводзіць на



# Беларусамі звацца!

новыя, рыначныя, рэйкі ўсю нашу грувасткую, абцяжараную састарэлымі праблемамі і састарэлымі тэхналогіямі эканоміку, безумоўна, трэба (трэба было яшчэ ўчора!), але ж — тон! Але ж — прыярытэты!

Міжволі згадваецца, што кожная праграма чарговага ўрада ці чарговага ўладара абяцала народу хуткае шчасце: вось толькі пакончым з сусветнай буржуазіяй! Вось толькі завершым калектывізацыю! Вось толькі пабудуем эканамічна моцную дзяржаву! Вось толькі ачысцім зямлю ад варожай нечысці! Вось толькі ўзброімся да зубоў! Вось-вось... Цяпер, праўда, і самае левае крыло палітыкаў не асмеліцца б заявіць, што наша або, у крайнім выпадку, наступнае пакаленне будзе жыць пры камунізме (ці калі ўжо сячы наводмаш — пры капіталізме), але і цяпер, як раней, усе праграмы з'арыентаваны на сытае і хуткае шчасце. Шчасце, якое прынясе народу, усім народам, ці то рашучая палітыка, ці то рашучая дэпалітызацыя, ці то прыватызацыя і рашучы ўваход краіны ў рынак.

Здзіўляе нават не тое, што, як зусім відочна, не ўспрыняты ніводзін урок гісторыі (якія ўжо там урокі, калі ледзь не кожнае дзесяцігоддзе гісторыя пераглядаецца!), здзіўляе, што зноў — каторы ўжо раз! — гісторыя вяршыцца не народам, а — ад імя народа. Прыгадайма! Ад імя народа вялі братазабойчую вайну і чырвоныя, і белыя ў грамадзянскую. Ад імя народа адбіралася зямля спярша ў памешчыкаў, пасля і ў сялян — дзеля іх жа калектыўнага шчасця. Ад імя народа ішлі крывавыя працэсы і будаваўся ГУЛАГ. Ад імя народа адны лозунгі змяняліся другімі і адны і другія шчодра аплачваліся за кошт самых бедных. Ад імя народа вынішчалася прырода і спусташаліся зямныя нетры. Ад імя народа зводзілася яго мова і культура. Ад імя народа топчуцца апошнія яго ідэалы і спадзяванні. І скрозь — прагнозы, прагнозы! З прагнозамі выступаюць усе — палітыкі, вучоныя, экстрасенсы, публіцысты, астролагі... І гераічнае мінулае даўно ператворана ў гнойна-крывавае месіва, і светлая будучыня даўно стала змрочнай і непрывабнай, а ва ўсіх сродках масавай інфармацыі ідзе гіганцкая рэклама нажывы...

Ды годзе! Годзе! Давайце спынімся. Агледзімся. Прыгадаем, што народ — гэта ўсе мы, што няма ў свеце ніякіх іншых каштоўнасцей, апроч той, спаконвечнай, пра якую мы ў напале палітычных, сацыяльных, спажывецкіх і ўсіх іншых страсцей згадваем так рэдка: каштоўнасці аднаго — кожнага! — чалавечага жыцця, дадзенага нам, любому, каб чыніць дабро, каб навучыць дабру і міласэрнасці сваіх дзяцей і ўнукаў.

Не адмаўляючы ні гістарычна абумоўленых прычын таго стану, у якім апынулася не толькі Беларусь, а і ўся краіна, ні часта трагічных абставін станаўлення нашай нацыі, ніякім чынам не змяншаючы віны воляю кіруючай партыі валадароў зямлі нашае, якія, паслухмяныя загадам гаспадароў, так мала клапаціліся пра эканамічны і духоўны росквіт яе, трэба ж, нарэшце, прызнаць, што ёсць раны, як асабістыя, так і ўсенародныя раны душы, якія мы самі сабе прычынілі і чынім. І адна з іх — бяспамяцтва. Бяспамяцтва цэлага народа, усіх нас, разбуджаных і не разбуджаных новым часам.

Шмат крыўды і здзеку сцярпеў наш народ і ў мінулыя стагоддзі і ў гэта, апошняе, працягваючы трагічную гісторыю старажытных магутных княстваў Полацкага ды Тураўскага, і ў кожным стагоддзі, у крывёю і слязамі палітую раллю яго, кідаліся зярняты дабра, зярняты надзеі на іншы, лепшы лёс, на іншую, большую славу беларуса. Славу, якая спатрэбіцца нашчадкам — нам. Мы ж...

Ні гісторыя наша, ні культура наша нічога не страцілі. Гэта мы, здрадзіўшы ім у імя ідэйнай барацьбы і хуткага шчасця, страцілі не толькі ўсе повязі са старажытнасцю, з гордымі продкамі нашымі, але і зруйнавалі, знішчылі шмат чаго зробленага, створанага імі. І таму, у немалой ступені менавіта таму не адчуваем сябе беларусамі, нашчадкамі іх, не маем спаконвечных маральных арыенціраў, якімі жывая і душа чалавечая, і душа народная.

І сёння, безумоўна, ёсць сярод нас тыя, хто мкнецца асэнсаваць перажытую народам гісторыю, хто адчайна шукае шляхі, на якіх льга ўратаваць і культуру, і чалавека, і рэшткі пакінутай нам спадчыны — уратаваць мову сваю, годнасць сваю. Але ж шляхі тыя, знойдзеныя, асветленыя паходнямі адданых бацькаўшчыне сэрцаў, могуць травою, вербалозам, а то і лесам зноў зарасці, як было не раз, калі не прыме іх люд, калі не пойдзе следам за відушчымі, каб беларусамі звацца — горда, на ўвесь белы свет беларусамі звацца. Вось што не можа не трывожыць. Вось што змушае звяртацца не да парламента рэспублікі, не да ўрада яе, а найперш — да люду, да народа.

Дэградацыя нашага грамадства ідзе не толькі ад эканамічнага развалу і ўсеагульнай нядбайнасці — бяздзейнасць, крызіс улады, страты, якія ва ўсіх сферах жыцця растуць ужо ў геаметрычнай прагрэсіі, маюць месца там і тады, калі людзі бяднеюць духоўна, калі ўсеўладная дасюль ідэалогія як бы адступае на задні план, саступаючы не культуры, вечнай у сваім памкненні ўдасканальваць свет і чалавека ў ім, а бездухоўнасці. І як бы гучна ні абвяшчалі мы пра адраджэнне нацыі, як бы ні цешылі сябе відочнымі зрухамі ў падыходзе да праблемы захавання, адраджэння мовы і культуры, зрухі гэтыя не закранулі, усё яшчэ не закранаюць ні свядомасці народных абраннікаў у Вярхоўным Савеце рэспублікі, ні свядомасці народа.

Не крычаць трэба (хто галасней і больш знішчальна), не да насілля (свядома ці міжволі) падштурхваць адзін аднаго, а выхоўваць, будзіць у сэрцах, у душах людскіх нацыянальную самасвядомасць, годнасць: не разбурэннем, не вынішчэннем зробленага (якое б яно ні было) і пераймытага жыцця дойдзецца, а працаю, стварэннем. І не створым, не выбудуем мы нічога вартага, калі не выбудуем перш сваю душу, і розумам, і сэрцам прычыніўшыся да гісторыі народа, да культуры яго.

Культура — гэта не проста мастацтва, не проста сродак прапаганды ці пацехі, яна — тая сувязь, тая сістэма сувязяў, на якой трымаецца гісторыя, якою мацуецца еднасць, не толькі агульнанародная, але і агульначалавечая. І не разумець гэтага сёння нельга, проста нельга. Інакш праз новы прамежак часу нам сапраўды давядзецца пакутліва ўспамінаць, адкуль мы, хто мы і нашто на свет белы з'явіліся.

Важна, вельмі важна, каб беларускі парламент, усе члены яго адчулі, адчувалі значэнне культуры як асновы грамадства: імі, сённяшнімі парламентарыямі, выпрацоўваецца і будзе прынята новая Канстытуцыя рэспублікі, ствараецца, па сутнасці, новае заканадаўства, адным з самых неабходных законаў якога з'явіцца закон аб культуры. І ўсё ж яшчэ важней на сённяшні дзень, каб увесь народ, усе мы, атручаныя страхам і шматгадовым бяспраўем, без віны пакараныя чарнобыльскаю навалаю, зразумелі, што ва ўсе часы, і цяпер, мажліва, як ніколі, культура, яе развіццё, яе росквіт — самая высокая мэта любой улады, любога грамадства, бо менавіта яна, культура народа, выяўляе яго стваральныя, творчыя сілы, менавіта яе набыткі, яе вяршыні застаюцца вехамі ў нацыянальнай гісторыі. Так было спакон веку. Так будзе, пакуль чалавек схоча заставацца чалавекам.

Дык давайце ж абаронім правы культуры, давайце дамажэмся таго, каб за ёю, за культураю, быў прыярытэт на нашай зямлі. Давайце штодня, на любой працы, сярод усіх радасцяў і нягод памятаць:

гэта — наша гісторыя,
гэта — наша мова,
гэта — наша культура!

Афармленне Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

Іван
ШАМЯКІН






Калі здарылася аварыя на Чарнобыльскай АЭС, людзі, якія ведалі «Біблію», знайшлі ў «Адкрыцці Святога Іаана Багаслова» выказванне: «Трэці Анёл пратрубіў, і ўпала з неба вялікая зорка, якая гарэла падобна свяцільніку, і пала на трэцюю частку рэк і на крыніцы вод. Імя той зоркі — палын; і трэцяя частка вод зрабілася палыном, і многія з людзей памерлі ад вод, таму што яны сталі горкія».

Па-украінску палын — чарнобыль. Натуральна, што веруючыя надалі гэтым словам прароцкі сэнс.

А я, помню, падумаў з асуджэннем вышэйшай сілы: «Якая злая зорка». Два з палавінай гады пісаў раман, змяніў добрыя два дзесяткі варыянтаў назваў; даць добрую назву зусёды было нялёгкай задачай. І ўрэшце вярнуўся да сваёй даўняй думкі, якая стала назвай: «Злая зорка».

Галоўныя падзеі рамана адбываюцца ў першае паўгоддзе пасля аварыі ў адным з беларускіх раёнаў (у раёне N), што прымыкаюць да станцыі і найбольш пацярпелі ад аварыі. Але ў галоўных герояў — у сям'і старшыні райвыканкома Пыльчанкі — старэйшы сын апынуўся ў Афганістане. А малодшы сын Глеб — інжынер-энергетык АЭС. Што перажывала маці! Да чаго давялі яе гэтыя перажыванні — аб гэтым расказана ў рамане. Прапаную ўвазе чытачоў «Беларусі» адзін з апошніх раздзелаў рамана.

Аўтар.

УРЫВАК
З РАМАНА
«ЗЛАЯ ЗОРКА»

**У студзені Івану Пятровічу Шамякіну, народнаму пісьменніку Беларусі, Герою Сацыялістычнай Працы, цудоўнаму чалавеку спаўняецца 70! «Беларусь» шчыра віншуе свайго шаноўнага аўтара з юбілеем і жадае яму моцнага здароўя, шчасця, новых выдатных твораў.**

# ГРАКІ НЕ ПРЫЛЯЦЕЛІ

Вылятаалі «гракі» часта. Але палёты кароткія. На такой хуткасці можна за дзве гадзіны ў Ташкент злётаць. А радыус іх зоны дзеяння абмяжоўваецца сотняй кіламетраў, рэдка кідалі далей — для масіраваных удараў па скапленні маджахедаў. Але ў тым і бяда, што накопліваліся яны хіба для штурму гарадоў і, у выпадку няўдачы, разляталіся, бы ўзняты смерчам пясок. Няўлоўныя.

Кароткія вылеты пілотаў не радавалі. Пра гэта ў апошні час не баяліся гаварыць начальству. Лічылі ўніжальным на такой машыне ганяцца за дзесяткам адзетых у лахманы, барадатых людзей, хоць і ўзброеных навейшымі англійскімі аўтаматамі.

Больш ахвотна вылятаалі на разведку, тут хоць «прагон» большы — «начарціць сетку». І работа — фотаздымкі.

З азартам выконвалі хіба адно баявое заданне — падавіць ракетныя ўстаноўкі маджахедаў. На гэтую сучасную зброю мелі злосць. Ракеты неаднойчы абстрэльвалі іх схаваны паміж гор у вузкай даліне аэрадром. Загінулі таварышы. Ракетамі бамбяць Кабул, іншыя гарады. Гінуць дзеці, жанчыны.

«Стынгеры» збіваюць часам не толькі транспартнікаў, але і «СУ» і «МІГі». Толькі зяўні, не зрабі належны манеўр — і гэтая змяя выйдзе на твой цеплавы след і будзе ісці па ім, пакуль не дагоніць. І тады нішто ўжо цябе не ўратуе. Катапультавацца не паспееш.

У палку лічылі: толькі адзін чалавек — старшы лейтэнант Леанід Сушко — жыве тут поўным жыццём. Усе іншыя лётчыкі, тэхнікі, салдаты аховы паміраюць ад нуды. Сушко пісаў карціны. Маляваў, як называлі яго занятак, па-простаму. Нехта «мудры» ў часе баявога дзяжурства забараніў гульню ў карты, у даміно. Пячыся на сонцы, замярзай у холад, але не расслабляйся — чакай сігналу трывогі. У гэтым, магчыма, была б логіка, каб пагражаў бамбардзіровачны ці штурмавы ўдар з неба. Але, на шчасце, душманы не маюць авіяцыі. І, дзякуй богу, не дайшло яшчэ ні да аднаго штабіста — забараніць чытаць газету, кнігу і... маляваць.

Чытаць тут не было чаго — усё перачытана. І вакол Сушко, яго мальберта збіралася ўся дзяжурная змена. Ганарыліся, даведаўшыся, што яго пейзажы суровых афганскіх гор упрыгожваюць не толькі іх дашчатую сталоўку і штабныя бліндажы, але і будынак штаба арміі ў Кабуле. Абураліся тым, што, калі ён хацеў адаслаць колькі карцін на радзіму, сям'і, іх таможня ў Ташкенце канфіскавала: ваенная тайна — горы. Сушко прыдумаў забаўку: пачынаў пейзаж, а закончыць яго дазваляў каму-небудзь са сваіх сяброў. У большасці атрымлівалася такая бясформенная, беззмястоўная мазня, што рабілася прычынай смеху — таксама набытак для людзей, якія млелі ад бяздзейнасці і смутку. У некаторых нешта вырысоўвалася. Зноў здзіўляў Сушко, калі некалькімі мазкамі пэндзля надаваў гэтаму даволі невыразнаму «нешта» змест, форму, прыгажосць.

Здзівіў свайго падначаленага, сяброў Барыс Пыльчанка. І сам здзівіўся. Не ведаў, што і ў яго нешта атрымаецца. Маляваў некалі ў школе, але ўжо ў старэйшых класах астыў да гэтага дзіцячага занятку. Як, між іншым, і да музыкі, мучылі яго бацькі гады тры — вучылі на баяне, а ён даводзіў свайго настаўніка да шаленства.

І раптам — на табе! — прарэзалася. Не толькі здзівіўся — узрадаваўся. Больш таго: душэўна перарадзіўся. Жыццё, небяспечнае, але аднастайнае, набыло іншы сэнс. Раскрываў мальберт, браўся за пэндзаль з асаблівым, нязведаным, чыстым і прыгожым хваляваннем, якое можна было параўнаць хіба з тымі пачуццямі, якія з'яўляліся, калі ён думаў пра будучую сустрэчу з Тамарай. Хваляванне гэтае асабліва стала моцным і сапраўды ўзвышаным пасля таго, як Тамара напісала, што лётала ў Кутаісі, не знайшла яго там, здагадалася — дзе ён. І напісала: «Барысок, сакалок ты мой! Ад сябе прашу і ад мамы тваёй, ад якой ты ўтойваеш месца свайго знаходжання: не рабі ты глупства, як з тым дурнем Плечкам. Ці не праз яго ты паляцеў на другі круг?».

Праз яго, Тома, праз яго. Але я не шкадую. А пачаў маляваць — проста ўзрадаваўся, што апынуўся ў гэтай чужой даліне.

Некалькі чалавек, у якіх блiснула іскра, утварылі «палявую студыю», якую з энтузіязмам ухваліў нампаліт і нават распісаў у дакладной на ўсю армію: лётчыкі малююць жыццё!

Нудныя дзяжурствы павесялелі. Цяпер на краі лётнага поля стаяў не адзін мальберт — ажно шэсць. Есць на што паглядзець. Есць каму даць параду. А збоку — усе Рэпіны.

Барыс бадай стаў першым вучнем, і вучоба яго так захапіла, што часам на будзённыя справы эскадрыллі забываўся. Але ў яго было іншае амплуа. Сушко пісаў пейзажы. А яго цягнула пісаць людзей і самалёты. Машыны пісаць проста. Людзей цяжэй. Па людзях і Сушко аказаўся нялепшым настаўнікам. Барыс асвойваў тэхналогію сам. Радаваўся, бы дзіця, калі хлопцы прызналі партрэт каларытнага прапаршчыка-вусача: «Падобны! Купляй, Пятро, і пасылай жонцы! Давай, Барыс, малюй партрэты. Во будзеш мець бізнес! З мяшком афгані прыляціш». Не атрымліваліся людзі ў руху, у дынаміцы. Разгадаў слабасць настаўніка: застылы пейзаж у Сушко. А трэба, каб і пейзаж быў у дынаміцы, у руху. У часе і ў прасторы. Паспрабуй перадай снег на гары і зеляніну тут, у даліне. І гэты дзень з ірванай воблачнасцю. Воблакі сёння, як там у нас, у Беларусі, рэдка такія тут бываюць.

Пачаў з самалётаў — прасцей. Каторы дзень пісаў карціну: адзін «грак» выруліў на бакавую дарожку, застыў, яго сустракаюць тэхнікі, другі вынырнуў з-за гары, ідзе на паласу. Не, не ідзе — паві́с. У гэтым пралік. Няма ні адчування яго імклівасці, ні адчування патушанай хуткасці, каб добры пілот не сказаў: «Гэты чмякнецца» ці «Гэты праскочыць паласу». Во каб ён дайшоў да гэтага майстэрства — перадаць міг руху!

Але ў цэлым праца ўласная яму падабалася. Пашкадаваў, што такую карціну нельга паслаць Тамары: затрымае ваенная цэнзура. Во яшчэ дурнота: пакістанцы і амерыканцы разабралі па вінціку не адну такую машыну, а сваім людзям і на карціне нельга ўбачыць! І ўсім, хто «хварэў» за мастака, карціна падабалася. Хвалілі. Падышоў інжынер — капітан Котаў.

— Пыльчанка! Пляшку віскі ставіш — назву карціне дам.

— Стаўлю.

— «Гракі прыляцелі».

— Во хітруган — капітан! За плагіят хоча ганарар злупіць.

Барыс не засмяяўся. Выцер пэндзаль фланелькай. Адышоў ад мальберта. Задумаўся.

— А што! Гэта ідэя. Усё геніяльнае — простае. Не карціна геніяльная — назва. І гэта не плагіят, хлопцы. Не. Гэта ход па спіралі. З пад'ёмам. «Гракі прыляцелі». Гэта ж таксама радасць... вясна... што яны прыляцелі. Нашы гракі.

— Штосьці цябе на філасофію пацягнула.

— А мы тут усе становімся філасофамі,— сказаў сяржант Васіль Гаркуша. Тэхніка гэтага некаторыя пабойваліся: ён залішне смела для свайго звання выказваўся супраць нашага ўдзелу ў гэтай вайне, называў яе бруднай. Нехта «стукнуў» на яго, і з ім мелі размову і ў палітаддзеле і ў асобым аддзеле. Ды Гаркуша пасля таго не змоўк. І баявыя лётчыкі, якія не баяліся ніякіх аддзелаў, да яго цягнуліся. У гарачых спрэчках пазнавалі ісціну. Зерні Гаркушынага адмаўлення вайны падалі на ўгноеную зямлю, бо і на Радзіме ў прэсе пачалі прабівацца галасы супраць вайны; гэта выклікала збянтэжанасць «зацятых патрыётаў», змяніўся тон палітгутарак, прыціхлі асабісты — перасталі вынюхваць ворагаў сярод сваіх.

Пад абед недзе, калі Барысу ўдалося нарэшце знайсці «грака» ў паветры тое месца, каб у вопытных пілотаў не з'яўлялася адчування, што самалёт не далятае або пералятае паласу, у палатцы дзяжурнага зазумерыў палявы тэлефон. Салдат, не кладучы трубкі, гукнуў:

— Камандзіра трэцяй — да камандзіра палка. Капітан Пыльчанка! І старшы лейтэнант Сушко!

— Чую, чую, брат.

Барысу не хацелася адрывацца ад мальберта. Нават калі выклік на атрыманне задання на вылет. Ці не пад уплывам земляка, атамана Гаркушы, яго адварочвае не толькі ад баявых дзеянняў, але і ад разведпалётаў?

Сушко папрасіў таго ж Гаркушу:

— Вася! Прыбяры нашы неўміручыя палотны. Ад сонца і ветру схавай, пакуль не высахнуць.

У прасторным, абабітым дыванамі бліндажы камандзіра назойліва гудзеў кандыцыянер. Палкоўнік Шувалаў, нізкі ростам, хударлявы — што хлапчук — нячутна, як кот, хадзіў па мяк-

кім дыване, кудлачыў пасівелыя валасы — знаёмая ўсяму палку поза: напружанне перад тым, як паставіць экіпажам баявую задачу.

Даклад Барысаў «Па вашаму загаду...» не стаў слухаць, хоць звычайна перад гасцямі любаваўся выпраўкай сваіх афіцэраў; у другіх часцях пілоты — вышэйшы клас! — трымаюцца перад старэйшымі ўразвалачку. У яго — дысцыпліна! Але тут было не да паказухі, хоць за сталом сядзеў госць — маёр афганскай арміі. У куце стаяў свой — лейтэнант Ніязі, перакладчык. На ўсю шырыню стала разгорнута карта. Падрабязная карта гор, каляровая, але колеры прыглушаныя, з адценнямі — белыя снежныя вяршыні, карычневыя скалы, шэрыя цясніны, адметнага колеру, якому і назвы няма, вадаспады, блакітная плынь рэчак у зялёных далінах... Россып надпісаў па-англійску — ажно ў вачах рабаціць. Карціна аэрафотаздымкі — навейшай, камп'ютэрнай.

Карт такіх не любілі. Іх цяжка чыталі не толькі лётчыкі, але і сам камандзір палка, штабісты, штурманы самалётаў-разведчыкаў. Найлепш у іх разбіраўся Леанід Сушко. Вока мастака схоплівала пейзаж не ў дэталях — у цэльнасці, мысленне мастака пераўтварала здымкі ў натуру. Ён адразу пазнаваў гару, даліну, цясніну.

Палкоўнік узмахам рукі — як хацеў абняць іх — запрасіў да стала. Афганец падняўся, паціснуў рукі. І адразу пачаў гаварыць напеўна, але выразна вымаўляючы кожнае слова. Ніязі перакладаў:

— Маджахеды пралажылі новую дарогу. Во адгэтуль,— маёр начарціў ярка-чырвоным фламастэрам кароткую стрэлку праз пункцір дзяржаўнай граніцы.— Во сюды,— перакінуў фламастэр сантыметраў на дваццаць угару.— Тут не праходзілі вярблюды і коні. Толькі пешаходныя сцежкі. Яны выбілі дарогу вось так,— напісаў звілістую дугу па схіле гары.— Як прамаргала наша разведка? Баялася блізкасці граніцы ці што? Але яшчэ больш дзіўнае. Трэба аддаць даніну інжынерскай смеласці іх шэфаў. За такі кароткі час яны збудавалі мост цераз цясніну. Падвесны. На канатах. Во тут! — умела нарысаваў тапаграфічны знак моста.— Караваны праходзяць мост, спускаюцца вось тут у цясніну, дзе ёсць старая дарога, і выходзяць на аператыўны прастор. Вязуць не толькі аўтаматы, кулямёты, але і ракеты, якімі абстрэльваюць Кабул, аэрадромы, збіваюць самалёты.

Маёр змоўк, паглядзеў на Шувалава. Але той маўчаў, бо Леанід Сушко, а за ім і Пыльчанка схіліліся над картай, уважліва вывучалі яе.

— Разабраліся? — спытаў палкоўнік.

— Знойдзем,— упэўнена сказаў Сушко.— Мост — не іголка.

Ніязі пераклаў маёру. Той уздыхнуў:

— Знайсці, можа, і няцяжка, ударыць па ім цяжка. Во тут, на схіле, ракетныя ўстаноўкі,— паставіў тры знакі баявых кропак.

— Зойдзем адгэтуль,— Барыс зрабіў віраж пальцам.

— Не размахвайся! — папярэдзіў яго Шувалаў нібыта строга, але са смяшынкай у вачах.— Зойдзеш у Пакістан — паляцяць пратэсты. І нам зноў будзе накачка.

— Ім можна, нам — нельга! — Барыс вылаяўся моцна, па-руску.

Маёр гэтыя словы ведаў — засмяяўся.

— Ты дрэнны палітык, капітан,— лагодна сказаў Шувалаў і павярнуў карту да сябе: — Лішніх слоў задача не патрабуе. Маёр яе выказаў: мост знішчыць! Ракетным ударам! Проста, але нялёгка. Разумныя сапёры яго будавалі: разлічылі, як цяжка да яго падысці. Па такой цясніне «гракі» не праляцяць. Не кідайцеся стрымгалоў. На першы раз хопіць і разведкі. Падумаем. У нашых сяброў зямная разведка дзейнічае. Выявім устаноўкі. Перакладзі, лейтэнант.

Маёр згадзіўся.

— О так, так.

— Сушко! Карту табе. Ты вядзеш.

— Ёсць — весці.

— Ну, хлопцы, як гэта кажуць у нас...

— Таварыш палкоўнік, не прымушайце нас пасляць вас...

— А вы пашліце, пашліце. У думках.

Ніязі пераклаў:

— Ігра слоў. Не перакладаецца.

— О, разумею.

— Дазвольце выконваць?

— З богам. І з алахам.

— О, з алахам!

Казырнулі, мільганулі рукі, запэцканыя фарбай, стукнулі абцасамі.

Павярнуліся. Прыгожа, артыстычна.

За чвэрць гадзіны былі над раёнам, паказаным афганскім маёрам на карце. Маланкамі праляцелі над адной цяснінай, над другой, напаўняючы іх такім громам, што абвальваліся камяні. Дзе ж ён, гэты чортаў мост?

— Зойдзем ад караваннага шляху. Глядзі новую дарогу,— перадаў сябру Барыс.

З вяршыні ўбачылі пакістанскі паграгічны пост.

— Пост. Бачыш? Ёсць на карце! — чытаў Сушко.

— Да граніцы не набліжайся. Наробім шуму.

Рэзкі паварот. «Гракі» пайшлі цераз перавал.

— Ёсць дарога,— далажыў вядучы.

— Бачу! — адказаў Барыс. І тут жа пачуў у шлемафоне:

— Ёсць мост! Во мастакі! Не мы з табою. Во распісалі! Жывая скала і жывая вада. Празрысты ён ці што?

Барыс моста не ўбачыў. Размова ў дзесятак слоў — а машыны ўжо апынуліся над голымі горамі, за многа кіламетраў ад цясніны з горнай рэчкай.

— Атакую! Заходжу з усходу.

— Цэлі не ўбачыў! Іду за табою.

Барыс «сядзеў на хвасце» ў сябра. Убачыў, як з яго «грака» пайшлі ракеты. Адна. Другая. З рэчкі шуганулі фантаны полымя і вады. І адразу вырысаваўся мост — негатыў на фатаплёнцы, быццам выбухі праявілі яго. Барыс зларіў у аптычны прыцэл незвычайнае ажурнае збудаванне, што вісела над цяснінай, як павуціна.

Пуск.

Вызваліўшыся ад ракеты, машына ўзнеслася ўгору. Ёсць пападанне? Не?

Сушко заходзіў з поўдня, ад граніцы.

Барыс пераключыў апаратуру аэраздымкі на шырокі дыяпазон, каб зняць вынікі атакі панарамна.

Самалёты збавілі хуткасць — ішлі на разведку.

І раптам у шлемафоне зазумерыла — пі-пі пі — сістэма апавяшчэння «Пуск варожай ракеты».

Дзе яна? На каго ідзе? На яго? На Лёню? Амаль інстынктыўна кінуў машыну ўгору. Так ухіляўся ўжо неадноййчы ад гэтай «цеплавой нахабніцы». Ракета праходзіла пад ім, камп'ютэр не паспяваў трымаць яе па вертыкальнаму курсу.

І тут убачыў яе вогненны след. Ракета ішла за «гракам» Сушко. Рвануў на перахоп, гатовы падставіць сябе, хоць разумеў, што позна ўжо. Націснуў кнопку сістэмы цеплавога адбівання — пусціў гарачыя шары ў яе бок. Не памагло. Хітрая істота, як жывы пёс, ужо ўнюхала след Сушковага самалёта, ідзе за ім, даганяе.

Паспеў крыкнуць:

«Лёня! Стынг! Адыходзь!».

Дзіўна, чаму Сушко ідзе па прамой? Не спрацавала яго сістэма трывогі?

Ратунку няма. Міг — і магутная ўспышка ў небе, як узрыў суперзоркі ў сусвеце.

— Лёня!.. Лёня!.. Друг ты мой!

Барыс пракусіў у роспачы пальчатку, палец рукі. Зняўшы хуткасць да гранічнай, зрабіў круг над месцам гібелі сябра. Адны абломкі ўпалі імкліва, узняўшы на зямлі пыл. І са скалы можна выбіць пыл. Некаторыя, лёгкія, кавалкі абшыўкі ці астаткі Лёніна вопраткі кружыліся ў паветры, ветрам іх адносіла на поўдзень — на радасць ворагам, якія стаіліся, схаваліся пад скаламі, пад каменнем, у кустах.

Вылі, свісталі турбіны, Крычаў Барыс — плакаў, мацюкаўся, ненавідзячы ўвесь свет — усіх, хто давёў да гэтага — вось да такой смерці. «Да лёгкай смерці», як горка жартуюць пілоты. Калі нікому ніякіх турбот на пахаванні. І — ніякага следу ад чалавека на зямлі. Пылінкай узнёсся ў космас.

— Не, Лёня, твой след застанецца! Застанецца!

Паміма паралізаванай волі пілота, па камандзе камп'ютэра «СУ-25» імчаў на поўнач на небяспечнай вышыні: чуць вышэйшая гара — і такі ж пыл, як ад узрыву «Стынгера». Імклівае набліжэнне снежнай вяршыні схамянула Барыса. Ірвануў рычаг вышыні. Самалёт штопарам узвіўся ў неба.

— Не, Леанід! Так я не палячу да нашых. Не! Атрымаецца, што я пакінуў цябе. Я не пакіну цябе. Ім не пакіну! Я знаю, дзе яна, гэтая праклятая ўстаноўка. Яны святкуюць перамогу. Яны расслабіліся. А ў мяне ракеты і кулямёты. У мяне — кулямёты! Буйнакаліберныя! Леанід!

«Грак», апісаўшы вертыкальную дугу, павярнуў назад.

Яны сапраўды расслабіліся, маджахеды і іх саветнікі, гаспадары ракетнай устаноўкі. Яны радаваліся. Адны маліліся алаху. Другія славілі Хрыста шклянкамі з віскі.

Кара абрушылася на іх з хуткасцю маланкі. Удары ракет і град свінцовых куль.

Але не бачыў капітан Пыльчанка, што ў тым баку, куды ён павярнуў, на вяршыні перавалу стаялі скарастрэльныя зенітныя гарматы — прыкрывалі мост. Не з аднымі аўтаматамі ваююць маджахеды!

І цяпер не ўбачыў гармат, іх чэрг. Толькі раптам адчуў, што машына выйшла з-пад яго ўлады. Не, самалёт яшчэ трымаўся ў паветры. Але чужая сіла як бы разлучыла іх — пілота і машыну. А Барыс даволі вопытны, каб не зразумець, што гэта значыць. Чым яны ўдарылі, сволачы? Лазерам ці што? Працягнуць бы яшчэ мінуту — дзве, каб выйсці з варожай зоны, падляцець бліжэй да сваіх. Цягні, цягні, «грачок»! Не. Натужліва завыла турбіна, як бы захлыналася без гаручага ці паветра. Самалёт нахіліўся набок. «Адкіне лапкі ўгору — не катапультуешся».

Барыс націснуў кнопку катапульты. Хапіла б толькі вышыні для раскрыцця парашута! На шчасце, яго выкінула ў міжгор'і. Вышыні хапіла. Метраў за сто ад зямлі парашут мякка саспружыніў.

За гарой грымнуў узрыў. Далёка ж праляцеў яго нябога «грак». Вечная памяць табе, мой верны конь!

Заканчэнне на 33-й стар.





# Свята

На пачатку стагоддзя стомленая, перанасычаная сур'ёзнай класічнай музыкай Амерыка запатрабавала музыкі лёгкай, вясёлай, рытмічнай, музыкі «для ног». Увасобіўшы ўсе гэтыя рысы, імклівы іскрамётны джаз імгненна скарыў сэрцы амерыканцаў і распачаў сваё пераможнае шэсце па ўсім свеце.

Стомленая, перанасычаная ашаламляльнымі рытмамі нашага камп'ютэрна-прагматычнага веку, палітычнымі і эканамічнымі калізіямі, націскам хэві-металу, хард-рока, ламбады, душа славяніна ў канцы стагоддзя запрасіла музыкі, якая б прыносіла спакой, давала палёгку змучанаму бясконцымі стрэсамі сэрцу. Музыкі «для душы».

Гэтым разам не спатрэбілася вынаходзіць нешта новае і нечаканае. Музыка «для душы» знайшлася ў спадчыне продкаў, якую мы некалі там легкадумна і грэбліва адкінулі. Духоўная музыка перажыла сваё другое нараджэнне і, магчыма, распачала сваё пераможнае шэсце, (цяпер з Усходу) па ўсім свеце, несучы з сабою надзею на будучыню, прапагандуючы спрадвечныя ідэалы дабра, справядлівасці, хрысціянскага чалавекалюбства. Стаўшы неад'емнай часткай нашай свядомасці, духоўная музыка сёння адкрыта прызнаецца часткай нацыянальнай культуры.

Па ўсёй краіне праходзяць канцэрты і фестывалі з удзелам лепшых выканаўцаў, у храмах адбываюцца літургіі, у якіх прымаюць удзел не толькі царкоўныя, але і свецкія калектывы. Усё гэта дазваляе з новых пазіцый ацэньваць нашу спадчыну, наводзіць на роздум аб тым, чаго мы сябе пазбавілі і як гэта адбілася на нашай культуры, на грамадстве ў цэлым...

Мяркуйце самі: у кастрычніку 1989 года адбыўся першы Мінскі фестываль духоўнай музыкі, у якім прынялі ўдзел больш за дваццаць харавых калектываў з Мінска, Масквы, Рыгі, Валгаграда, іншых гарадоў. У маі 1990 года па гарадах Беларусі прайшло Свята славянскага

# «Веснік Беларускага Экзархата»

Больш як семдзесят гадоў маўчалі «Мінскія епархіяльныя ведамасці», нібыта не было царквы на Беларусі, не было падзей, навін у жыцці вернікаў...

У студзені 1989 года яго Высокапраасвяшчэнства мітрапаліт Філарэт благаславіў адраджэнне гэтага выдання, якое азнаменавала першы год свайго новага існавання пятнаццацю нумарамі. За гэты час Беларусь набыла статус Экзархата, які аб'ядноўвае шэсць епархій, і сціплыя «Ведамасці» з дапамогай Божай ператварыліся ў ілюстраваны каляровы інфармацыйна-асветны часопіс «Веснік Беларускага Экзархата», які выдаецца Беларускай Праваслаўнай Царквой з благаслаўлення Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі.

Дзесяцітысячны тыраж «Весніка Беларускага Экзархата», які распаўсюджваецца праз храмы на ўсёй тэрыторыі Беларусі, прызначаны не толькі кліру і пастве Праваслаўнай Царквы, але ўсім, каго цікавіць гісторыя роднага краю, царкоўнае жыццё продкаў і сучаснікаў, праваслаўныя хрысціянскія адносіны да падзей у духоўнай, культурнай і палітычнай сферах жыццядзейнасці нашага грамадства.

Рэдакцыя завяршае збор матэрыялаў для састаўлення жыццяпісаў беларускіх святых, распачатых яшчэ «Ведамасцямі». Надрукаваныя на старонках абодвух выданняў жыццяпісы ў 1991 годзе будуць выпушчаны асобнай кніжкай. Акрамя таго выдаецца катэхізісная літаратура ў выглядзе дадатку да «Весніка» — «Бібліятэка «Весніка Беларускага Экзархата», першы выпуск якой пад назвай «Асновы Праваслаўнай веры» звернуты да тых, хто прымае Святое Таінства Хрышчэння, хто стаў на шлях вяртавання. Другі выпуск «Бібліятэкі» рыхтуецца спецыяльна для дзяцей — слухачоў Нядзельных школ Беларускай Праваслаўнай Царквы.

Сур'ёзнай акцыяй створанага на аснове рэдакцыі «Весніка» Выдавецкага аддзела, які ўзначальвае Праасвяшчэнны Дзімітрый, епіскап Полацкі і Віцебскі, стала падрыхтоўка і выданне Евангелля ад Матфея на беларускай мове. Беларускі тэкст Евангелля выйдзе ў свет у складзе **тэтраглоты** — чатырохмоўнай кнігі, і будзе суправаджацца грэчаскім, царкоўнаславянскім і рускім тэкстамі Святога Дабравесця. Гэта выданне ажыццяўляецца пры садзейнічанні Еўрапейскага выдавецкага фонду Аб'яднаных біблейскіх таварыстваў. Пераклад падрыхтаваны створанай у Экзархаце беларускай Біблейскай камісіяй (аб яе рабоце «Веснік» падрабязна расказвае амаль у кожным нумары).

Рыхтуючы чарговыя нумары выдання, якое выходзіць у сярэднім кожныя два месяцы, рэдакцыя імкнецца аб'яднаць матэрыялы ў адзіны тэматычны блок: так, другі нумар расказвае пра кіраўніка Праасвяшчэннай Полацкай епархіі і пра ўрачыстасці, якія адбываліся ў Беларусі 80 гадоў назад, калі мошчы Прападобнай Ефрасінні Полацкай былі перанесены з Кіева ў Полацк. У трэцім нумары — роспавед епіскапа Пінскага і Лунінецкага Стэфана аб гісторыі Мінскай Духоўнай Семінарыі ў Свята-Успенскім Жыровіцкім манастыры, матэрыялы мітрапаліта Антонія (Мельнікава) аб яўленні Жыровіцкага абраза Божай Маці і гісторыі Жыровіцкага манастыра. Увесь чацвёрты нумар аб'яднаны тэмай «Праваслаўе і інтэлігенцыя».

Усе матэрыялы рэдакцыя публікуе на рускай і беларускай мовах па жаданню аўтараў і з захаваннем асаблівасцей аўтарскай арфаграфіі ў беларускамоўных тэкстах.

У новым годзе плануецца выхад шасці нумароў «Весніка Беларускага Экзархата», які друкуе Мінская фабрыка каляровага друку. Як і папярэднія, усе наступныя матэрыялы будуць выконваць благаславенную задачу духоўнай і маральнай асветы і адукацыі нашага Богам сцеражонага народа ў духу Святога Праваслаўя. Багаслоўе і духоўная паэзія беларускіх і рускіх паэтаў, адказы на пытанні і хроніка жыцця Беларускай Праваслаўнай Царквы, гісторыя і сучаснасць царкоўнага быцця і лёс Айчыны ўчора і сёння — усё на старонках выдання Беларускай Праваслаўнай Царквы часопіса «Веснік Беларускага Экзархата».

**Андрэй ПЕТРАШКЕВІЧ,**
**адказны рэдактар часопіса «Веснік Беларускага Экзархата».**



# ДУШЫ




пісьменства і культуры, неад'емнай часткай якога стала духоўная музыка. Паміж дзвюма гэтымі падзеямі, якія адзначылі пачатак і канец сезона, адбылося нямала цікавых канцэртаў і сустрэч.

Фестываль у Мінску прайшоў з вялікім поспехам. Трэба было бачыць, з якім душэўным трапятаннем цягнуліся людзі да гэтай музыкі, з якой удзячнасцю сустракалі і праводзілі кожны калектыў, кожнага выканаўцу, як доўга не змаўкалі ў кулуарах размовы пра праблемы мастацтва і духоўнасці. Слухаючы гэтыя ўсхваляваныя размовы, я пераносіўся думкамі на іншыя канцэрты, канцэрты акадэмічнага напрамку, якія перасталі быць святам, страцілі давер слухача і нярэдка праходзяць у напалову пустых залах.

Надзвычай карысным новаўвядзеннем на фестывалі былі духоўна-асветніцкія гутаркі, якія праводзіліся штодзень перад выступленнем калектываў. У іх прымалі ўдзел дзеячы культуры і царквы, вучоныя і пісьменнікі. Вёў іх маскоўскі пісьменнік і публіцыст Міхаіл Фёдаравіч Антонаў. Гутаркі былі не толькі дапаўненнем да канцэрта. Яны настройвалі на пэўны лад слухачоў, садзейнічалі адмежаванню ад усяго штодзённага, нікчэмнага, рыхтавалі да ўспрымання цудоўнага. Асабіста на мяне зрабілі вялікае ўражанне праніклёныя словы, з якімі звяртаўся да прысутных Міхаіл Антонаў, яго ўменне весці дыялог з аўдыторыяй. Мяркую, без гэтых гутарак фестываль не прыцягнуў бы такое шырокае кола слухачоў. І сярод іх — шмат моладзі, што само па сабе з'яўляецца заваёвай. Пра гэта я і сказаў Антонаву ў прыватнай гутарцы.

**— Так, сапраўды,— адказаў ён,— гэта прыемна. Уласна, гэта з'яўляецца адной з нашых мэт пры арганізацыі фестывалю. Зараз моладзь часта папракаюць, што яна нічым, акрамя рок-музыкі, не цікавіцца. Як бачыце, гэта зусім не так. Яна можа пацягнуцца і да сур'ёзнага мастацтва пры ўмове, што мерапрыемства будзе арганізавана разумна, неназойліва.**

— Духоўная музыка па грамадскай зацікаўленасці сёння можа спаборнічаць з папулярнай музычнай эстрадай. І ў гэтым — павеў часу. Зыходзячы з гэтага, многія крытыкі робяць выснову, што цікавасць да духоўнай музыкі не больш чым мода, што яна вабіць да сябе, як усё новае, што было некалі пад забаронай. Вы згодны з гэтай думкай?

**— Лічу яе памылковай. Духоўная музыка не можа быць моднай альбо немоднай, сучаснай альбо састарэлай. Гэта мастацтва прапаведуе вечныя ісціны і будзе жыць столькі, колькі будзе існаваць чалавецтва. А тую частку слухачоў, якая гэтага не разумее, мы імкнёмся далучыць да ўспрымання цудоўнага праз музыку і слова, схіляць да дум пра вечнае, дапамагаем знайсці ісціну і гармонію душы.**

Сапраўды, на канцэртах старадаўняй музыкі гучыць нямала твораў, якія па свайму характару і тэматыцы не з'яўляюцца культавымі, але выклікаюць гэткую ж непасрэдную рэакцыю слухачоў. Адраджэнне гэтых твораў, на мой погляд, дапаможа ўзнавіць страчаную «сувязь часоў». Вялікі ўклад у гэтую высакародную справу робіць харавы ансамбль «Рускі партэс», у рэпертуары якога шырока прадстаўлена руская і беларуская старадаўняя музыка. Калектыў малады (заснаваны ў 1989 годзе), яго кіраўнік, лаўрэат міжнароднага конкурсу Ігар Жураўленка,— выпускнік Маскоўскай кансерваторыі. У 60-х гадах ён пачынаў сваю творчую дзейнасць у Мінску ў супрацоўніцтве з беларускім музыказнаўцам, цяпер дацэнтам Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі Ларысай Касцюкавец. Яшчэ тады ён выканаў і запісаў на пласцінку беларускія канты, якія расшыфравала Касцюкавец. З таго часу супрацоўніцтва працягваецца.

«Рускі партэс» — тэрмін, малазнаёмы не толькі аматарам музыкі, але і прафесіяналам. Прыведзенае ў слоўніку тлумачэнне слова «партэс» як частка цэлага, як стыль славянскай шматгалосай харавой музыкі мала раскрывае гэтую значную з'яву айчыннай музычнай культуры. Справа ў тым, што ў эпоху Адраджэння на Захадзе пачалі развівацца інструментальнае мастацтва, тэатр, свецкія жанры, у Расіі ж музыка па-ранейшаму засяроджвалася ў храмах, зрэдку пры дварах магнатаў, застаючыся харавой. І ўсё ж павевы часу даносілі за высокія агароджы манастыроў новае мастацтва, новыя тэмы і тэхналогію, што не магло не адбіцца на рускіх песнапеннях. Ранейшыя сцяжковыя распевы замянілі канты, манодыя саступіла месца шматгалоссю. Утваралася тыпова руская форма — трохрадкоўе, ранейшае архаічнае гучанне расквяцілася маляўнічай афарбоўкай новай гарманічнай мовы. Мастацтва харавых спеваў узнялося на небывалую вышыню. Вось гэты перыяд росквіту харавога мастацтва і ёсць рускі партэс, перыяд станаўлення рускай прафесійнай музыкі ў даінструментальную эпоху.

Сярод жанраў партэсных спеваў мы сустракаем і беларускія канты і псалмы, разнастайна прадстаўленыя ў рэпертуары ансамбля. Мяне, натуральна, зацікавіла, чым беларуская кантавая культура адрозніваецца ад рускай. З гэтым я і звярнуўся да Ларысы Філіпаўны Касцюкавец.

**— Перш за ўсё,— растлумачыла яна,— сваёй блізкасцю да вясковага ладу жыцця, да сялянскай песні, а значыць і больш шырокім распаўсюджаннем у народзе. Блізкасць да фальклору, часам поўнае зліццё з ім, абумовіла і характэрныя рысы беларускіх кантаў і псалмоў — іх інтанацыйную, рытмічную і ладавую структуры. Жанравы дыяпазон беларускага канта вельмі шырокі: тут і калядныя песні, і велікодныя псалмы, і псалмы, прысвечаныя святым (сярод іх мноства псалмоў, прысвечаных маці Божай, бо культ дзевы Марыі тут шанаваўся вышэй за культ Хрыста), пакаянныя, апакаліптычныя канты. Былі і свецкія канты — гістарычныя, абрадавыя, вясельныя, любоўныя, жартоўныя. Іх часта спявалі шкаляры, студэнты, псаломшчыкі. Таму, вывучаючы сёння кантавую культуру Беларусі, мы, па сутнасці, вывучаем музычную культуру роднага краю.**

— Ці з'яўляецца гэта такой жа аксіёмай для тых, хто сёння кіруе культурай? Інакш кажучы, ці маеце вы «зялёную вуліцу» для прапаганды вашых ідэй?

**— На вялікі жаль, не заўсёды. Доўгі час мне не давалі разгарнуцца ў сваіх даследаваннях, лічачы, што я ўваскрашаю непатрэбную царкоўную культуру. Зараз стала крыху лягчэй — у кансерваторыі адкрылі кабінет народнай музыкі, у расшыфроўцы ўзораў мне дапамагаюць студэнты. Але, з другога боку, пасля ад'езду з Мінска Жураўленкі, якому я вельмі ўдзячная за падтрымку, у нас не знайшлося ніводнага калектыву, ніводнага дырыжора, які б зацікавіўся вытокамі беларускай музычнай культуры. Лічу, што нашым музыкантам не хапае ініцыятывы, энергіі і кругагляду.**

Праблема, якую ўзняла Ларыса Філіпаўна, на мой погляд, вельмі істотная, і вытокі яе вызначаны правільна — інертнасць агульнага развіцця, адсутнасць творчага пошуку і ініцыятывы, устаноўка альбо на рух па наезджанай каляіне, альбо таптанне на месцы. А калі да гэтага дадаць погляды, распаўсюджаныя па сённяшні дзень, што дакастрычніцкае мастацтва Беларусі не вартае адраджэння і што прафесійная музыка пачала сваё развіццё толькі пасля 1 студзеня 1919 года, то зразумела, якіх поспехаў можна чакаць.

Вось так, у змаганні з падобнымі ўстаноўкамі, з руцінай і дагматызмам, мы даследуем старадаўнюю музыку Беларусі і адкрываем яе непаўторны, самабытны воблік. Дзякуючы самаадданай працы такіх даследчыкаў, як Ларыса Касцюкавец, мы адкрываем для сябе цудоўныя ўзоры старажытных вакальных і інструментальных твораў («Полацкі сшытак», напрыклад), больш даведваемся аб высокай музычнай культуры, засяроджанай у княжацкіх памесцях і манастырах.

Летась нам быў прадстаўлены яшчэ адзін цудоўны ўзор свецкай вакальнай лірыкі — «Куранты». Назву сваю зборнік атрымаў ад распаўсюджанага ў XVIII стагоддзі танца «куранта» — песні, хутчэй за ўсё, абыгрываліся ў дзеянні, суправаджаліся танцамі.

Перад выкананнем кантаты на фестывалі «Мінская вясна» з уступным словам да слухачоў звярнуўся доктар філалагічных навук Адам Іосіфавіч Мальдзіс, які расказаў надзвычай павучальную гісторыю адкрыцця «Курантаў».

Працуючы ў 60-я гады ў рукапісным аддзеле Ленінградскай публічнай бібліятэкі імя М. Салтыкова-Шчадрына, Мальдзіс знайшоў ананімны зборнік, датаваны 1733 годам, які належаў некалі яраслаўскай купчысе. Далейшыя даследаванні выявілі, што зборнік быў заказаны і перапісаны ў нашым рэгіёне, а сабраныя ў ім песні характэрныя толькі для заходніх славян. Усё гэта рабіла знаходку не толькі унікальнай, але і надавала ёй значэнне універсальнага помніка агульнаславянскай культуры.

Аднак лёс зборніка склаўся даволі сумна. Усе спробы апублікаваць яго ў нашым друку засталіся марнымі. Падстава для адмовы была адна: помнік не мае дачынення да нашай культуры (?!). Да таго ж любоўная лірыка і некаторыя фрывольнасці ў тэксце адпуджвалі не ў меру заўзятых ахоўнікаў нашай маралі. А тым часам ужо ў сярэдзіне 70-х гадоў англійскі даследчык славянскай культуры Макмілін, выявіўшы зборнік, адразу ж яго апублікаваў і стаў першаадкрывальнікам. І цяпер мы прадстаўляем слухачам зборнік, знойдзены англійскім даследчыкам.

Варта расказаць і аб тым, як зборнік трапіў на канцэртную эстраду. Вось ужо каторы сезон заслужаны артыст БССР Віктар Скорабагатаў вядзе ў Белдзяржфілармоніі беспрэцэдэнтны па свайму аб'ёму цыкл беларускай вакальнай музыкі, які ахоплівае і дакастрычніцкі перыяд, і XX стагоддзе. У пошуку матэрыялу для сваіх канцэртаў артыст і натрапіў на англійскую публікацыю помніка славянскай культуры. Выпадак, а таксама мэтанакіраванасць і энергія Віктара Скорабагатава вярнулі знаходку нам.

Я ўдзячны ўсім маім субяседнікам, якія ўзнімалі шмат вострых, пакуль не вырашаных пытанняў нашага музычнага жыцця. Але ўсе яны былі аднадушныя ў ацэнцы павароту да духоўнай музыкі як значнага і станоўчага кроку ў асваенні айчыннай культуры. Трэба меркаваць, гэта разуменне ёсць і ў кіруючых колах. Хочацца верыць, што духоўная музыка не будзе больш пудзілам для артадоксаў ад культуры, што яны ўрэшце ўбачаць у ёй не «опіум для народа», а жыватворную сілу здаровага, адухоўленага мастацтва. Чым хутчэй мы ўсвядомім, што культура, нягледзячы на сваю разнастайнасць, адзіная, што свецкае і духоўнае мастацтва мінулага ёсць аснова мастацтва сённяшняга, што, захоўваючы традыцыі, мы ўмацоўваем сувязь з народам, зямлёй, прыродай, тым хутчэй набудзем усю паўнату светаўспрымання, абавязковую для кожнага цывілізаванага і культурнага чалавека.

**Вальтэр МНАЦАКАНАЎ,**
**выкладчык Белдзяржкансерваторыі.**

**● На здымку: Дзяржаўны камерны хор БССР пад кіраўніцтвам Ігара Мацюхова перад пачаткам урачыстай літургіі ў гонар роўнаапостальных святых Кірылы і Мяфодзія ў час Свята славянскага пісьменства і культуры на Беларусі.**

**Фота Яўгена КОКТЫША.**



Шлях да маральнага аздараўлення грамадства, якое сёння бачыцца адной з найпершых умоў выйсця з глыбокага эканамічнага і духоўнага крызісу, што ахапіў усе сферы нашага жыцця, несумненна ляжыць праз адраджэнне нацыянальных, культурных, духоўных традыцый народа, выпрацаваных стагоддзямі. Дапамагчы гэтаму адраджэнню, несумненна, можа і хрысціянства з яго багатай тысячагадовай гісторыяй.

Толькі за мінулыя два гады на тэрыторыі Беларусі веруючым былі вернуты 88 праваслаўных і 61 каталіцкі храм, будуюцца новыя храмы ў Чавусах, Крычаве, Хойніках, Рагачове, іншых месцах. Каштоўнасці хрысціянскай царквы зноў становяцца даступнымі масам.

Для сцвярджэння ў нашым грамадстве прынцыпаў дабра і міласэрнасці, сумленнасці і справядлівасці прадстаўнікі свецкай грамадскасці сёння плённа супрацоўнічаюць з людзьмі Царквы, агульнымі намаганнямі вырашаючы складаныя пытанні развіцця нацыі. А пытанні гэтыя займаюць не апошняе месца ў адраджэнні свядомасці народа: з аднаго боку, народ павінен свята берагчы і захоўваць свае нацыянальныя рысы, мову, культуру, памятаць свае карані, а з другога,— нацыянальная ізаляцыя несумяшчальная і з праваслаўным, і з чалавечым разуменнем універсальнасці чалавечага агульнажыцця...

Спадзяёмся, вы з цікавасцю сустрэнеце працяг публікацыі гутарак выдатнага рэлігійна-грамадскага дзеяча сучаснасці мітрапаліта Мінскага і Гродзенскага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі **ФІЛАРЭТА** з вядомым публіцыстам, крытыкам і гісторыкам літаратуры прафесарам Валерыем Васільевічам **НЯФЁДАВЫМ**.

# КАЗАННЕ ДЛЯ «НЕФАРМАЛАЎ»

**В. Н.: — Наша сённяшняя гаворка адбываецца пасля падзеі, якая адразу ж стала гістарычнай — на 73-м годзе Савецкай улады быў прыняты Закон аб свабодзе сумлення. Факт гэты паставіў кожнага з нас перад маральным выбарам, прымусіўшы вызначыць, хаця б для сябе, свае адносіны да рэлігіі, да сістэмы каштоўнасцей, выпрацаваных ёю. Для тых жа, хто толькі выпрацоўвае светапогляд і ўласную жыццёвую пазіцыю, гэты выбар найбольш складаны, таму хацелася б пагаварыць аб тым, як ставіцца Царква да духоўных пошукаў моладзі, асабліва творчай, ці заўважае яе праблемы. Разважаючы на гэтую тэму, мы непазбежна сутыкнёмся і з паняццем «нефармальныя» групоўкі, якія сталі паўсямеснай з'явай нашага жыцця. Сам па сабе «нефармальны» рух не нясе якой-небудзь «пагрозы». Маладыя людзі жадаюць мысліць нетрадыцыйна, не хаваюць сваіх сумненняў у роздумах аб сённяшнім дні і перспектывах. Мяркую, у маладзёжным асяродку і не павінна быць стомленасці, панылага скепсісу. Да таго ж быць ініцыятарам у пошуку лепшай сацыяльнай і культурнай рэальнасці — справа не толькі адказная, але і захапляльная.**

**М. Ф.:** — Хачу падкрэсліць: адказная менавіта сёння, бо ў нашай рэспубліцы адбыліся і ўвесь час адбываюцца такія глыбокія змены, што без перабольшвання можна гаварыць пра новую эпоху ў гісторыі Беларусі. Мы з'яўляемся сведкамі і ўдзельнікамі нараджэння якасна новага беларускага грамадства, якое пераасэнсоўвае іерархію духоўных і маральных каштоўнасцей і настойліва шукае шляхі для карэнных змен у сваім жыцці да лепшага. Вось чаму дзейнасць кожнага з нас у любой сферы чалавечай творчасці павінна перш за ўсё вызначацца асабістай адказнасцю перад уласным і іншымі народамі краіны, перад гісторыяй.

**В. Н.: — Звяртацца да моладзі азначае ўступаць у кантакт з будучым, «гаварыць вякам, гісторыі», і разам з тым гаварыць з тымі, хто цяпер, у часы перабудовы, нясе цяжар адказнасці за тое, якой уся краіна і Беларусь уступяць у XXI стагоддзе.**

**М. Ф.:** — На сённяшні дзень, мне здаецца, лёс перабудовы залежыць ад кансалідацыі сіл абнаўлення на прынцыповай аснове. У нас у Беларусі не павінна быць расколу ў духу нацыяналізму і ізаляцыянізму. Аднак свае праблемы ёсць...

**В. Н.: — Нядаўна царква адсвяткавала 400-годдзе Патрыяршаства на Русі, якое, гаворачы словамі Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Пімена «У гады смут і іншаземнай навалы на пачатку XVII стагоддзя... мела важнае значэнне як вядучы фактар рэлігійна-нацыянальнай кансалідацыі нашага народа». Патрыяршаства аб'яднала царкву і дзяржаву, з'яднала мноства плямён і народаў. Вялікая Русь стала цэнтралізаванай шматнацыянальнай дзяржавай, якая пераўзышла вялікі Рым. Аднаўленне ў 1918 годзе Патрыярхам Ціханам Патрыяршаства на Русі з'явілася вынікам дзейнасці лепшых прадстаўнікоў царквы на Памесным Саборы Рускай праваслаўнай царквы 1917 года. Царква выйшла на новыя шляхі ў савецкім грамадстве, захоўваючы адданасць місіі патрыятычнага выхавання веруючых і няверуючых, усіх раўнапраўных грамадзян краіны.**

**М. Ф.:** — Так, Масква становіцца буйнейшым цэнтрам праваслаўнага жыцця. Патрыяршаства ў Рускай праваслаўнай царкве ў значнай ступені садзейнічала ўмацаванню рэлігійных сувязей рускага народа з адзінавернымі народамі Украіны і Беларусі. Настойліва адраджаючы культурную спадчыну Кіеўскай Русі, яно ўзмацняла цэнтраімклівы працэс іх зблíжэння, аказваючы праваслаўным украінцам і беларусам духоўную і матэрыяльную дапамогу і, у сваю чаргу, узбагачаючыся скарбамі іх нацыянальных культур. Тым самым гатавалася глеба для палітычнага аб'яднання трох брацкіх славянскіх народаў. У той жа час было б гістарычнай памылкай сцвярджаць, што пасля ўз'яднання Украіны і Беларусі з Расіяй іх народы маглі развівацца вольна, з паўнапраўным захаваннем сваіх моў і нацыянальных асаблівасцей. Палітыка уніфікацыі нанесла вялікі ўрок адносінам рускіх, украінцаў і беларусаў як у часы Расійскай імперыі, так і ў апошнія дзесяцігоддзі. Гэта бясспрэчны і ў многім трагічны факт. Але сёння мы можам і павінны выправіць становішча. Тым больш, што Руская праваслаўная царква ўжо зрабіла практычныя крокі ў гэтым накірунку. Так, яе Архірэйскі Сабор, які адбыўся з нагоды святкавання 400-годдзя ўстанаўлення Патрыяршаства, прыняў рашэнне аб утварэнні на тэрыторыі Беларусі Беларускай праваслаўнай царквы з самымі шырокімі паўнамоцтвамі як у сферы ўнутрыцаркоўнай, так і ў сферы грамадскага жыцця.

**В. Н.: — Моладзь цягнецца да нашай духоўнай спадчыны, якая доўгі час была ёй недаступнай. І паступова высвятляецца, што сучасная гуманітарная праблематыка каранямі злучана са старымі прынцыпамі. Арганічна і тое, што ў свядомасці народаў нашай краіны — на рускай глебе — усё больш укараняецца ідэя прыярытэту агульначалавечых каштоўнасцей перад тымі, якія не кансалідуюць, а раз'ядноўваюць людзей, прыводзяць у стан канфрантацыі, такім чынам адкідваючы назад культурны рух. Зноў набыло актуальнасць шырокавядомае бунінскае пытанне: «Ці варты мы сваёй спадчыны!»**

**І яшчэ адно пытанне, якое, відаць, мацней за іншыя хвалюе сёння моладзь: чаму хрысціянін не можа быць нацыяналістам, а нацыяналіст — хрысціянінам.**

**М. Ф.:** — Гэта вельмі няпростае пытанне, паколькі нацыяналізм — вельмі складаная і глыбокая з'ява. Варта заўсёды памятаць, што чалавек як асоба менавіта праз нацыянальнае жыццё адчувае сваю сувязь з папярэднімі пакаленнямі і ў многім рэалізуе свае творчыя магчымасці ва ўзаемадзеянні з людзьмі сваёй нацыянальнасці. Жыццё нацыі з'яўляецца тым жыватворным асяроддзем, дзе чалавек дасягае сваёй духоўнай і маральнай сталасці.

Разам з тым нацыяналізм амаль заўсёды ўзнікае там, дзе груба парушаюцца правы народа весці паўнакроўнае жыццё на сваёй тэрыторыі, дзе грамадзянская ўлада і грамадскія арганізацыі не могуць альбо не хочуць прадаставіць яму яго неад'емныя правы на самавызначэнне ўласнага жыцця. Нацыяналізм з'яўляецца свайго роду эмацыянальнай формай пратэсту, асабліва сярод моладзі, супраць унітарнага абязлічвання і пазбаўлення нацыянальнай культуры яе законнай аўтаномнасці.

Аднак, калі нацыяналізм пераходзіць ад пратэсту да вылучэння ўласнай праграмы, ён заўсёды ўпадае ў антыгуманнае абмежаванне правоў чалавека на годнае жыццё толькі рамкамі ўласнай нацыянальнасці. Хлусня нацыяналізму заключаецца ў тым, што ён адмаўляе біялагічную і метафізічную сувязь паміж усімі людзьмі і імкнецца падраўняць жыццё народа пад знак абранай нацыі. Нацыяналізм заклікае да нацыянальнага адзінства, нацыянальнага прызвання, хвалюе сэрцы людзей зваротам да ідэалаў нацыянальнай культуры, але ён заўсёды звязвае гэтыя высокія паняцці з абмежаваннем правоў іншых нацый і таптаннем іх годнасці.

Такім чынам, нацыяналізм пад выглядам высакароднага клопату аб дабрабыце ўласнага народа імкнецца да прыніжэння і нават знішчэння асоб іншай нацыянальнасці, паколькі годнасць асобы ў яго спалучаецца толькі з нацыянальнай прыналежнасцю. Гэта немінуча прыводзіць не да росквіту нацыянальнага жыцця, а да яго дэмаралізацыі і дэгуманізацыі, урэшце да нацыянальнага азвярэння. Мяркую, прыклады ў даным выпадку не патрэбны. Чалавек, які супрацьпастаўляе адзін народ другому і выклікае варожасць і нянавісць між імі, не толькі не можа лічыцца хрысціянінам, але непазбежна страчвае сваю чалавечую сутнасць.

Хрысціянскае веравучэнне заўсёды супрацьстаўляла звярынаму аблíччу нацыяналізму сапраўдны патрыятызм. Калі нацыяналізм не хоча ведаць братэрства між людзьмі, імкнецца да перавагі над іншымі і прыводзіць да горшых форм дэспатыі, то патрыятызм, патрабуючы ад чалавека любові да сваёй Радзімы і свайго народа, ніколі не адмаўляе самастойнай каштоўнасці іншых нацый і іх культур. Чалавек, прасякнуты пачуццём патрыятызму, з любоўю і павагай адносіцца да дасягненняў іншых народаў, імкнецца вывучыць і асэнсаваць гэтыя дасягненні, каб увесці іх у жыццё ўласнай нацыі, напоўніўшы яе новым і карысным зместам. Неабходнасць супрацоўніцтва, даверу і ўзаемаўзбагачэння з людзьмі іншых нацыянальнасцей становіцца для яго жыццёвай патрэбай. Такім чынам, калі ў аснове нацыяналізму ляжыць пакланенне грубай сіле і барацьба на знішчэнне, то ў аснове патрыятызму ляжыць жаданне выканаць запаведзь Хрыста — жыць у міры з усімі людзьмі і служыць сваім братам незалежна ад іх нацыянальнасці.

**В. Н.: — У асяроддзі моладзі чуюцца галасы аб аўтакефальнай Беларускай праваслаўнай царкве...**

**М. Ф.:** — Што ж, давайце паразважаем. Аўтакефальная царква — гэта інстытут, які мае незалежныя царкоўныя структуры і валодае поўнай самастойнасцю ў рашэнні любых пытанняў кіравання. Ці патрэбен Беларусі такі інстытут? Для прыкладу ўспомнім, што ўстанаўленне Аўтакефальнай Рускай праваслаўнай царквы ў XV стагоддзі ў асноўным было звязана з нежаданнем падпарадкоўвацца ультыматыўным патрабаванням Канстанцінопальскага Патрыярха, які не хацеў лічыцца з яе інтарэсамі і патрэбамі. І гэта была, хоць і змушаная, але гістарычна абгрунтаваная акцыя.

Цяпер паглядзім на становішча ў сённяшняй Беларусі. Я ўжо гаварыў, што Руская праваслаўная царква пай-



шла насустрач жаданням веруючых у нашай рэспубліцы, устанавіўшы на яе тэрыторыі Патрыяршы Экзархат. Па сутнасці Беларускай праваслаўнай царкве зараз прадастаўлена самая шырокая аўтаномія. Яна мае свой Сінод, права праводзіць Саборы і прымаць на іх неабходныя рашэнні на карысць веруючых і ўсяго беларускага грамадства. Гэтыя рашэнні могуць абмяркоўвацца на Сінодзе Рускай праваслаўнай царквы або быць адхілены яе Памесным Саборам. Але, па-першае, я, як Патрыяршы Экзарх Беларусі, з'яўляюся пастаянным членам гэтага Сінода, а па-другое, наша беларуская суполка мае досыць шырокае прадстаўніцтва на Памесным Саборы Рускай праваслаўнай царквы для таго, каб яе думка абавязкова ўлічвалася.

У той жа час я разумею пазіцыю нашых «нефармалаў». Перакананы, што пытанні: як зрабіць, каб беларускі народ захоўваў нацыянальныя традыцыі, як далучыць усіх беларусаў да каштоўнасцей беларускай культуры, як забяспечыць нацыянальна-культурную незалежнасць нашай рэспублікі? — хвалююць не толькі «нефармалаў», але ўсё грамадства. З шэрагу сустрэч і гутарак я зрабіў выснову, што, на думку многіх, на шляху рашэння гэтых праблем стаіць часткова выкарыстанне ў нашых храмах у час богаслужэнняў царкоўнаславянскай мовы. Што менавіта яна ў многім стрымлівае развіццё і ўдасканаленне беларускага культурнага жыцця. Безумоўна, мова з'яўляецца важным фактарам захавання і ўздыму культуры, фарміравання ладу жыцця і мыслення народа. Але Праваслаўная царква ніколі і не адмаўляла такой яе ролі. Спадчына асветнікаў славян Кірылы і Мяфодзія, якія далі нашым продкам Свяшчэннае Пісанне і богаслужэбныя кнігі на роднай мове, заўсёды была жывой і дзейснай у праваслаўнай свядомасці. І ні я, ні які іншы член Праваслаўнай царквы ў Беларусі не можам мець прынцыповых пярэчанняў супраць ужывання беларускай мовы пры набажэнстве. Калі нейкія абшчыны ў нашай рэспубліцы пажадаюць перавесці царкоўную службу на гэтую мову, гэта іх законнае права.

Таму прапаную ўсім «нефармалам» аб'яднацца з кампетэнтнымі людзьмі, узяць тэксты розных службаў на грэчаскай мове, супаставіць іх з рукапісамі і кнігамі на царкоўнаславянскай і без гучных выкрыццяў правесці карпатлівую, вельмі працаёмкую і адказную работу па перакладу гэтых тэкстаў на мову беларускую. Тым больш, што ўсе ранейшыя спробы ў гэтай галіне былі няўдалымі, і тыя, хто сёння ўзяў бы на сябе гэту задачу, аказаў бы і Беларускай праваслаўнай царкве, і беларускай культуры бясцэнную паслугу. Са свайго боку, Царква гатова аказаць неабходную дапамогу, хоць, як мне здаецца, гэту работу нам ўсё ж давядзецца выконваць самім.

Акрамя таго, Царква адкрыта для супрацоўніцтва з усімі, хто сапраўды заклапочаны праблемамі адраджэння беларускай культуры. Мы хацелі б бачыць больш актыўны ўдзел тых жа «нефармалаў», як і іншых жыхароў рэспублікі, у рэстаўрацыі беларускіх храмаў і гістарычных помнікаў, у адраджэнні нашай спадчыны, у дзейнасці нацыянальных беларускіх фондаў. Вядома, гэта не такія прыкметныя акцыі, як выступленні на мітынгах, але менавіта яны могуць дапамагчы нам на справе захаваць і адрадзіць культурную спадчыну народа. На заканчэнне хачу дадаць, што не бачу і нават не магу сабе ўявіць, што Руская праваслаўная царква нейкім чынам жадае стрымаць працэсы, накіраваныя на ўмацаванне і аднаўленне духоўных скарбаў беларускага народа. Наадварот, я перакананы, што яна будзе толькі садзейнічаць ім і вітаць усе нашы намаганні ў гэтым накірунку. І ўсё ж хачу запэўніць нашых «нефармалаў», што калі заўважу нейкія спробы з яе боку да культурнай уніфікацыі, то першы пастаўлю пытанне аб аўтакефаліі нашай Царквы.

**В. Н.: — Сёння маладыя прадстаўнікі беларускай літаратуры, культуры як ніколі заклапочаны захаванасцю нацыянальнай спадчыны, лёсам роднай мовы і культуры. Хочацца звярнуцца да прамовы Ігара Дзядкова, уключанай у матэрыялы памятнага ў беларускім пісьменніцкім асяродку «круглага стала», праведзенага «Литературным обозрением» (1988, № 11) і прысвечанага маладым беларускім празаікам, паэтам, многія з якіх згуртаваліся ў «нефармальныя» аб'яднанні: «Беларуская мова,— калі ты яе чуеш або ўспрымаеш з тэкстаў,— прыўносіць дастаткова многа адценняў у славянскае ўспрыманне свету, і ты адчуваеш сябе багацейшым». Хораша сказаў і рускі паэт, беларус па паходжанню І. Шкляроўскі: «...беларуская мова... уся з прыроды. На кожным карэньчыку беларускага слова ёсць паветра». «Давайце ж будзем... правы мовы... адстойваць без фанабэрыі і пыхлівасці, з болем, любоўю і пяшчотаю». А як вы, уладыка, разумееце гэту праблему?**

**М. Ф.:** — Мае адносіны да любой, у тым ліку і беларускай, мовы вызначаюцца Свяшчэнным Пісаннем і Праваслаўным Паданнем. Так, Свяшчэннае Пісанне разглядае страту мовы як самае цяжкае пакаранне, якое толькі Бог можа накласці на чалавека. А ў жыцці святога роўнаапостальскага Кірылы каштоўнасць роднай мовы цэніцца вышэй за золата, серабро і каштоўныя камяні. Таму я лічу, што захаванне і развіццё беларускай мовы з'яўляецца адной з самых важных задач беларускага культурнага адраджэння. І. Дзядкоў, безумоўна, мае рацыю, калі гаворыць, што «беларуская мова... прыўносіць дастаткова многа адценняў у славянскае ўспрыманне свету». Аднак з яго вызначэння я б выкінуў словы «дастаткова многа» і проста б сказаў, што беларуская мова вызначае беларускае, славянскае светаадчуванне, фарміруе лад мыслення і нацыянальныя асаблівасці беларускага народа, ляжыць у аснове арыгінальнасці беларускай культуры, надаючы ёй адметныя і цудоўныя рысы. Урэшце, тое, чым так заклапочана беларуская грамадскасць — сцвярджэнне аўтаномнасці нацыянальнай культуры,— непарыўна звязана з развіццём беларускай мовы.

Хачу адзначыць, што Беларуская праваслаўная царква таксама шчыра зацікаўлена ў захаванні і ўдасканаленні роднай культуры. Як вядома, паміж Царквою і беларускай культурай заўсёды існавалі шматбаковыя сувязі. З аднаго боку, Евангелле, з'яўляючыся свайго роду гарчычным зернем, апладатварала прыроджаныя духоўныя скарбы беларускага народа і тым самым стымулявала стварэнне шэдэўраў беларускай культуры. З другога, наша Царква, жывучы на працягу тысячагоддзя на тэрыторыі Беларусі, карысталася дасягненнямі яе культуры, каб, у сваю чаргу, распаўсюджваць слова Божае. Беларуская літаратура і мастацтва заўсёды мелі, а сёння набылі для нашай Царквы асаблівую каштоўнасць і значнасць. Мы не менш, а магчыма і больш, чым «нефармальныя» аб'яднанні, зацікаўлены ў тым, каб яны на сённяшнім складаным этапе ў гісторыі Беларусі змаглі найбольш адэкватна адлюстраваць прыроду беларуса, яго праблемы і яго вопыт у імкненні ўдасканальваць беларускае грамадства, дапамагчы набыць яму сваё месца ў гісторыі, прадвызначыць лепшую долю. Таму Беларуская праваслаўная царква гатова падтрымаць дзеячаў беларускай культуры, каб яны адчувалі сябе прызнанымі ў сваёй дзейнасці. Зараз у Мінску, ды і ў іншых гарадах Беларусі, пры праваслаўных храмах адчыняюцца нядзельныя школы. Запрашаю ўсіх, хто лічыць сябе прадстаўнікамі і творцамі беларускай культуры, наведваць гэтыя школы для больш глыбокага вывучэння слова Божага і свяшчэнных дысцыплін, бо перакананы, што тайны хрысціянскай веры стануць для іх каштоўным стымулам у іх творчасці на карысць беларускага народа.

**В. Н.: — Хочацца верыць, што маладая беларуская інтэлігенцыя адыграе сваю ролю ў справе духоўнага яднання з яго прынцыпамі плюралізму думак, галоснасці. Маладзёжная грамадскасць са зразумелай трывогай выказваецца супраць «панылай кансалідацыі», аднастайнасці, казарменнага стылю, артадаксальнасці. Гэта з аднаго боку. А з другога, у маладзёжнай сферы заўважаецца агрэсіўнае мысленне, групаўшчына, воля да насільнага падаўлення апанента. Відаць, нам яшчэ трэба вучыцца культуры дыскусій: праз гуманізацыю і дэмакратызцыю навучання, пераадоленне чорна-белага мыслення мы прыйдзем да якаснага росту маладых пакаленняў. Але шлях гэты цярністы, рэальнасць шматгранная...**

**Сёння свяшчэннаслужыцелі прымаюць усё больш актыўны ўдзел у паўсядзённым жыцці. Наогул, у традыцыях рускага праваслаўя гатоўнасць аказваць духоўную дапамогу людзям у іх цяжкіх абставінах, у імкненні да маральнага перавыхавання. У свой час праваслаўнае хрысціянства заклала адзін з краевугольных камянёў у падмурак вялікай рускай духоўнай традыцыі, па-за якой сучаснае грамадства не мысліць захавання і ўзбагачэння агульначалавечых каштоўнасцей. Мяркую, і ў наш час Царква дапаможа маладому чалавеку, чалавеку мастацтва, і грамадству паверыць адзін у аднаго.**

**М. Ф:** — Я найперш пажадаю нашым маладым людзям быць інтэлігентнымі людзьмі. Гэта азначае ў першую чаргу быць здольнымі зразумець пазіцыю і матывацыі апанентаў, што, як вядома, дапамагае пераадолець рознагалоссе ў пунктах погляду і вядзе да ўзаемнай павагі і братняга ўзаемаразумення. Аднак, як вядома, аднаго добрага пажадання мала. Як пераадолець чорна-белае мысленне і прыйсці да духоўнага росту маладых пакаленняў — пытанне вельмі няпростае ў наш складаны, крызісны час. У сваёй перадвыбарнай платформе адным з галоўных напрамкаў дзейнасці ў выпадку выбрання мяне дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР я вызначыў усямернае ўмацаванне і развіццё інстытутаў сям'і і шлюбу. Даволі з нас мільёна разводаў на два мільёны шлюбаў па краіне і 374 тысяч абяздоленых дзяцей-паўсірот, у многім пазбаўленых магчымасці карыстацца культурнымі і матэрыяльнымі дабротамі. У праваслаўнай традыцыі сям'я лічыцца малой Царквой. І менавіта ў сям'і чалавек атрымлівае цэласнае ўспрыманне свету, культуры, дзе дзеці, сагрэтыя бацькоўскай і мацярынскай любоўю, лягчэй спасцігаюць іерархію духоўных і маральных каштоўнасцей, а разнастайныя формы нацыянальнай культуры перадаюцца маладому пакаленню натуральным шляхам. У гэтым аспекце лічу першаступеннай задачай надаць асаблівую ўвагу маці сямействаў, асабліва маладым. Неабходна скараціць іх рабочы час, стварыць ім умовы належнага сацыяльнага жыцця і працы, каб яны мелі час на ўдзел у культурным жыцці, а набытае імі потым будзе перададзена дзецям і, сапраўды, прывядзе да якаснага духоўнага і культурнага росту маладых пакаленняў. Лічу гэты шлях калі не адзіным, дык найбольш эфектыўным, бо менавіта ён, на мой погляд, вызначае перспектыву развіцця беларускага грамадства.

**В. Н.: — На сустрэчы з Патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі Піменам і членамі Свяшчэннага Сінода М. С. Гарбачоў падкрэсліў: «Адносіны да Царквы, да веруючых павінны вызначацца інтарэсамі ўмацавання адзінства ўсіх працоўных, усяго нашага народа». Мы ідзём у гэтым накірунку. Думаю, вы падзяляеце меркаванне, што прагрэсіўная творчая моладзь, веруючая і няверуючая, парадуе нас творамі, якія не абмяжоўваюцца цяжкімі падзеямі мінулага, дэструктыўнымі момантамі сённяшняга дня, але і будуць звернуты да комплексу ідэй, характэрных для фундаментальнага разумення далейшай гісторыі...**

**М. Ф.:** — Дазволю сабе прывесці цытату са сваёй кнігі «Выберам жыццё» (Масква, 1987), у якой размова ідзе аб «памяці нашых вялікіх продкаў — славян, стваральнікаў вялікай і вольнай Русі, якая стала калыханкай трох вялікіх брацкіх народаў — рускага, украінскага і беларускага. Яны звязаны роўнымі і непарыўнымі сувязямі адзінства веры і адзінства гістарычных лёсаў і згуртавалі вакол сябе ў непарушную і вялікую сям'ю многія брацкія народы, заснаваўшы тым самым адзіную і шматнацыянальную дзяржаву, нашу Богам сцеражоную Айчыну».

Гэтыя словы я і сёння магу паўтарыць творчай моладзі: яна не мае права забывацца на наша адзінае і непадзельнае вялікае мінулае, якое з'яўляецца зарукай светлай будучыні. ■

## Таіса БОНДАР



✦

Адпалымнелі за плячмі вякі,
І толькі свечкі памінальна
плачуць
На камянях, яшчэ й дасюль гарачых
Для дотыку пагляду ці рукі.

Крану — і абпякаюся мінулым,
Ступлю, ледзь адкаснуўшыся,
убок —
І чую, як цяжкім падземным гулам
Варочаецца ўкруг раптоўны змрок.

Бязмежны змрок... Ні згадкі,
ні спадзеўкі
Яго цяжкое тоўшчы не скрануць.
А трэба жыць. І выжыць,
як вядзецца,
Той думкаю, што зжатае не жнуць.

Вякі, гады, імгненні...
Што заўжды
Назад лічыць, на попел азірацца!
Чакае новы крок. І боль. І праца.
І лёс, ужо да скону малады.

✦

Блазны Шэкспіра, іх горкія
ўсмешкі,
Скаргі нябёсаў з дажджом папалам,
Слёзы, слязьмі тымі змытыя
сцежкі
Ў ноч, у яе апаганены храм...
Знойку ад слоў патыхае магілай,
Холадам мёртвых вякоў
і вянкоў —
Шмат іх сплыло за ракою панылай,
Шмат, а не ўнікнуць халодных
акоў.

Холад... Размытыя рысы былога...
След невядомай, няўцямнай жуды
Выведзе, быццам няўзнак,
на дарогу,
Што спалучае клады́ і клады́.

Выведзе, з небам пакіне
сам-насам:
Можна маліцца, а можна —
спяваць...
Вось і спяваю, з шэкспіраўскіх
масак
Выбраўшы тую, дзе слёз не відаць.

✦

Любоў — гэта Бог? Ды тады
Штодня я ўкрыжоўвала Бога,
Каб потым, наскрозь праз гады,
Аплакваць сябе і дарогу.

Сябе — за найгоркі з грахоў,
Дарогу — за ўпартасць і муку:
Сляпому няма берагоў
Ні ў ночы, ні ў дня, ні ў дакукі.

Сляпому што мець, што не мець
Прастору, нябёсы над ёю...
Не, не! Тады лепш ужо смерць
За Бога, за стрэчу з Табою.

Любоў — гэта Бог, гэта — Ты,
Аддадзены мною былому.
Гукні, пагукай з пустаты,
З былога, што стала нам домам!

Гукні — я пачую твой боль,
Твой шэпт, перараслы ў маўчанне:
Я ўсё-ткі з Табой, я — з Табой
Пустымі да зорак начамі.

✦

Агонія веку... Малітвы...
Праклёны...
Даўно не шукае прытулку душа:
Ні зоркі, ні іскрачкі ў небе
замглёным,
Ні следу, ні сцежкі, што помняць
бальшак.
Ці то палыном той зарос,
быццам лесам,
Ці то абярнуўся ў гадзюку і спіць
Ля ног ва Ўсявышняга, ў пыле
прагрэсу,
І пыл на зубах ва Ўладыкі
рыпіць.

Рыпіць — і пагрозліва моршчацца
горы,
І рэкі ламаюць свае берагі:
Пасвечаным — знак,
гарапашнікам — гора...
Ніхто не ўнікае смяротнай тугі!

Агонія веку. Ні страху,
ні жалю.
Даўно не шукае прытулку душа.
Жыццё ж... Яно кінута намі
на шалі,
Як чэрствы, ўчарнелы ад часу
крышан.

Каму — гэта мерка, чыя —
гэта доля,
Як неба канцом пагражае зямлі
І нам, падуладным адзінае волі,
Не ўведаць, былі нашы дні,
не былі?..

✦

Памерла каханне. Забіта каханне.
І свет не заўважыў забойства
свайго:
Хто спаў, хто сварыўся, хто
ўсмяглым дыханнем
Спатольваў свой пал,
каб успомніць агонь.

Агонь, што патух і не ўспыхне,
не ўскрэсне
Для новае веры, для новых
часоў...
Забіта каханне. У мёртвую песню
Жыццё не ўдыхнуць аніводным
са слоў.

Яшчэ нейкі час ажываць непакою,
Яшчэ хто смялейшы прадоўжыць
гульню.
Я плачу... За што, ну за што
мне такое,
Калі яшчэ можна маліцца агню?!
Няхай ён патух і не ўспыхне,
не ўскрэсне,
Ён — жыў, ён палаў, ён пакінуў
свой след
У сэрцы, у вёснах ягоных
і песнях,—
Што сэрцу паэтаву здрадлівы
свет!

У свеце спрадвеку ішло паляванне
На шчасце, на сумных паэтаў яго.
Памерла каханне. Забіта каханне.
Я знаю... Я помню, як біўся
агонь...

✦

Самотным птахам несці наша неба
Назад, у памяць, у распеў званоў,
То змрочны і глухі, то
чыстасрэбны,
Як ручаёк даўно забытых сноў.
Забытых... О, няпраўда,
не забытых!
Так часта змешваліся стрэчы й
сны,
Расстанні й мроі, словы й
іх адбіткі,
На памяці — не дні, гады вясны.
Ужо гады... Адзіна, што пужае.
А раптам і вясна й званы яе —
Прыдумка, выдумка, жыццю чужая,
Прызнаць якую духу не стае?
А раптам не было цябе?
Не будзе?!
Не, не! Ляцяць жа птахі.
Хай назад.
Хай у былое, дзе яны заблудзяць,
Шукаючы вечназялёны сад.
Яны — ляцяць. У непагадзь
і слоту.
Дарма што сад быллём гадоў
зарос...
Самота іх — гэта мая самота,
Дарога іх — гэта сляпы мой лёс.

✦

Як час бяжыць!
За дзень мінае год,
За год да ніткі зношваецца неба,
І зноў на плечы штосьці
ўсцягваць трэба
І ткаць, каб выткаць ранішнім,
яго.
З чаго? З чаго заўгодна. Хоць
са слоў.
Абы яны утрымвалі, ўтрымвалі
Халодны змрок, яго цяжкія хвалі,
Перш чым пакоцяцца паверх галоў.
Пракоцяцца — і выйдзе з берагоў,
Расплёскаецца ціша і застыне
Над мёртвай, безжыццёваю
пустыняй,
Дзе й следу не знайсці каго
з багоў.
І хто будзе шукаць? Бясконцы
шлях.
Ужо тысячагоддзе на сыходзе,
І сонца новых дзён у венах
бродзіць,
А неба зноў свіціцца на плячах...

✦

Ну, вось і прыйшло... Не магу
Заплакаць па чымсьці няўлоўным,
Прывыкшы да сценаў, з палону,
Хоць ключ у дзвярах, не бягу.
І, стомлена ўкрыўшыся сном,
Сама бласлаўляю ўсе страты,
Каб ранак разбавіць віном
З чужога, нязнанага, свята.
Былі — і свой шлях, і свой дом
У садзе жыцця, як вядзецца,
А ў сэрцы, ў нязбуджаным сэрцы
Усё зарастала ільдом.
Я чула той холад, той лёд,
І ўпарта чакала чагосьці.
Чаго? Забыцця? Маладосці?
Спадзеўкі на зорны ўмалот?
Была маладосць, не было,
Не высветліць сёння ні ў кога.
Адна — паміж смерцю і Богам,
Пад небам, што помніць святло...

✦

За далягляд сплывае цішыня,
І з музыкі, журботнай і
дзівоснай,
Перш зоркі прарастаюць, потым
сосны —
У поўны рост, як позіркам абняць.
І ўжо здаецца: гэта з іх галля
Празрыста точацца, сцякаюць гукі
На сцежкі зор і птушак, мне на
рукі —
Далёка ўнізе, ў ночы, спіць
зямля.
Спіць і ўслухоўваецца ў ноч,
у сон,
У спеў званоў яго, ў маю
трывогу...
Ва ўсім замнога плоцкага,
зямнога,
Куды, ў якую высь гукае звон?
Былі ж, былі! — крычу,—
і зорны сад,
І Слова, і званы, што нас
адпелі...
У высь крычу — а вусны
як знямелі,
І цішыня вяртаецца назад.

✦

Агонь — вялікі маг —
Раней, чым справіць трэбу,
Зганяе з сэрца страх
Перад уладай неба.
Ганебна быць рабом
Хоць Госпада, хоць страху,
Як можна ўзвесці дом
На самым грэбні шляху.
На самым грэбні дзён,
На скразняку стагоддзяў:
Хто вечнасці жадзён,
Той край прадоння ходзіць.
А дом — ён для таго
І ўзводзіцца, каб потым
Маліўся ў ім агонь
За грэшнікаў самоты.
Маліўся і змушаў
Услухацца ў прастору,
Імя якой — Душа,—
Душа малітву творыць!
Якою б ні была
Малітва, а ўратуе:
І ноч — згарыць датла,
І страх не закатуе.

✦

Канец дарогі... Скрыжаванне
дзён...
На ім, як на крыжы,— вянок
цярновы...
Наколваецца позірк. Плачуць
словы,
І ціхі плач іх прарастае ў звон.
У звон нябёсаў, выдзьмутых
да зор
Дыханнем вечнасці, дыханнем
змроку.
Нас падзяляе толькі крок,
паўкроку —
Так павузеў, так звузіўся
прастор.
Яшчэ маруджу: крок, паўкроку
ёсць,
Яшчэ чакаю: хтосьці пагукае,
А цішыня — задушліва-цяжкая,
І ў ёй — ва мне! — варочаецца
млосць.
Канец дарогі. Усяму — канец.
Ні кветак, ні лісця на зорным
веццы —
Адно, пагойдваючы, тушыць вецер
Вянок цярновы, згубны мой вянец.

✦

Пакінула нават туга...
Згадаю не вечар, а хмару,
Што тлее, як водсвет пажару,
У цёмных яго берагах.
І згадку не змогуць сагрэць
Ні бераг, ні водсвет трывожны...
Бязбожніцу ў свеце бязбожным,
Мяне не палохае смерць.
Што смерць, калі холад такі,
Што выстыне, вымерзне лета
І змрок, неадольны, сусветны,
Не дні паглыне, а вякі!
Што смерць, калі ноч уваччу
І ўнуку не збыць гэту муку!
Крычу — і не чую ні гуку,
Маўчу — і ад болю крычу.
Былое загнана ў смугу,
Наступнае — ў чад палыновы...
Што могуць бяссільныя словы?
Якое з іх помніць тугу?
Пакінула нават туга.
У згадцы — не неба, а хмара,
Што тлее, як водсвет пажару,
У чорных яго берагах.

ЗЕМЛЯКІ

Першыя калядныя вестуны — падлеткі, якім пакуль не пад сілу вадзіць звязду, ледзь скончыцца святочная абедня, ужо скачуць пад вокнамі з рознакаляровымі зорнымі рагамі, пяюць псалмы і канты: «Ражаство Твае Хрысце Божа наш...» Нават самы скваліны шавец расчуліцца і вынесе ім і цукерак, і булак, і грошай.

— Дай Бог, шоб за год дождалі.

— Дзякуй, дзякуй.

А як надыдзе вечар і праз заледзянелую шыбіну пачуецца ўжо сапраўдны хор, выгляне гаспадар у цемень і застыне ад нечаканасці: звязда круціцца, гарыць усімі промнямі, кліча выйсці за парог. Ды не з пустымі рукамі — з чарачкай, з рублікамі. Тры дні святкуюць у Давыд-Гарадку каляды, і тры ночы вандруюць ад хаты да хаты калядныя зоркі, нясуць людзям пашану і добрыя пажаданні. Але самае галоўнае, самае прыгожае, вясёлае, маскараднае — гэта шчодрыкі, якія, здаецца, святкуюць усе, хто здольны на жарты, песні і скокі. А ў шчадроўную ноч усе на гэта ахвочыя. У кожнай хаце на шаноўным месцы куцця з падасланым сенам. У кожны двор і дом прыходзяць славутыя гарадоцкія конікі:

Адкрывайце акно, шчо б было відно — шчодры вэчор,
Адкрывайце двэры, уставайце з посцэлі — шчодры вэчор.
Да запоймо песню ой слаўному ж пану — шчодры вэчор,
Пану-мешчаніну, шчо й мешчанскаму сыну — шчодры вэчор...

А на каляды ўсе багатыя і шчодрыя. І кладуцца ў торбачку і прысмакі, і свежаніна, і жытнёвачка. Ад хаты да хаты, з канца ў канец, ад царквы Юраўскай да Казанскай царквы, ад замкавай гары да Радзічаў і Каморы шчадруюць у навагоднюю ноч гарадчукі, жартуюць, жадаюць шчасця. У гэту ноч старажытная гарынская Венецыя ператвараецца ў карнавальны горад. А зоркі нябесныя, што пахнуць мёдам і яблыкамі, могуць засведчыць, што лепшага і прыгажэйшага свята ў гэтую ноч на Беларусі няма. Бо дзе яшчэ сустрэнеш такога сяброўскага чорта, у якога міргаюць рогі і вочы, дзе ўсю ноч б'юць званы, а ганарлівыя мяшчанкі пахваляюцца «галовачкамі». І сярод вясёлай карагоднай мітусні скачуць, скачуць белыя конікі.

Анатоль КЛЯШЧУК.
Фота аўтара.



# шчодры вечар

«З архіваў КДБ» —

**ТАКАЯ РУБРЫКА СТАЛА МАГЧЫМАЙ У НАШ ЧАС. СА МНОГІМІ РАССАКРЭЧАНЫМІ МАТЭРЫЯЛАМІ «БЕЛАРУСЬ» МЯРКУЕ Ў БУДУЧЫМ ПАЗНАЁМІЦЬ СВАІХ ЧЫТАЧОЎ. У ГЭТЫМ НУМАРЫ МЫ ЗМЯШЧАЕМ НЕ ВЯДОМЫ РАНЕЙ ВЕРШ ЯКУБА КОЛАСА «МАЯ СПАДЧЫНА».**

**Якуб КОЛАС**

# *МАЯ СПАДЧЫНА*

Я ад ранку і да вечара араў,
А «раллю» маю рэдактар падабраў.
Назляталася і «галак» і «гракоў»
Ратаваць маю раллю ад чарвякоў.
Ратавалі, талачыліся на ёй
І бяды мне нарабілі — оё-ёй!
«Зямля новая» пакрыта дырваном,
І замоўк «Сымон Музыка» са званом.
«У глушы», «Глыбі Палесся» толькі пні,
«Адшчапенец» мой закончыў свае дні.
Над «Распуснікам Савосем» стаіць крыж,
Эх, не доўга жыў на свеце ты, малыш!
Нічагусенькі няма на «Рубяжы»,
«Казкі жыцця» мае леглі пад нажы.
Глушыць ніву маю дзікая трава.
Засталося ад мяне адно «Дрыгва».
Я ўстрывожаны спыняюся, стаю
І з журбой гляджу на спадчыну сваю.
А старанныя «рэдактар», «педагог»
У няшчаснай маёй музы ловяць блох,
Вытрасаюць з яе, беднае, духі.
Няхай бог ужо даруе ім грахі
Ды павузіць прагавітую іх пасць
І хоць трошкі болей розуму ім дасць.



# ЧАС ПІСА... САП...

Гэта было шэсць гадоў назад. Памятаю, я прынёс ў выдавецтва «Беларусь» рукапіс гісторыка-эканамічнага нарыса «Беразіно». У архівах я знайшоў шэраг цікавых матэрыялаў аб гісторыі Беразіно ў эпоху феадалізму і капіталізму, аб тым, каму належала мястэчка ў XVI—XIX стагоддзях. Вядома, гэта былі польскія магнаты. Загадчык рэдакцыі выкінуў большую частку матэрыялу па дакастрычніцкай гісторыі мястэчка і прачытаў мне натацыю: «Вы ўзвялічваеце польскіх магнатаў, а трэба ўзвялічваць людзей працы».

Чамусьці гэтыя словы ўспомніліся мне, калі я чытаў кнігі серыі «Памяць». Першая кніга з гэтай серыі — гісторыка-дакументальная хроніка Шумілінскага раёна. Яна выйшла ў 1985 годзе.

З таго часу выйшла яшчэ тры кнігі серыі «Памяць»: «Бярозаўскі раён» (1987), «Талачынскі раён» (1988) і «Ляхавіцкі раён» (1989). Усе яны выпушчаны выдавецтвам «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі.

Выданне «Памяці» — прыкметная з'ява ў грамадскім жыцці нашай рэспублікі. Гэта добры падарунак краязнаўцам, усім, хто цікавіцца гісторыяй, навукай і культурай Беларусі.

Аўтар гэтых радкоў не збіраецца даваць поўнай і ўсебаковай ацэнкі кніг серыі «Памяць». Яго цікавіць толькі адно пытанне: як асвятляецца на старонках серыі дакастрычніцкая гісторыя беларускага народа, якая налічвае больш як тысячагоддзе.

З 520 старонак кнігі «Шумілінскі раён» дакастрычніцкай гісторыі прысвечана толькі 9 старонак (с. 21—29).

У невялікім матэрыяле «Старонкі мінулага» даследчык В. Скалабан, прыводзячы некаторыя цікавыя факты, імкнецца даць гісторыю раёна да Вялікага Кастрычніка. Але ва ўважлівага чытача ствараецца адчуванне, што і гэтых старонак аўтару занмога. Што новага і невядомага дадуць жыхару Шумілінскага раёна, які цікавіцца гісторыяй свайго раёна, наступныя радкі матэрыялу «Старонкі мінулага»:

«Старажытная гісторыя Шумілішчыны непарыўна звязана з Полацкам, адным са старажытнейшых гарадоў усходніх славян, які ўпершыню ўпамінаецца ў «Повести временных лет» пад 862 г. Горад, заснаваны крывічамі, быў цэнтрам Полацкага княства, якое ўваходзіла ў Старажытнарускую дзяржаву — Кіеўскую Русь. У пачатку 12 ст. з Полацкага княства выдзелілася Віцебскае княства з цэнтрам у Віцебску, заснаваным у 974 г. У пачатку 14 ст. Полацкае і Віцебскае княствы ўвайшлі ў Вялікае княства Літоўскае. У пачатку 16 стагоддзя створаны Полацкае і Віцебскае ваяводствы, у склад якіх уваходзіла Шумілінщчына».

«У Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве БССР у Мінску захоўваюцца інвентары памешчыцкіх маёнткаў, складзеныя ў 1840-я гады. Гэтыя дакументы змяшчаюць звесткі аб вёсках, размешчаных на памешчыцкіх землях, аб сялянах і іх павіннасцях, аб колькасці жывёлы, птушак і т. п. Яны сведчаць, што сяляне аказвалі ўсё больш упартае супраціўленне феадальна-прыгоннаму гнёту — падавалі скаргі на памешчыкаў, адмаўляліся выконваць павіннасці».

Пасля гэтай «шапкі» паведамляецца: «У маі 1848 года адбыліся хваляванні сялян маёнтка Мікалаева Мішнявіцкай воласці».

Добра, што пасля артыкула «Старонкі мінулага» змешчаны матэрыялы «Крэпасць Казьян», «Адкуль пайшло Шуміліна», «Абольская сядзіба», прыводзіцца восем цікавых дакументаў з дакастрычніцкай гісторыі Шумілінскага раёна. Вельмі шкада, што толькі два з іх узяты з архіва, менавіта з Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва БССР у Мінску, а астатнія — з апублікаваных крыніц.

Гісторыка-дакументальная хроніка Бярозаўскага раёна налічвае 439 старонак. Але, у параўнанні з падобнай хронікай Шумілінскага раёна (9 старонак.— **Э. І.**), дакастрычніцкай гісторыі тут прысвечана аж... 24 старонкі.

Шмат цікавага аб археалагічных помніках Бярозаўшчыны даведаецца чытач з артыкула У. Ісаенкі, М. Сікорына «З глыбіні стагоддзяў» і карты «Археалагічныя помнікі Бярозаўскага раёна», матэрыялаў М. Сікорына «Там, дзе жылі нашы продкі», Я. Мараша «Цытадэль каталіцызму», М. Сікорына «На шляху да Вялікага Кастрычніка».

Заслугоўвае ўвагі публікацыя пяці каштоўных дакументаў аб сялянскіх і салдацкіх хваляваннях XIX — пачатку XX стагоддзяў на тэрыторыі Бярозаўшчыны. Шкада, што яны былі знойдзены не ў архівах, а ўзяты з чацвёртага тома кнігі «Беларусь у эпоху феадалізму» (Мн., 1979) і зборніка дакументаў і матэрыялаў «Рэвалюцыйны рух у Беларусі 1905—1907 гг.» (Мн., 1955).

Трэцяй кнігай серыі «Памяць» стала гісторыка-дакументальная хроніка Талачынскага раёна. Па аб'ёму гэта пакуль што самая вялікая кніга названай серыі. Яна налічвае 654 старонкі. І толькі 43 з іх (с. 21—63) прысвечаны дакастрычніцкай гісторыі.

Прыцягваюць да сябе ўвагу матэрыялы А. Мітрафанава «Зямля нашых продкаў», Н. Шаўрук, А. Шнэйдара «Старонкі мінулага», Л. Аляксеева «Горад на Друці», Л. Дучыца, А. Шнэйдара «Барысавы камяні», А. Кулагіна «З архітэктурнага мінулага», Н. Шаўрук, А. Шнэйдара «На шляху да Вялікага Кастрычніка» і інш.

Але і гэтыя артыкулы не пазбаўлены пэўнай павярхоўнасці, блытаніны ў высновах і ацэнках. Вось, да прыкладу, радкі з артыкула «Старонкі мінулага»: «...Да сярэдзіны 19 ст. ва ўмовах крызісу феадальна-прыгонніцкай сістэмы сельская гаспадарка прыйшла ў заняпад. Прыгонніцтва, голад і галеча выклікалі рэзкае абвастрэнне класавай барацьбы ў вёсцы. Сялянскі

# ЦЬ

рух у краіне прымаў усё больш вострыя формы, што вымусіла царызм правесці рэформу 1861 г. па адмене прыгоннага права. Рэформа была праведзена ў інтарэсах памешчыкаў-прыгоннікаў і не дала ніякай палёгкі сялянам. Напярэдадні рэформы і пры складанні статутных грамат памешчыкі адабралі ў сялян амаль усе лепшыя землі. У краіне пачаліся сялянскія паўстанні, якія закранулі і Талачыншчыну».

Навошта такі вялікі ўступ? Каб упамянуць слова «Талачыншчына»?

# РАЎДНУЮ

На наш погляд, вывад аўтараў аб тым, што рэформа 1861 г. «не дала ніякай палёгкі сялянам», з'яўляецца спрэчным, не зусім правільным.

Ці яшчэ: «...У 1870 г. у раёне Талачына ўзнікла эпідэмія халеры. Шмат людзей памерла. Улады былі вымушаны адкрыць у Коханаве бальніцу, а ў Талачыне ў канцы XIX ст. была адкрыта аптэка. Але гэтыя меры не задаволілі патрэб насельніцтва ў медыцынскім абслугоўванні».

Хочацца спытаць у аўтараў матэрыялу: ці ёсць доказы таго, што непасрэднай прычынай адкрыцця бальніцы ў Коханаве была вялікая смяротнасць у выніку халеры ў раёне Талачына? Калі была адкрыта гэта бальніца?

Я не хачу апраўдваць дзеянні мясцовых улад Талачыншчыны, не ведаю аб іх адносінах да паляпшэння стану аховы здароўя ў канцы XIX ст., але як адказаць на пытанне: а сёння стан аховы здароўя задавальняе патрэбы насельніцтва ў медыцынскім абслугоўванні?

Уцешна, што ў кнізе «Талачынскі раён» прыводзяцца тэксты дакументаў аб сялянскім і рабочым руху ў дакастрычніцкі перыяд, у тым ліку з Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва БССР у Мінску. Трэба вітаць ініцыятыву выдавецтва БелСЭ, якая заключаецца ў тым, што дакумент 1532 г. «Барацьба сялян Аболецкай воласці супраць павелічэння паншчыны» каменціруе вядомы даследчык гэтай праблемы, доктар гістарычных навук В. Мялешка.

Добра, што ў гісторыка-дакументальнай хроніцы Талачынскага раёна знайшлося месца для публікацыі «Напалеон уцякаў праз Талачын». Гаворка ідзе пра ўрывак з мемуараў А. дэ Каленкура «Паход Напалеона ў Расію» (М., 1943).

Шмат карыснага і пазнавальнага знойдзе для сябе чытач у матэрыялах «Забастоўка ў 1905 г.», «Тут працаваў Я. Колас», «Зязюля-Тэрэза Гардзялкоўская».

Прачытаўшы кнігу серыі «Памяць», прысвечаную гісторыі Талачынскага раёна, пачынаеш усведамляць, што і ў выдавецтве БелСЭ імя П. Броўкі пачалася перабудова.

Аб тым, што гэта перабудова не толькі пачалася, але і працягваецца, ідзе, сведчыць выхад апошняй, чацвёртай кнігі дадзенай серыі. Гаворка ідзе аб гісторыка-дакументальнай хроніцы Ляхавіцкага раёна (Мн., 1989).

З 439 старонак кнігі дакастрычніцкай гісторыі Ляхаўшчыны прысвечана — колькі б вы думалі? — 112 старонак! Прычым трэба адзначыць не толькі павелічэнне аб'ёму матэрыялу па гэтай праблеме, а якасна вышэйшы ўзровень асвятлення гісторыі Ляхавіцкага раёна ў дакастрычніцкі перыяд.

З вялікай цікавасцю чытаецца артыкул Міколы Чарняўскага «Дрэмле памятка дзён...», які апавядае аб археалагічных помніках раёна. Прыводзяцца фатаграфіі многіх з гэтых помнікаў, у тым ліку каменных прылад з музея Крывошынскай сярэдняй школы, каменнай сякеры з музея сярэдняй школы № 2 г. Ляхавічы.

Уражанне глыбокага навукова-папулярнага даследавання пакідае артыкул М. Спірыдонава, які апісвае гісторыю Ляхаўшчыны ў канцы XV—XVI ст. На падставе скрупулёзнага вывучэння невядомых архіўных матэрыялаў з апублікаваных зборнікаў дакументаў, «Успамінаў» Ф. Еўлашоўскага, прац дарэвалюцыйных рускіх і савецкіх гісторыкаў, а таксама польскіх і літоўскіх гісторыкаў, іншых крыніц аўтару ўдалося стварыць цікавы гістарычны нарыс аднаго стагоддзя.

М. Спірыдонаў прасочвае гісторыю ўладальнікаў маёнтка Ляхавічы: вядомага палітычнага дзеяча Вялікага княства Літоўскага, літоўскага каталіцкага пана А. Гаштольда, магната Я. Хадкевіча.

З інтарэсам чытаюцца радкі артыкула «З сівой даўніны» аб Ф. Еўлашоўскім, матэрыял А. Грыцкевіча, які асвятляе падзеі канца XVI — першай паловы XIX стст. Выкарыстаўшы архівы Мінска і Вільнюса, зборнікі дакументаў і работы польскіх гісторыкаў, аўтар спыніўся на важнейшых вехах з гісторыі Ляхаўшчыны дадзенага перыяду. Чытач даведаецца, што пасля смерці дачкі Яна Караля Хадкевіча — Ганны ўсе маёнткі сталі ўладаннем роду Сапегаў, што дачка Ежы Феліцыяна Сапегі — Мар'яна Казмінская 8 кастрычніка 1760 г. прадала Ляхавічы, Старыя Ляхавічы і іншыя ўладанні за 950 тысяч злотых і 700 чырвоных злотых князю Міхаілу Юзафу Масальскаму. У 1793 г. Ляхавічы і графства як дзяржаўнае ўладанне былі перададзены вялікаму гетману літоўскаму Шымону (Сымону) Касакоўскаму.

Гістарычны нарыс А. Грыцкевіча ілюструецца фрагментамі карцін на гістарычныя тэмы і дакументамі.

Матэрыял Я. Насыткі прысвечан гісторыі Ляхавіцкага раёна ў другой палавіне XIX — лютым 1917 г. Каштоўна, што аўтар артыкула дае глыбокую характарыстыку развіцця прамысловасці і сельскай гаспадаркі Ляхаўшчыны, пераканаўча асвятляе рост унутранага рынку ў 90-х гадах 19 ст. Заслугоўвае ўвагі вывад Я. Насыткі аб зменах у сацыяльнай структуры Ляхавіч, аб ходзе палітычнай актыўнасці працоўных. Так, на падставе аналізу і параўнання розных статыстычных даных Я. Насытка прыходзіць да заключэння, што за перыяд з 1905 г. да мая 1907 г. толькі ў Ляхавічах удзельнічала ў стачках каля 2 тысяч чалавек, у масоўках і маніфестацыях — каля 500 чалавек.

Багаты пазнавальны зарад нясуць матэрыялы В. Цітова «Вачыма этнографа», М. Спірыдонава «Вытокі» (кароткія даведкі аб ранняй гісторыі Ляхавіч і 46 вёсак Ляхавіцкага раёна), М. Ткачова «Ляхавіцкі замак», Г. Сагановіча «Акоўка з Ляхавіч», У. Свяжынскага «Першы беларускі мемуарыст» (Фёдар Міхайлавіч Еўлашоўскі), Н. Здановіч — «Хараство стара даўняга посуду».

Па-першае, настаў час пісаць сапраўдную гісторыю, а не ўрэзаную, калі частка гістарычных дакументаў замоўчвалася. У прыгаданых вышэй кнігах, у прыватнасці, вельмі мала ўвагі ўдзяляецца дэмаграфічным даследаванням, аналізу нацыянальнага складу насельніцтва Шумілоншчыны, Бярозаўшчыны, Талачыншчыны, Ляхаўшчыны.

Па-другое, было б вельмі каштоўна, каб аўтары матэрыялаў па дакастрычніцкай гісторыі раёнаў Беларусі больш удзялялі ўвагі канкрэтным фактам з жыцця і быту насельніцтва, асабліва сялянства.

Па-трэцяе, у сувязі з рэзкім павелічэннем інтарэсу да гісторыі Беларусі эпохі феадалізму і капіталізму трэба перагледзець суадносіны асвятлення дакастрычніцкай гісторыі і паслякастрычніцкай гісторыі. Як-ніяк, першы перыяд ахоплівае звыш тысячы гадоў, а другі — толькі 72 гады.

Па-чацвёртае, і аўтарам, і выдавецтву трэба пакончыць са стандартнымі, шаблоннымі назвамі матэрыялаў, назвамі-блізнятамі ў многіх кнігах, такімі, як «Старонкі мінулага», «На шляху да Вялікага Кастрычніка» і т. п.

Па-пятае, было б добра, каб у матэрыялах дакастрычніцкага перыяду прыводзіліся кароткія біяграфічныя даведкі аб дзеячах навукі і культуры, якія нарадзіліся на тэрыторыі раёнаў, якія даследуюцца.

І яшчэ. Бюро ЦК КПБ прыняло новае рашэнне аб далейшым выданні кніг серыі «Памяць». У сувязі з тым, што выдавецтва БелСЭ не ў стане выдаць гісторыка-дакументальных хронік усіх раёнаў БССР, Бюро ЦК КПБ абавязала кожнае з іншых выдавецтваў да 1995 года выпусціць да дзесяці кніг гэтай серыі. Ёсць небяспека, што гэта паўплывае на якасць кніг серыі «Памяць». Ці варта гэтак абмяжоўваць тэрміны выданняў? Рызыкаваць іх якасцю?

Будзем, тым не менш, спадзявацца, што новыя гісторыка-дакументальныя хронікі раёнаў Савецкай Беларусі ўзбагацяць гістарыяграфію нашага роднага беларускага краю.

**Эмануіл ІОФЕ,**
**дацэнт Мінскага педінстытута імя А. М. Горкага,**
**кандыдат гістарычных навук.**

# ГІСТОРЫЮ

**Мікола АЎРАМЧЫК**



У прыморскім горадзе, дзе вокны
Ззяюць звечара, бы ў сотах —
мёд;
Дзе прапахла соллю ўсё навокал
І лісцём лаўровым навылёт,

Весняю парой неспадзявана
Выпаў снег, зашэрхнула вада.
Долу з пералётных караванаў
Лебедзяў асела чарада.

Ну і што б вы думалі?.. Стыхіяй
З панталыку збітыя зусім,
Усё-такі не засталіся тыя
На вадзе пры беразе марскім,

Дзе жыруюць на выгодзе мірна
Качкі й чайкі тлумнай чарадой,
А знайшлі сабе басейн-градзірню
З падагрэтай грунтавой вадой

Перад вокнамі гарвыканкома,
Побач з домам гандлю і кіно,
Дзе шматлюдна, корм — у гастраноме
І прыгляд начальства заадно.

Значыць, мысляць лебедзі цвяроза,
Думаюць не горш, як чалавек,
Хоць сярод людзей птушыны розум
Выклікае кпіны, нават здзек.



Я скажу: «Не надо рая,—
Дайте родину мою».
Сяргей ЯСЕНІН.

Памагчы не могуць
Праклёны і маленні.
Кажуць: «Трэба жыць, як набяжыць».
У прыморскім раі,
На вечным пасяленні,
Без прытулку вымушан я жыць.

Назіраць міжвольна
За высадкай дэсантаў
З сушы ды з паветра і з вады
Стомленых курортнікаў,
Жвавых экскурсантаў,
Што спяшаюць адусюль сюды.

Дзівяцца Ай-Петры
На сонечным сугрэве,
Аглядаюць кожны парк і пляц,
Волаты-секвоі —
Мамантавыя дрэвы,
Царскі белакаменны палац.

Дзесяць год бадзяюся
У экзатычным раі
Ды ў людзей прыстанішча прашу...
Думкі і ўспаміны
Аб мілым родным краі
Дзень і ноч вярэдзяць мне душу.

Засланіць не здолелі
Велічныя горы
На радзіму запаветны шлях.
Гул марскі нагадвае
Шум вячысты бору,
А секвоі — хвоі на палях.

Ігліцы калючай
Вечназялёны неруш,
Як шыпшыны параснік густы.
То чабор напомняць,
То дзеразу, то верас
Размарыну дробныя кусты.

Вечным сном спачыў бы я
Пад бярозай ніцай,
Адбіваючы паклон зямны
Краю, дзе, як бомы,
Пазваньваюць крыніцы
І азёры звоняць, як званы.





# ПАДЗЕМНАЯ ЦАРКВА

**Ёсць у Карэліцкім раёне, паміж вёскамі Турэц і Пузяневічы, дзіўны ўзгорак. Калі прыкласці да яго вуха, то можна пачуць, як глыбока ў зямлі звіняць званы. Іх звон асабліва добра чуцён узімку. Шмат паданняў расказваюць мясцовыя людзі пра гэты ўзгорак. Але самае цікавае — пра падземную царкву.**

Даўным-даўно паміж вёскамі Турэц і Пузяневічы на ўзгорку стаяла драўляная царква. І вёў у ёй службу поп — айцец Аляксяндр. Шчодра адарыў Бог свайго служку. Даў яму высокі рост, гожую паставу, густы, гучны голас ды жвавы розум. Але, мабыць, каб папу жылося не надта вальготна, Бог паслаў яму наравістую жонку, матушку Аляксандру.

Надта ўжо прыгожай была гэтая жанчына. Тварам нагадвала Багародзіцу са славутага Уладзімірскага абраза, стройным станам — разную званіцу. Хадзіла яна, сціпла апусціўшы вочы, пахвала ад яе ладанам, таму многім думалася, што характар у паповай жонкі, як у святой. І толькі адзін айцец Аляксандр ведаў, што пападдзя мала думае пра Бога.

А была ў матушкі Аляксандры адна мэта — закахаць у сябе ўсіх мужчын мястэчка. І амаль усе грошы няшчаснага папа ішлі на ажыццяўленне гэтай мэты.

І калі ў сваёй лёгкай прыгожай вопратцы, абвешаная жэмчугам ды дыяментамі матушка Аляксандра станавілася паперадзе царкоўнага хору і запявала адзін з псалмоў, які адразу ж падхоплівалі харысты, прыхаджане і прыхаджанкі не зводзілі з яе вачэй, адны з захапленнем, другія з зайздрасцю глядзелі на яе. І толькі адзін мужчына, малады карчмар Антось, ніяк не жадаў звярнуць увагу на жаночыя чары пападдзі, працягваў старанна маліцца. Вельмі гэта не падабалася матушцы Аляксандры. І вырашыла яна дзейнічаць больш рашуча.

Запрасіўшы ў госці карчмара Антося, матушка Аляксандра зразумела, што яму можа падабацца толькі тая жанчына, якая дапаможа разбагацець.

— Скажыце, пан Антось,— ласкава пытаецца пападдзя,— ці не большым быў бы ваш даход, калі б ваша карчма знаходзілася ў такім месцы, куды звычайна сыходзяцца натоўпы паломнікаў?

— Пра што вы гаворыце, шаноўная пані! Пра такое шчасце мы нават баімся марыць,— з ахвотай адказвае карчмар.— А ёсць жа людзі, якім толькі і шанцуе. Узяць, да прыкладу, майго швагра, які мае кандытарскую лаўку ў Полацку, непадалёку ад славутай Сафіі. Які ён багаты і паважаны чалавек!

— Ну, а калі б нейкая святыня з'явілася ў нашых мясцінах?

Ад дапытлівага позірку маладога карчмара не хаваецца хітрая ўсмешка паповай жонкі, і ён пачынае яе разумець.

— Тады, пані Аляксандра, я яшчэ раз упэўніўся б у вашай святасці, бо чыімі ж малітвамі, як не вашымі, будзе паслана дзіва ў нашы мясціны?!

Даўно ўжо ў галаве матушкі Аляксандры выспявала думка, як бы паказаць легкаверным прыхаджанам Божае дзіва. Яна ўжо цішком падлічвала, колькі пасля гэтага пасыплецца грошай у царкоўную казну, колькі прыгожых сукенак, чаравікаў, капялюшыкаў яна зможа набыць для сябе за гэтыя грошы. Размова з карчмаром канчаткова пераканала яе ў неабходнасці гэтай вялікай хлусні.

З таго часу не стала жыцця няшчаснаму айцу Аляксандру. Маліла, дакарала, «пілавала» жонка мужа, і — здаўся поп. Аднойчы з вечара ён зачыніўся ў царкве і нешта рабіў там да самай раніцы. А на другі дзень, якраз на каляды, заплакала святая ікона Багародзіцы. І, калі ўражаныя людзі звярнуліся да айца Аляксандра за тлумачэннем гэтага дзіва, ён сказаў:

— Шмат грашыце, дзеці мае. Так шмат, што нават светлае нараджэнне Збавіцеля нашага не маеце права святкаваць. Плача аб лёсе вашым Багародзіца. Замольвайце ж грахі свае, нясіце ў храм божы ахвяраванні, не скупіцеся!

І пайшлі адзін за адным грэшнікі ў царкву паглядзець на дзіва і пакланіцца перад святыняй, якая плача аб душах людскіх.

Бедны поп ніколі яшчэ не трымаў у сваіх руках столькі грошай. Бляск багацця асляпіў яго, і ён забыўся пра ўсё на свеце.

Не менш быў задаволены і карчмар, да якога цяпер заходзіла шмат паломнікаў, што з'язджаліся сюды з усяго наваколля і папаўнялі яго скарбонку звонкімі залатымі.

Але больш за ўсіх радавалася маладая пападдзя, таму што зараз, калі яна ў новай парчовай сукенцы выходзіла перад царкоўным хорам, на яе з захапленнем глядзеў і апошні з мужчын, які доўга супраціўляўся яе чарам...

Канчаткова звар'яцелыя ад нечаканага багацця, поп, пападдзя і карчмар да апошняга гроша абіралі людзей. Не аднаго чалавека, не адну сям'ю пусцілі яны па свеце з жабрацкай торбай. І грэх іх стаў такім цяжкім, што не пад сілу ўжо было зямлі трымаць яго.

Аднойчы, адразу пасля нядзельнай службы, поп і пападдзя затрымаліся ў царкве, каб падлічыць дзённы прыбытак. Раптам затрэслася зямля, загрымеў гром, страшэнна скрывіліся на абразах твары святых, патухлі лампадкі. І правалілася царква з папом і пападдзёй прама ў апраметную. У той жа час полымя ахапіла карчму. І дарэмна бегаў вакол яе гаспадар, дарэмна спрабаваў патушыць полымя. Карчма згарэла датла.

З таго часу і стаў чуцён падземны звон на ўзгорку паміж вёскамі Турэц і Пузяневічы. Старыя кажуць, што гэта ў пекле, на пацеху чарцям, звіняць званы грэшнай царквы. І чутней за ўсё — на каляды, у той час, калі ўпершыню саграшылі поп з пападдзёй.

Ірына **МАСЛЯНІЦЫНА.**

**А. МАРАЧКІН.**
**Падземная царква.**

...І прыйшоў Час. І запалілі людзі свечкі. Адзін запаліў, бо ў кватэры патухла святло, а яму трэба есці, і ён баіцца, што поўнай лыжкай не патрапіць у рот. Другі запаліў свечкі ля абразоў і пачаў маліцца Богу. А ў трэцяга не было пад рукамі свечак, але ён Мастак, і ён іх намаляваў.
І ажылі на палатне травы і дрэвы, птушкі і людзі... І асвяцілася наша мінулае і будучае...
...І я вяртаўся дахаты. І на вуліцы было сцюдзёна і цёмна. Ды я не мог заблудзіцца. На маім шляху, бачныя толькі мной, гарэлі свечкі, намаляваныя Мастаком. І я ведаў, што прыйшоў Час і ўсе запалілі свечкі...
...Адзін запаліў, бо ў кватэры патухла святло, а яму трэба есці. Другі запаліў, каб маліцца Богу. А ў трэцяга не было пад рукамі свечак, і ён намаляваў іх...
...У майстэрні Гаўрылы Вашчанкі я быў года паўтара назад.
Мастак паказваў новыя работы, і сярод іх была карціна, на якой гарэлі свечкі, пастаўленыя ў памяць нашых продкаў.
Свечкі і сёння гараць перад маімі вачамі. І будуць гарэць, бо карціны — гэта вечныя нязгасныя свечкі, што асвятляюць наша мінулае і будучае. Праўда, адны з нас глядзяць на іх як бы мімаходзь, а другія, каб жывіць душу.
...А Мастак запальвае і запальвае ўсё новыя і новыя свечкі, бо ён — той Чалавек, які ведае, што такое ВЕЧНАСЦЬ.

Віктар ШНІП.





- Такі час.
- Стары гасцінец.
- Чорная быль.
- Краявід.

Фота Алёны АДАМЧЫК.

Мікола ЧАРНЯЎСКІ



## КАПРЫЗНАЯ ПЯСОЧНІЦА

Рады Лорыны сябры —
ёсць пясочніца ў двары.
Ды не рада ёй Ларыса:
не пясочніца —
капрыза.
Ці ж не бачыць, ці ж сляпая —
знай, малую абсыпае!
Той пясок жаўтлява-чорны
на зубах трашчыць,
бы ў жорнах.
Ён забраўся за каўнер —
як шашок,
грызе цяпер!
Не пясочніца — брыда:
з ёй не радасць,
з ёй — бяда.
Тата з мамаю прачулі —
пакаралі капрызулю:
— Да яе, такой благой,
ты, дачушка, ні нагой!
Пасумуе, памарнее —
дык, глядзіш, паразумнее:
каб з табою
зноў спаткацца,
перастане абсыпацца!
А сябры сказалі маме,
а сябры смяюцца хорам:
— Хто з нагамі, хто з рукамі —
ці пясочніца,
ці Лора?



Малюнкі Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

Уладзімір ЯГОЎДЗІК

## ВОЖЫК

Вось дык дзіўны шавец! На спіне сто іголак, а шыць не ўмее. Кожны назаве яго імя — гэта вожык. І мае ён не сто іголак, а ў сто разоў больш. Так, прынамсі, падлічылі вучоныя.

Жыве вожык ва ўсіх мясцінах нашай Беларусі. Найчасцей, вядома, у лесе. Але ёсць сярод вожыкаў і такія, што не цураюцца жыхарства ў горадзе ці вёсцы. Іх можна сустрэць у садзе, парку, непадалёку ад хлява для свойскае жывёлы. Вожык, напэўна, самы адважны са звяркоў — нашых блізкіх суседзяў. Ён не спяшаецца ўцякаць, калі яго хто-небудзь перастрэне на сцяжынцы. Натапырыць свае вострыя калючкі і сярдзіта чуфыкае, пыхкае, маўляў, прэч з дарогі, бо ўкалю! Калі ж крыўдзіцель нападзе, звярок умомант згорнецца ў клубок. Няшмат знойдзецца ахвотнікаў пагуляць з такім калючым мячыкам. Хіба галодная ліса пакоціць яго да раўчука ці глыбокай лужыны. А потым, як вожык стане ратавацца, плыць па вадзе,— цопне яго зубамі за пыску ці жывот.

Дарэчы, вожык і сам адважны паляўнічы. Шмат знішчае шкодлівых жукоў, слімакоў, бурыць мышыныя і кратовыя гнёзды. Асабліва зацята змагаецца з паўзучымі гадамі. Ніколі не абміне гадзюку. Нават самую вялікую і страшную. Спачатку цаляе пашкодзіць, перакусіць ёй хрыбет. Гадзюка ўмела бароніцца. Пагрозліва сыкае, імкнецца ўкусіць звярка. Але вожыка надзейна бароняць вострыя калючкі, і ён звычайна перамагае. Цікава і тое, што маленькія вожыкі адразу нараджаюцца з іголкамі. Аднак напачатку яны ў звяркоў мяккія і белыя. Замест іх праз два — тры тыдні вырастаюць цёмныя і калючыя. Вожычыха старанна апякуецца над сваімі дзецьмі, водзіць іх за сабою амаль цэлае лета.

А ўзімку вожык спіць. У цёплай норцы-гняздзе, зусім без ежы. Як мядзведзь у бярлозе. Спіць і, напэўна, сніць, што вясною, калі прыгрэе сонейка, хтосьці добры пачастуе яго цёплым сырадоем. Малако для вожыка — самы лепшы ласунак на свеце. Сподачкам сырадою звярка лёгка прыручыць. Але трэба памятаць: малако шкодзіць здароўю вожыка. Асабліва, калі наліваць яго шмат і кожны дзень.

Найлепш звяроў і птушак зусім не прыручаць і не чыніць ім аніякай крыўды. Тады яны заўсёды будуць жыць з намі ў блізкім суседстве і добрай згодзе.

Марыя ВАЙЦЯШОНАК

# КАМУ ПАДАРАВАЦЬ ПЧОЛ?

КАЗКА

Бура ў лесе сціхла толькі апоўначы, і Мядзведзь, перачакаўшы непагадзь у суседа Барсука, вяртаўся дамоў ужо без агню — усе даўно спалі.

Ішоў сабе, ішоў, ішоў. Як раптам за нешта зачапіўся і... паваліўся. «Калі ў цябе чатыры лапы, то можна незнарок і самому сабе наступіць на нагу»,— памяркоўна забурчэў ён, падняўся, абтрос футра. І тут заўважыў перад сабой на дарозе скінутую бурай з дрэва калоду пчол. Во дык удалося! Цяпер, нарэшце, ён завядзе пасеку, і ў яго будзе свой мёд! Мёд на сняданак! Мёд на абед! Мёд на вячэру! Трэба абавязкова забраць калоду з сабой!

Так і зрабіў.

Пчолы ўставалі ранюсенька, спяшаліся на паляны, у лес, на лугі — на працу. А Мядзведзь яшчэ спіць, салодкую слінку глытае, салодкія сны глядзіць. Ніякіх табе турбот! «І чаго гэта мне раней не ўздумалася завесці такую руплівую гаспадарку?»— салодка пацягваўся Мядзведзь, урэшце-такі, прачнуўшыся.

Але варта было яму выйсці з хаты да ручая, каб памыцца, як раптам пачуўся трэск, шоргат крылля, злыя галасы, аж пішчом пішчаць.

— Прэч! Прэч адсюль! Хіба не ведаеш, што тут сёння пралягае наша пчаліная дарога?!

Мядзведзь дужа перапужаўся, ледзь паспеў прысесці, як проста над ім пранеслася чорная хмара пчол. «Можа, і праўда тутака болей няможна хадзіць»,— пачухаў Мядзведзь патыліцу. І накіраваўся, як заўсёды, на ранішні шпацыр да старой ліпы. Зноў пачуліся трэск, шоргат крылля і злыя галасы. І тутака, як аказалася, ужо пралягала пчаліная дарога. Мядзведзь не такі ўжо вупар, ён меў добры характар,— збочыў сабе на сцежку, што вяла ў густы ягаднік. А наўздагон яму ўжо неслася:

— Прэ-э-эч!

«Яны ж дзеля мяне самаго стараюцца, што зробіш?— разважаў зусім збянтэжаны Мядзведзь.— Трэба неяк выбачаць, абыдуся салёнымі грыбамі, у мяне іх з восені дзяжа стаіць».

Па дарозе дамоў ён раз за разам кідаўся ўбакі. Бо пчолы сядзелі на кожнай кветцы, на кожным каласнічку травы, яшчэ джгне каторая ў голую пятку. Круцілася ад стомы галава, уваччу рабацела.

Апоўдні ён прылёг адпачыць. Толькі заплюшчыў вочы, як нехта забарабаніў у вуха, загрукаў, як у дзверы.

— Хто там яшчэ?

— Прабачце, я Труцень. Я крыху блізарукі і вось... заблудзіў,— сказаў нехта дужа калматы, тоўсты, але вельмі падобны на пчалу.

Пад вечар зусім сапсавалася надвор'е, пайшоў дождж.

— Ці няма ў вас у хаце добрай пагоды?— прыляцелі да Мядзведзя пчолы-разведчыцы, абшукалі футра, злаваліся.

— У мяне няма ні пагоды ні... цярпення! Зараз жа збірайцеся ў калоду!

Сам сабе падумаў: «Падару я вас суседцы Зайчысе, яна маладзейшая за мяне, вёрткая — управіцца з пчоламі і мёду пакаштуе».

Зайчыха, як на тое, гуляла на лузе, зусім блізка.

— Я невясё-ё-ёлы, я невясё-ё-ёлы,— ці то жалілася, ці то хвалілася адно Зайчаня.

— А я маю ўсё спарадку!— крычала другое.

— Вой! Баю-ю-юся!— запішчэла трэцяе, убачыўшы Мядзведзя.

— А ты заплюшчы вочы!— смяялася з брата чацвёртае.

— Ці любіш ты, Зайчыха, хачу ведаць, салодкае?— пачаў Мядзведзь здалёк сваю гаворку, памаленьку.

— Не і не каштавала,— адказала тая.— Я вось толькі люблю салодка паспаць. Але мне ўвесь час перашкаджае то стары лясны Вецер, ён, сам ведаеш, усё ходзіць па лесе і ходзіць, то Ваўчыца лясне зубамі, то Вавёрка шышку ўпусціць з лап, грымотаў наробіць.

Не, Зайчысе пчолы не патрэбны. Але Мядзведзь не расстроіўся. Занадта ж дуронымі здаліся яму яе дзеці, ды і сама Зайчыха, праўду кажучы, добрая гультайка — усё ніяк не выспіцца. Дзе ім спарадкаваць, зладзіць са злымі пчоламі.

— Зязюля, Зязюля! Колькі мне гадоў жыць?— таксама здалёк, каб прыгледзецца, пачаў Мядзведзь сваю размову.

— Я сёння не варажу, няма калі! Пакуль суседак Сітаўкі і Мухалоўкі няма дома, мне трэба паспець падкінуць ім свае яйкі. Суседкі добрыя і не надта пераборлівыя — не заўважаць падкідышаў, выгадуюць разам са сваімі птушанятамі і маіх зязюлек... Ды вось ужо і кошык падрыхтавала ў дарогу. Ку-ку!— бесклапотна, весела развіталася Зязюля з госцем.

— Што праўда, то праўда, Зязюля не любіць сямейных клопатаў. І як гэта забыўся на тое, як яшчэ летась вяртаўся ён дамоў з гасцей галодны? «Я ўмею варыць толькі адну кашу, і дзве кашы ў маім гаршку не стоўпяцца, выбачай, сусед. Ку-ку!»— сказала тады Зязюля.

Навошта ёй пчолы?

«Вось той, каго я шукаю ў нашым лесе, ён самы маленькі, самы добры і рухавы, яму і падару сваіх пчол»,— узрадаваўся Мядзведзь, сустрэўшы Блакітнае Мышаня.

— Не, я да салодкага не вельмі. Я люблю развязваць вузельчыкі з зярнятамі, вузельчыкі з розным насеннем і сухімі ягадамі. А потым сядзець на паліцы і доўга глядзець на бабуліну шклянку, у ёй яна хавае ад мяне пражаныя гарбузікі. Гэта, дзядзька Мядзведзь, маё самае лепшае і самае салодкае кіно.

Доўга хадзіў Мядзведзь, змарыўся, прываліўся на хвіліну да дрэва, задумаўся. Аднекуль зверху смачна пацягнула нечым печаным. Зірк туды, а гэта Вавёрка пячэ бліны і на вяроўцы іх развешвае, сушыць на сонцы на зіму. Няўжо лета канчаецца? Каму ж гэта падараваць пчол? Трэба спяшацца, і яму самому скора залазіць у бярлогу.

Нарэшце, Мядзведзь аддаў сваіх пчол Чалавеку. Лісіца параіла. Наведваючыся на курасадню, яна заўважыла сабе, што Чалавек сярод яе знаёмых у лесе, у полі і на лузе самы смелы, самы разумны і, бадай, хітрэйшы за яе. І трымае ён поўныя хлявы скаціны і птушак, нават Бусел жыве ў яго на страсе і Шпак у садзе.

Яму якраз і спатрэбіліся пчолы.

Залезшы на зіму ў бярлогу, Мядзведзь яшчэ доўга варочаўся, ніяк не мог абаснуць. Ішоў снег. Сняжынкі лёталі, раіліся перад вачыма. «Гэта зімовыя пчолы...— падумалася напужанаму Мядзведзю, і ён яшчэ глыбей залез пад пярыну.— Што яны зімой робяць? Пэўна, накладваюць лёды ў шкляначкі...»

Холад залазіў у бярлогу. Нават падушка і пярына здаваліся набітымі сняжынкамі — зімовымі пчоламі. Усё калолася, кусалася ў нос, ніяк не ўдавалася заснуць моцна-моцна, на ўсю зіму.

З таго часу Мядзведзь больш ніколі не заводзіў сабе пчол. Праўда, іншы раз, быццам незнарок, наведваецца да Чалавека на пасеку. Хочацца папытацца, як там яго пчолы, а за адным разам і мядком паласавацца.

Эдуард АКУЛІН

## ВАЛЕРКА — КАПІТАН

Як Валерку нам адмыць?
Не запхнеш у ванну.
Кажа тата:— Годзе ліць
Слёзы нібы з крана.

Супакойся, вытры нос,
Паглядзі наўкола:
Ванна — катэр, ты — матрос,
А вадзічка — мора.

Хоць у Афрыку кіруй
Ты свой катэр, сынку,
Ды спярша табе, не злуй,
Мы памыем спінку.

А пасля закруцім кран,
Глянем у люстэрка,—
Не матрос, а капітан
Зараз наш Валерка.

---

## ЗАГАДКІ

● Бегла ліска каля лесу блізка: ні сцежкі, ні дарожкі, толькі залатыя рожкі (маланка).

● Мяне ўсе просяць, мяне ўсе чакаюць, як толькі з'яўлюся — хавацца пачынаюць (дождж).

● Ляцелі галкі, селі на палкі. Сядуць па адной — галка лішняя, сядуць па дзве — палка лішняя. Колькі было галак і колькі было палак? (Тры палкі і чатыры галкі.)

БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ГУЛЬНЯ

## «У КАРАЛЯ»

### ЛІЧЫЛКА

*А ты, коцік, не гуляй...*

А ты, коцік, не гуляй,
Начовачкі прыбірай!
Начовачкі слізкі,
Вядзёрачкі блізкі.
Круг абарвайся,
А ты так астайся.

Перад пачаткам гульні хлопчыкі збіраюць маленькія каменьчыкі. Кожны з удзельнікаў гульні выбірае сабе прыгожанькі каменьчык, які называецца «каралём». Потым яны дамаўляюцца, хто будзе лавіць «пару»— цотную колькасць каменьчыкаў і «лішку»— няцотную колькасць. Пасля гэтага пачынаецца гульня. Адзін з хлопчыкаў бярэ ўсе камяні ў руку і падкідвае ўверх; у той момант, калі камяні ў паветры, ён паварочвае руку далонню ўніз і ловіць іх верхняй часткай рукі; потым зноў падкідвае каменьчыкі і пераварочвае зноў руку, пры гэтым стараецца злавіць «пару» або «лішку», у залежнасці ад умоў гульні. А тады каменьчыкі перадаюцца па чарзе ўсім дзецям. Мэта гульні ў тым, каб злавіць болей каменьчыкаў, пры гэтым кожны «кароль» пры падліку ацэньваецца ў шэсць камянёў. Той, хто больш злавіў іх, мае права першым пачаць гульню ў наступны раз. Удзельнічаць у гульні могуць два — пяць чалавек.



**У нумары 12 за 1990 год мы распачалі публікацыю перакладу «Трэнаса» (1610) Мялеція Смартыцкага, у якім пісьменнік-палеміст звяртаецца ад імя праваслаўнай мацеры-царквы да адступных сыноў. Твор, шматпланавы, сінкрэтычны па свайму жанру, стаў своеасаблівай энцыклапедыяй духоўнага жыцця праваслаўных беларусаў канца XVI — пачатку XVII стст., што змагаліся супраць уніі, адстойвалі правы на існаванне ў Рэчы Паспалітай свайго веравызнання, аўтарытэт якога быў падарваны не толькі нападамі апалагетаў каталіцызму і уніяцтва, але і ўласнымі святарамі, што не дбалі пра духоўнасць сваёй паствы, сваёй веры. Крыўда, боль, нараканні, падчэпкі, праклянцi, плач — вось далёка не поўная гама пачуццяў маці, адвергнутай уласнымі сынамі-крыўдзіцелямі.**

**Мялецій СМАТРЫЦКІ**

# ТРЭНАС

Дык жа ўнікну ў прычыну іх непрымірымай злосці: ці ўзялі ад бацькі па прыроджанаму праву, ці ад маці паводле выхавання. Бо як добры плод сведчыць пра добрае дрэва, так і добрыя паводзіны дзяцей апавядаюць пра добрае жыццё бацькоў. Так і наадварот, злосці бацькоў прыпісваюць тое, што асуджаецца ў нашчадках. Але нічога падобнага не знойдзецца ў бацькоў, бо бацька добры, ціхі, сціплы, лагодны, ласкавы, пакорлівы і ажно да смерці паслухмяны; а маці чыстая, святая, нявінная, пяшчотная і ветлівая. Бацька мудры, справядлівы, шчодры, міласэрны, не паспешлівы на гнеў, ахвочы да ласкі, не вельмі строгі і не навечна ў гневе. Маці дзеталюбная, яна павучае, клапоціцца пра сваіх, паслухмяная ажно да крыві і ўсялякімі дабрачыннасцямі праз таго, хто яе звязаў шлюбам, упрыгожаная і ўзбагачаная. Вось чаму ні бацькоўскае прыроджанае права, ні мацярынскае малако не былі прычынаю такой вялікай злосці нашых дзяцей.

Няхай жа будзе так, што мы, бацькі, прыроджаным правам не з'яўляемся прычынаю іх злосці, аднак па прычыне занядбання добрага выхавання — будзем. Ні ў якім разе! Бо бацька, без перастанку галосячы, кліча: «Ідзіце да мяне, наследуйце мне, чыніце волю маю, памыйцеся і ачысціцеся, адкіньце злосць ад душ вашых і будзьце святымі, як і я святы, і знойдзеце спакой, удастоіцеся благаславенства, атрымаеце карону жыцця». А маці пра што: слухайце, дзеткі, бацькоўскага голасу, прыслухайцеся да слоў радзіцельні вашай, трымайцеся з намі і ўсялякіх даброт шчодрасцю багатымі будзеце. А вы, што ўжо грахом паранены, ад нас адступілі, вярніцеся да Айца, і ён вас прыме, учыніце плады, годныя пакаяння, бо ўжо сякера да карэння дрэва прысланёна, паколькі кожнае дрэва, якое не дае добрага плоду, ссякаюць і кідаюць у агонь. Ужо таксама падыходзіць Айцец, лапата якога ў руцэ яго, і вычысціць гумно сваё, і збярэ пшаніцу ў свіран свой, а плявёлы спаліць агнём непагасальным. Такімі пастаяннага навучання словамі ўсіх разам дзетак нашых павучаем, такое буйнай іх маладосці выхаванне даём. Аднак здрадлівае іх сэрца менш за ўсё хоча ўзрушыцца да гэтага. І гэта ёсць простая да ўсіх разам навука. Асобна ж кожнага стану дзень і ноч напамінанні чынім.

Вы, княжаты і абраныя, судзіце божым судом дaвераных вам падданых, асцерагаючыся таго, каб не давялося вам тым самым судом быць асуджанымі. Не ўскладайце на іх вялікай даніны, ведаючы, што і вам Пан увесь ваш доўг дараваў і чынш за вас заплаціў. А калі што робіце хаваючыся, не гаварыце: «Хто ж нас бачыць?». Бо Айцец ваш знаходзіцца на небе, які ўсё бачыць і ўсё, што хоча, чыніць. Вы, архісвятары і святары, і настаўнікі разумнага статку оўнаў Хрыстовых, стойце непарушна ў дараванай вам ад Бога веры, уважліва клапаціцеся пра давераных вам авечак, мужна супрацьстойце тым, хто спрабуе парушыць праўду. Неспакойных скарайце, пацяшайце маладушных, невукаў навучайце, свавольных і непакорлівых рабіце сціплымі і стрымлівайце, слабых лячыце, тых, хто супраціўляецца, утаймоўвайце. Будзьце прыкладам верных у размове, у абыходжанні, у літасці, у веры, у чысціні. Трымайцеся чытання, напамінання, навукі, прапаведуйце слова, настойвайце ў час і не ў час, дакарайце, пагражайце, прасіце з усялякаю цярплівасцю і навучаннем, бараніце слабых, а непрыстойных напраўляйце, бо вы — соль зямлі і светласць свету. Вас паставіў Дух святы, каб вы пасвілі статак Хрыстовы, які ён набыў сваёю крывёю. Дык будзьце ж тады беззаганнымі, цвярозымі, кемлівымі, пачцівымі, чыстымі, гасціннымі, здатнымі да навучання, не п'яніцамі, не забіякамі, але ціхімі, не сварлівымі, не срэбралюбцамі, домам сваім добра кіруйце. Вы ж — сляпыя вачамі, кульгавыя нагамі, рукі патрабуюць павадыра. Вы — вартаўнікі пры варотах і ключары Царства нябеснага. Вашым рукам даверана сіла звязвання і развязвання. Вы з'яўляецеся святарамі Бога найвышэйшага, што мае дар сябе і іншых пасвячаць, а таму з пільнасцю клапаціцеся, каб нядбальства слепатою і ў сон ляноты пагружаныя, і самі вас, і давераныя вам у неадольную бездань укінуўшы, вечным пякельнага балота смуродам не апаганілі тых, якіх нявінная кроў з рук вашых будзе накіравана.

А да простага люду праз тыя словы напамінанне і навука. Усякая душа няхай будзе пакорная вышэйшым уладам, бо абраныя не страшныя для добрых учынкаў, але для злых. Ці хочаш не баяцца ўлады? Рабі добра і атрымаеш пахвалу ад яе, бо яна з'яўляецца слугою Бога табе на дабро. Калі ж будзеш рабіць благое, бойся, бо Ён не на дарма меч носіць. Дык аддавайце ж тады ўсім тое, што павінны, што Божага — Богу, а што Цэзарава — Цэзару, каму даніна — таму даніна, каму гонар — таму гонар, нікому нічога не будзьце павінны, толькі каб любілі адзін другога, ва ўсім падабайцеся сваім начальнікам, не нагаворвайце, не ашукайце, але ва ўсіх справах паказвайце сапраўдную вернасць. Абраным вашым духоўным, якія сеюшы на Хрыстовым стальцы, таму ж вас, чаму і Хрыстос, вучаць, будзьце паслухмянымі, бо яны адчуваюць як тыя, якія за вас абавязаны даць адказ, ды каб з радасцю тое рабілі, а не ўздыхаючы. Ведайце іх і тым больш шануйце ў літасці за іх работу. Бо гэткая ёсць воля Божая, каб мы, чынячы дабро, затыкалі вусны невуцтву неразумных людзей як вольныя, а не як тыя, што маюць волю для прыкрыцця злосці, як слугі Божыя ўсіх паважайце, брацтва любіце, Бога бойцеся, царовы гонар шануйце. Слугі, будзьце адданы панам сваім ва ўсялякай боязі, не толькі добрым і лагодным, але таксама і прыкрым, бо тое таксама любасць, калі хто дзеля Божага сумнення пераносіць гора, церпячы несправядліва. Бо што за пахвала, калі вы грашыце і, будучы вінаватымі, церпіце, але, калі, робячы дабро, праследаванні цярпліва зносіце, дык гэта люба Богу. Вы ж на тое і пакліканы, бо і Хрыстос цярпеў за нас, пакінуўшы вам прыклад, каб вы ішлі па стопах яго, які не зрабіў ніякага граху, і няма подступу ў вуснах яго. Такія нашы паўсюдныя і пастаянныя павучанні і напамінанні да сыноў, з якіх кожны ясна ўбачыць можа, што мы, бацькі, як правам прыроджаным да злосці нашых нашчадкаў прычынаю не былі, так і занядбаннем павучання і добрага выхавання да таго не былі нагодаю. Бо і ўсіх разам без усялякага погляду на асобы, і кожнага асобна без усялякай лісліваcці прабіраем, караем, напамінаем і павучаем. Аднак, як бачым, яны, затыкаючы, заткнулі вушы свае, каб не чуць голасу нашага. Каго ж гэта больш непакоіць? Каму гэта большага болю дадае? Каго страшней мучыць? І каму гатуе самае небяспечнае жыццё? Гэта я, засмучаная, бедная і самая нешчаслівая з усіх матак, якая, куды толькі не павярнуся,— усюды сыны мае здраду гатуюць. Тут непераадольныя ямы капаюць, там драцяныя сеці закідваюць, адсюль ядавітыя джалы выпускаюць, а адтуль смяротны яд выліваюць, адныя яўна, другія патаемна, некаторыя лісліваcцю, а некаторыя пагардаю, аднак усе аднолькава пасягаюць на маё жыццё, усім адна маці ў нянавісці. Хіба ж я баюся? Хіба палохаюся? Ніколькі. На тым трымаюся, што няхай прыйдзе каторы і завостранае жалеза ў самлелае сэрца маё ўваткне. Няхай падыдзе і збалелае жыццё маткі сваёй адбярэ, няхай здзекуецца над целам спакутаванай радзіцельні. Бо лепш смерць, чым недастойнае жыццё, і больш міла мне раз гвалтоўную смерць прыняць, чым праз бязбожнасць сыноў маіх штодзённа пакутліва паміраць. О, гора сплаканаму майму жыццю. Бяда целу майму ад нязносных балесцяў. Але каб яшчэ пашукаць смяротную крыніцу, адкуль зразлівая злосць на сыноў маіх выплыла, цяжкі стан мой трэба на хвіліну стрымаць, каб у гарачлівасці перад пазнаннем ісціны не выракці на іх праклёну. Бо а ні паходжанне, ні выхаванне бацькоў не з'яўляецца прычынаю — тое ўжо зразумела. Трэба, каб іх саміх, у наследаванні ўказанай Айцом дарогі, нікчэмнае нядбальства і распуснае непаслушэнства да слухання паданага ўмацярынскай навуцы ў іх асяродак унесці, што не інакш разумею як духоўную разам з цялеснаю гнілізну, з-за якой а ні здатна да паслушэнства, а ні цела не свабодна да выканання. Бо, слухаючы,— не чуць — духоўная гнілізна, а слухаць і не выконваць — цялесная. З-за нядбальства ў паслушэнстве вынікла гнюснасць у вучэнні, з гэтага паходзіць жорсткая беспакаранасць, з яе выйшла празмернае гультайства. Гэта было прычынаю мярзотнай пагарды. Ад гэтага кораня вырасла непрыязлівасць. Яна была крыніцаю праследаванне, якое я цяпер пастаянна і ўдзень, і ўначы цярплю. І праследаванне таксама было прычынаю той такой вялікай іх злосці, якое тым больш узвышалася, чым глыбей павінна было ўпасці, бо іншай, акрамя гэтай, прычыны шукаць не трэба, паколькі нядбальства і беспакаранасць з'яўляюцца маткаю непаслушэнства, гультайства, гнюснасці, абыякавасці і ўсялякага грубага невядання, з якіх, як з крыніцы, усялякая злосць выплывае. О, загнілай, гнюснай вады крыніцы! О, ядавітаю труцізною вады напоўненая студня!

Цяпер жа, знайшоўшы прычыну, мне хочацца адразу ведаць, да каго найперш з сыноў маіх завітаў такі патрэбны госць? І якога з іх да паслухмянасці найперш зацягнуў, у якога сабе жытло абраў і дом Духа Божага ў дом свету гэтага перайначыў? Ці ўсіх разам апанаваў, або па аднаму пад сваю ўладу падбіваў? Няўжо найперш ярмо сваё на каркі княжат і абраных абраў? Ці можа над іх падданымі паклаў пачатак? Аднак усялякаму начальству гэтая справа не прыстойная,— наследаваць тую ж прастату, у якой бачыць сваіх падданых, бо іх усялякая неасцярожнасць, і іх паходжанне, і выхаванне абышлі, і каб тыя, якія павадырамі, заступнікамі і абаронцамі простага люду быць маюцца і якія ўсялякай чысціні і разумнасці з дзіцячых гадоў прызвычаіліся, жыццё і звычаі сваіх падданых маглі наследаваць. А калі не падданых, пэўна тады самых абраных тая жорсткая патрава апанавала, а пры іх і тых, якія былі пад абаронаю іх улады, загарнула,— у вядомай ступені справа падобная. Аднак бачу яшчэ адну перашкоду, і яна не меншая,— калі княжата і абраныя не з'яўляюцца такою ўладаю, каб знешне і ўнутрана, гэта значыць, свецкімі і духоўнымі справамі паводле сваёй волі маглі кіраваць. Што ж датычыць свецкай улады: паколькі паны,— то і загадваюць; што ж да духоўнай: паколькі сыны,— павінны слухаць, і тая крыўда нядбальства не з'яўляецца, як бачу, цялеснай, але духоўнай, таму не ў іх, але ў іншым месцы трэба шукаць.

Каго ж мне найбольш не хапае, на каго тое неспакойнае зло найперш абапіраецца, каго яшчэ прагледзела? Плаці, хто на пляцы, як гаворыцца, той вораг, на кім меншае падазрэнне, той, відаць, і злачынцу хавае. Дзе найменш спадзявалася, там у траве вужа знаходжу. Відаць спярша пякельным тым сілам далі сябе зламіць тыя, якія славяцца павадырамі ўсяго грамадства, што тая хвароба як рак па ўсім целе распаўзлася, і якім дадзена ўлада над людскімі душамі, якім слуга і пан, вольны і нявольнік павінны аддаваць паслушэнства і якім давераны ключы царства нябеснага.

Сярод іх адныя з'яўляюцца святарамі, а іншыя архісвятарамі — усе аднолькава пастыры разумных авечак Айца свайго і настаўнікі малодшай сваёй брацці, сыноў маіх павадыры і апекуны. Бо ім княжата і абраныя, багатыя і ўбогія, маладыя і старцы ў справах духоўных пасля Пана Бога павінны аддаваць паслушэнства. Гэта тыя, якім сказана: «Што звяжаце на зямлі, тое будзе звязана на небе». Тыя, што яўна можам бачыць, нядбайным ужываннем улады ключоў не толькі іншых, але і саміх сябе перш звязалі і, перад малодшаю брацціяю неба замкнуўшы, самі засталіся на падворку. Бо, вяжучы цяжкія ёрмы, усклалі на плечы людскія непасільную ношу, а самі не хочуць і пальцам крануць яе. Як відаць, давераныя ягняткі ў аднолькавае з імі нядбальства трапілі, а ўскладзеныя ёрмы, з плеч скінуўшы, пакахалі ляноту, у якой зараз з пастырамі сваімі гінуць у сарамоцці, і мяне, матку сваю, што іх да колішняй пакорлівасці і ўважлівасці ўвядзе, праследуюць і імкнуцца згубіць. Праз тое і гора ім, што зачынілі



(Працяг. Пачатак у № 12 за 1990 г.)

царства нябеснае перад людзьмі, бо самі не ўваходзяць і другіх увайсці не пускаюць. Гора ім, бо пажыраюць душы авечак Айца свайго і пашыраюць шаты свае, распускаюць падолы плашчоў сваіх і, працінаючы каморы, палыкаюць вярблюдаў,— гэта сляпыя павадыры, якія, усеўшыся ў сталіцы Маісея, дрэнна навучаюць і дрэнна чыняць і прагнуць, каб іх называлі рабінамі. Ці не дзіўная гэта і жалобная рэч перад Богам, што і тыя самі, якім дадзены ў рукі лякарства, і даверaныя ім авечкі — запаршывелі, і якім пра другіх апека і пільнасць даручаны, тых саміх нядбальства найперш апанавала. О, царкоўныя лямпы, о, філяры Божага дому, о, пастыры авечак Хрыстовых, о, настаўнікі і павадыры малодшай вашай брацці, як жа вы ўтылелі і патлусцелі і забыліся на Бога, збавіцеля вашага.

Гора вам, пастыры, што распалохалі і разагналі статак авечак маіх і хваробаю нядбальства іх заразілі, за што будзе над вамі самы строгі суд і двайное пакаранне. Калі звятрае соль, чым жа будуць саліць, яна ўжо ні навошта непатрэбная, хіба толькі яе выкінуць прэч на патаптанне людзям. Звятраная соль, пацямнелыя светачы, згаслыя лямпы, раз'юшаныя начальнікі, аслеплыя павадыры, вы ў бездань нядбальства ўпалі, куды і даверaных вам авечак цягнеце. Што ж адкажаце ў той час, калі прыйдзе Айцец ваш і Пан для справаздачы вашай, сыноў і слуг сваіх, калі спытае пра даверaныя вам таланты? О, цяжка мне, матцы, будзе ў той дзень, калі буду глядзець на пагібель сыноў маіх. Гора мне будзе ў тую гадзіну, калі сыны мае і сыны Божыя, якія Евангельскай светласці яснасць добраахвотна згасілі, будуць увержаны ў пякельны агонь. Хто мяне пацешыць у тую гадзіну? Хто стрымае патокі слёз маіх? Гора мне няшчаснай, што нарадзіла сыноў на пакуту сабе і дачок на раны мае! Лепш мне, сапраўды, было заставацца бясплодною, чым глядзець на такія шчыльныя раці бязбожных сыноў. Лепш, сапраўды, і ім было не прыходзіць на свет, чым, нарадзіўшыся, спадкаваць вечную згубу, у якой лепш будзе Садоме і Гаморы, чым гэтым. Бо слуга, які ведае волю Пана свайго, а не робіць паводле яе, будзе моцна пакараны.

О, архісвятары і святары, настаўнікі і пастыры авечак Айца вашага, дакуль жадаеце быць нямымі, дакуль бязлітасна авечак палыкаць будзеце? Не супакойваецеся на малацэ і воўне, якія лупіце, кроў п'яце, а мяса на з'ядзенне воранам і ваўкам выкідваеце. Самі знямелі і іншым гаварыць забараняеце. Хіба ж столькі статку авечак у царкоўнай аўчарні было ў не такія аддаленыя часы? Ці столькі роду Божага ва ўладу і кіраванне вам было дадзена? Спіце, пастыры, а вораг чуе. Храпіце, вартаўнікі, а Сатана як леў авечак хапае і адных вядзе да вечнай згубы, а другіх у сарамотныя мукі, а Божых і вашых ворагаў павялічваецца. Затыкаеце вушы, бо не хочаце слухаць Айца, які гаворыць: «Сыне чалавечы, я паставіў цябе вартаўніком дому Ізраілевага і ты будзеш чуць з вуснаў маіх слова і прапаведаваць яго ад мяне. Калі я скажу беззаконніку: «Беззаконнік, ты смерцю памрэш», а ты не будзеш нічога гаварыць, каб перасцерагчы беззаконніка ад шляху яго, то беззаконнік памрэ ў граху сваім, але кроў яго спытаю ад рукі тваёй». Сапраўды, строгае слова і страшны прысуд. Хіба не баіцеся ці не палохаецеся страшнага гэтага дня, у які за давераны вам статак павінны даць адказ. Благі слуга і лянівы, бо, маючы грошы маё, належала аддаць іх тым, што імі гандлююць, і я, прыйшоўшы, дастаў бы маё з прыбыткам. Вазьміце ж тады ад яго гэты талант, а нягоднага слугу кіньце ў цемру,— там будзе плач і скрыгат зубоў.

Дзе цяпер светачы без заганы, якія б не сабе дагаджалі, але даверaнаму ім статку так, як ад іх найвышэйшы архісвятар патрабуе і, як вышэй у навуцы да іх успамінала, клопат і стараннe мелі. Цяпер такія настаўнікі, якіх прыстасавалі да сябе сыны мае паводле свайго жадання, лашчаныя па слыху, якія ад праўды слых адвярнулі, а звярнуліся да казак. Саміх сябе, свет, славу, багацце і раскошу больш чым Бога і збавенне людское мілуюць; некалі мелі прыклад пабожнасці, аднак ад яе сілы і супраціўліся праўдзе — людзі скажонага розуму і падазронай веры. Але больш не калачуся, бо шаленства іх будзе ўсім навідавоку, паколькі не нябеснымі, але зямнымі думкамі напоўніліся. Праз іх прыйшоў да мяне не голад, але голад на слова Божае, не прага вады, але смага Евангельскай пропаведзі. Адабраныя ад мяне прарок і настаўнік, пазбавілася я павадыра і пастыра: многа цяпер пастыраў па імені, але мала па справе. Бо некаторыя з цяперашніх пастыраў разумнага статку Хрыстовага хіба што над неразумным статкам аслоў могуць быць годнымі пастырамі. Што ж яшчэ? Гэта не пастыры, а драпежныя ваўкі, не павадыры, а галодныя львы, якія адных авечак самі без шкадавання пажыраюць, а другімі цмокавы пашчы без літасці затыкаюць. О, няшчасны статак, хіба настаўнікам і пастырам можа быць той, хто сам ніколі не вучыўся? Які не ведае, што Богу вінен, а што блізкаму свайму? А што ўжо даверaным яму авечкам? Які з дзіцячых гадоў сваіх не навукаю Святога пісання, але іншаю нейкаю духоўнаму стану непатрэбнаю забаваю, або ў нікчэмнасці малады век страціў. А калі надакучыў яму недахоп у пажыве і адзенні, і нястача пачала шыю круціць, узяўся прапаведаваць, не ведаючы, што такое пропаведзь, і не разумеючы, як яе трэба чытаць. Але адныя з корчмаў, другія з двара, гэтыя з войска, а некаторыя з пабораў без усялякага выбару і без усялякага добрага сведчання з дапамогаю золата і серабра ў дом Божы ўвергліся. Таму не дзіўна, што, як нягодныя, з сорамам з яго павыпадалі. І сталі апастатамі праўды Божай і здраднікамі даверaнага ім статку. Гора ўбогім ягнятам, якія маюць такіх пастыраў. Гора тым, што ідуць за такімі павадырамі, якія самі, будучы сляпымі, гэтых у тую ж яму бездані спрабуюць спіхнуць. Гора і вам, з-за нядбальства якіх гэтыя ўвайшлі ў дом Божы. Гора і вам, што спусташаеце дамы Божыя, бо і самі ад яго знішчаны будзеце. Гора вам, Айцы, якія самі, не навучыўшыся быць сталымі, айцоўскім імем дзетак маіх зводзіце. Гора вам, Айцы, якія ўласных сваіх нашчадкаў добра не выслухаўшы, злой умяшчальні прыкладаць з сябе падаеце. Гора і праклятым вашым Сімонам, ад якіх вы ўзялі духоўнае пасвячэнне на тыя пасады, якія ведаю, што не для годнасці вашай, і не для таго, каб выконваць просьбы брацці, вас рукапалажылі, але для неабходных вам ласункаў, для хцівага жадання грошай, прагнучы якіх адышлі ад праўдзівай веры і ўцягнулі сябе ў многія хваробы.

**Працяг будзе.**
**(Пераклад з старапольскай мовы**
**Уладзіміра КАРОТКАГА.)**
Афармленне Анатоля **АЛЕКСАНДРОВІЧА**.


NA HERB STARODAWNY
Jásnie Oświeconych Kśiążąt Ich Mośći/ Wiśniowieckich.

M K
X W

Swiecą Miesiąc ná niebie wespoł y z Gwiazdámi/
Ták ci Korybutowie dźielnymi sprawami
Słyną ná wszystek okrąg szerokiego świátá/
Ich sławy nie zagłádzą y naydłuższe látá.
Sławy ktorey nabyli zacni ich Przodkowie/
A w niey teraz dźiedźiczą meżni Potomkowie.
Ich wzorem służąc miłey Oyczyźnie státecznie/
Dla niey waląc mężność y zdrowie bespiecznie.
Zá drogi Kleynot Wiárę Oyczystą chowáło/
A ná znák pewny tego/ Krzyże w Herbie máło.


ΘΡΗΝΟΣ
To iest
Lament iedyney ś.
Powszechney Apostolskiey
Wschodniey Cerkwie/ z obiáś-
nieniem Dogmat Wiáry.
Pierwey z Graeckiego ná Słowienski, á teraz z
Słowienskiego ná Polski przełożony.
Przez
Theophilá Orthologá / Teyże świętey
Wschodniey Cerkwie Syná.
W WILNIE
Roku Páńskiego 1610.











# Канфіскуем — будзем жыць?

ПА РЭСПУБЛІЦЫ ПРАКАЦІЛАСЯ ЧАРГОВАЯ ХВАЛЯ АРЫШТАЎ НУВАРЫШОЎ «ЦЕНЯВОЙ» ЭКАНОМІКІ. ТАВАРАЎ НА ПРЫЛАЎКАХ НЕ ПРЫБАВІЛАСЯ.



## І. НАКІРАВАНЫ ВЫБУХ ГНЕВУ

Сёння самазадаволены ўладальнік дзяржаўнай дачы і бабулька-жабрачка салідарныя ў адным: няма парадку ў дзяржаве, жыць становіцца ўсё цяжэй і страшней. Як мага хутчэй трэба скончыць са спекуляцыяй...

Сапраўды, гэта абуральна, калі на адным полюсе «пераходнага перыяду» збіраюцца мільянеры, а на супрацьлеглым — няшчасныя дзеці, галодныя пенсіянеры. Апошнім з кожным днём жывецца горш менавіта таму, што рэкруты і камандзіры «ценявой» эканомікі фактычна дыктуюць свае ўмовы існавання тысячам «моцных» і мільёнам «безыніцыятыўных» грамадзян. У «ценявікоў» ёсць усё, у дзяржаўнага гандлю — нічога. Як гэта так? Заводы дымяць, фабрыкі па-ранейшаму свецяць агнямі, гараджане (ад школьнікаў, прадаўцоў да вучоных і вайскоўцаў) па-ранейшаму ездзяць дапамагаць калгасам, а рубель проста на вачах марнее і марнее. Яго таварнае забеспячэнне — менш чым 20 капеек, ды і што гэта за тавары! А «спрут» тым часам тлусцее, падрастае.

— Адарваць яму шчупальцы! — патрабуюць тысячы абураных выбаршчыкаў.

І вось — шумныя арышты, гучныя працэсы. У нашай парламенцкай «Народнай газеце» з'яўляецца публікацыя «На пасадзе — мільянеры, а ў рэспубліцы — талоны». Сутнасць яе: арыштаваны дырэктар Мінскай базы гандлю гаспадарчымі таварамі Хрусталёў. У выніку вобыску канфіскавана каштоўнасцей і грошай на суму каля мільёна рублёў. Суд, аднак, адбудзецца няскора: шукаюць саўдзельнікаў.

Што ж, Беларусь пачынае спазнаваць імёны сваіх самых багатых зладзеяў. Вядома, не рашыдавы, але...

А. І. Салжаніцын назваў сярэднеазіяцкія рэспублікі ў сваім вядомым артыкуле «Як нам адбудаваць Расію» «падбрушшам» Саюза. Мяркую, на яго шчыра (менавіта шчыра) пакрыўдзіліся толькі тыя, хто альбо не бачыў карты Краіны Саветаў, альбо начыста пазбаўлены ўяўлення (параўноўваюць жа італьянцы свой паўвостраў з ботам!). Дык вось, мне здаецца, што калі ў падбрушшы велізарнай тушы завяліся чэрві, дык і ўсё астатняе — не для дыетычнага стала. І, па-мойму, гэта было даўно ўсім зразумела. Так што здзіўляцца выкрыццю беларускіх нуварышоў проста неразумна. Разумней было б усвядоміць, што калі ёсць мільянеры, дык не зусім абавязкова з'яўленне талонаў. Аксіёма для ўсяго свету. Але — не для нас.

Чаму так? Вось на гэта пытанне рэспектабельныя функцыянеры і разгубленыя, разутыя і галодныя паны выпешчаных слуг народа ўсё часцей адказваюць па-рознаму.

## ІІ. ВЫШЭЙ ДАБРАБЫТ САВЕЦКАГА ЧАЛАВЕКА!

Сумна нават паўтараць: рубель у руках, напрыклад, дырэктара базы і ў кашальку радавога спажыўца — розныя грошы. Вось па гэтым адрозненні, на магчымасці размяркоўваць любы тавар — ад золата і далікатэсаў да цыгарэт і круп — і «іграюць» тыя, каго цяпер, можа не зусім дакладна, называюць мафіяй.

Савецкая мафія — з'ява унікальная. Яе рады аўтаматычна папаўняе сама наша сістэма гаспадарання, а татальны дэфіцыт дазваляе «хросным бацькам» быць уплывовымі людзьмі і пры гэтым актыўна супрацьстаяць стабілізацыі ў эканоміцы, пераходу да рынку. Менавіта рыначныя адносіны (у іх класічным выглядзе) проста смерць для нашай мафіі. З гэтага вынікае што? Правільна: інтарэсы абаронцаў камандных форм кіравання эканомікай (фактычных бацькоў «спрута») і інтарэсы мафіёзных кланаў надзвычай блізкія. А спосабы запалохвання людзей «жахамі дэмакратызацыі», «капіталістычнай эксплуатацыяй» — ідэнтычныя. Ім абодвум патрэбны ажыятаж, нервовасць натоўпу, сабатаж... Добра пусціць брудную плётку, лішні раз штучна стварыць доўгую чаргу, справакаваць беспарадкі, сарваць пастаўкі менавіта тых тавараў, без якіх немагчыма абысціся... Прыгадайце: соль, запалкі, мыла, цыгарэты...

Штодзень ва ўсе рэдакцыі прыходзяць горкія лісты: вось, маўляў, грошы ёсць, а купіць на іх няма чаго. Правільна, самі ведаем, самі гэтак жывём, але хто вінаваты? Хрусталёвы? А можа не толькі яны? Вам нічога не гавораць такія, да прыкладу, лічбы: за студзень — жнівень 1990 года грашовыя даходы насельніцтва рэспублікі павялічыліся на 15,6 працэнта, а тавараў народнага спажывання выпушчана больш толькі на 8,2 працэнта ў адносінах да гэтага ж перыяду крызіснага 1989 года. Мафія, вядома, задаволена: адна яна ніяк не змагла б дамагчыся такога вось поспеху.

Два-тры гады назад па ўсёй Беларусі пачалі гучаць вясёлыя воклічы:

— Зарплату павысілі! Расцэнкі паднялі!

На адзін працэнт росту прадукцыйнасці працы рост зарплаты сялян, напрыклад, склаў больш як дзевяць працэнтаў. Сур'ёзныя эканамісты хапаліся за сэрца, а на калгасных і саўгасных сходах грымелі апладысменты:

— Добрыя прыйшлі кіраўнікі. Вось хто вёску падыме!

Цяпер тыя ж самыя «багатыя» людзі мараць сустрэць паплечнікаў Хрусталёва, каб — не, не ў міліцыю адвесці — аддаць дзве, тры, чатыры цаны за тэлевізар, халадзільнік, касцюм, мэблю...

Сітуацыя, якую цяжка вытлумачыць заходняму спажыўцу. Дый самі мы не вельмі дакладна ўяўляем, як дайшлі да жыцця такога. А крочылі ж бадзёра, не азіраючыся, не аналізуючы... Але як можна было аналізаваць, калі самыя важныя і красамоўныя статыстычныя даныя ў адкрытым друку не з'яўляліся?

## ІІІ. МЫ І СУСЕДЗІ

Такім чынам, сярэдняя зарплата ў БССР восенню 1990 года пераваліла за 250 рублёў. Памятаючы пра гэта, перанясёмся ў год пачатку перабудовы.

Людзей, якія мелі заробак вышэй за 300 рублёў, у нас тады было ў два (!) разы меней, чым у сярэднім па Саюзе. Каштоўнасці, дываны, крышталь ужо пачалі знікаць з прылаўкаў магазінаў больш «багатых» рэгіёнаў, а ў БССР іх яшчэ хапала. Менавіта ў той час «ценявая» эканоміка рабіла правільныя прагнозы, і буйныя партыі тавараў пачалі ўсё больш рэгулярна «сплываць» на Поўнач ці Поўдзень. Аўтамабілі з нумарамі суседніх і дальных рэспублік запаўнялі стаянкі каля гандлёвых цэнтраў.

Востры таварны голад прыйшоў у 1988 годзе. Тады ж эканамічны і сацыяльны крызісы ў краіне пачалі энергічна паглыбляцца. Але ілюзія, што ўсё гэта не вельмі і страшна, яшчэ жыла. Сярэдняя зарплата рабочых і служачых Беларусі (у 1986 годзе — 180,5 рублёў) вырасла за два гады да 207,6 рублёў.

Самыя дальнабачныя гандляры імпартнымі і экзатычнымі таварамі («фарцоўшчыкі») хутка перакваліфікаваліся: навошта бадзяцца каля гасцініц «Інтурыст», калі больш лёгка і бяспечна скупляць і перапрадаваць тое, што яшчэ ёсць на базах, але даўно знікла з вітрын магазінаў.

Таваразбарот пачаў нагадваць таямнічы вір. І сказаць дакладна, колькі тавараў было ўжо тады вывезена праз «чорны» ход на «чорны» рынак,— не можа ніхто.

**Рознічны тавараабарот дзяржаўнага і кааператыўнага гандлю ў гарадах і ў сельскай мясцовасці на душу насельніцтва (руб.)**

| | Тавараабарот у гарадскіх паселеннях на душу гарадскога насельніцтва | | | Тавараабарот у сельскай мясцовасці на душу сельскага насельніцтва | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | усе тавары | харчовыя тавары | нехарчовыя тавары | усе тавары | харчовыя тавары | нехарчовыя тавары |
| **СССР** | | | | | | |
| 1970 г. | 874 | 485 | 389 | 334 | 185 | 149 |
| 1980 г. | 1283 | 647 | 636 | 568 | 295 | 273 |
| 1985 г. | 1429 | 697 | 732 | 675 | 334 | 341 |
| 1986 г. | 1455 | 694 | 761 | 661 | 297 | 364 |
| 1987 г. | 1482 | 715 | 767 | 666 | 309 | 357 |
| 1988 г. | 1566 | 744 | 822 | 716 | 331 | 385 |
| усяго па саюзных рэспубліках: | | | | | | |
| РСФСР | 1579 | 809 | 773 | 917 | 420 | 497 |
| Украінская ССР | 1494 | 682 | 812 | 624 | 276 | 348 |
| Беларуская ССР | 1712 | 793 | 919 | 840 | 436 | 404 |
| Узбекская ССР | 1201 | 468 | 733 | 451 | 223 | 228 |
| Казахская ССР | 1261 | 559 | 702 | 801 | 412 | 389 |
| Грузінская ССР | 1707 | 684 | 1023 | 487 | 196 | 291 |
| Азербайдж. ССР | 1147 | 515 | 632 | 295 | 125 | 170 |
| Літоўская ССР | 2037 | 921 | 1116 | 704 | 380 | 324 |
| Малдаўская ССР | 1783 | 699 | 1084 | 599 | 238 | 361 |
| Латвійская ССР | 2278 | 1026 | 1252 | 795 | 401 | 394 |
| Кіргізская ССР | 1277 | 573 | 704 | 614 | 240 | 374 |
| Таджыкская ССР | 1396 | 575 | 821 | 335 | 134 | 201 |
| Армянская ССР | 1282 | 579 | 703 | 496 | 243 | 253 |
| Туркменская ССР | 1289 | 553 | 736 | 527 | 216 | 311 |
| Эстонская ССР | 2339 | 1088 | 1251 | 1009 | 523 | 486 |

У вышэйпрыведзенай табліцы звярніце ўвагу на лічбы 1970 года. А цяпер — глядзім на яшчэ два несакрэтныя, але амаль нікому не вядомыя дакументы:

**Спажыванне найбольш важных нехарчовых тавараў на душу насельніцтва**

| | 1970 | 1986 | 1988 |
|---|---|---|---|
| Тканіны (без расходу тканін на вытворча-тэхнічныя патрэбы і вытворчасць тавараў народнага спажывання) — усяго, $м^2$ | 30,4 | 37,8 | 38,1 |
| у тым ліку: | | | |
| баваўняныя | 21,2 | 26,4 | 26,5 |
| шарсцяныя | 2,7 | 2,6 | 2,6 |
| шаўковыя | 4,7 | 6,7 | 6,6 |
| ільняныя | 1,8 | 1,5 | 1,6 |
| нятканыя матэрыялы тыпу тканін | — | 0,6 | 0,8 |
| верхні трыкатаж, шт. | 1,8 | 2,3 | 2,4 |
| бялізнавы трыкатаж, шт. | 3,5 | 4,6 | 5,1 |
| панчошна-шкарпэткавыя вырабы, пар | 6,0 | 7,8 | 8,2 |
| скураны, тэкстыльны і камбінаваны абутак, пар | 3,0 | 3,4 | 3,3 |

**Сярэднія цэны прадуктаў харчавання ў дзяржаўным і кааператыўным гандлі (па матэрыялах абследавання сямейных бюджэтаў; руб. за кілаграм)**

| | 1970 | 1986 | 1988 |
|---|---|---|---|
| **Рабочыя і служачыя** | | | |
| Ялавічына | 1,97 | 2,41 | 2,53 |
| Бараніна | 1,75 | 1,95 | 1,96 |
| Свініна | 2,06 | 2,38 | 2,42 |
| Каўбасныя вырабы і вэнджаніна | 2,44 | 3,28 | 3,71 |
| Рыба і рыбапрадукты | 0,97 | 1,24 | 1,29 |
| Бульба | 0,13 | 0,16 | 0,20 |
| Гародніна і бахчавыя | 0,29 | 0,42 | 0,47 |
| Фрукты і ягады свежыя | 0,85 | 1,19 | 1,38 |
| Цукеркі, халва і да т. п. | 2,50 | 3,48 | 3,31 |
| **Калгаснікі** | | | |
| Ялавічына | 2,12 | 3,58 | 3,81 |
| Бараніна | 1,93 | 3,24 | 3,36 |
| Свініна | 2,28 | 2,92 | 2,89 |
| Каўбасныя вырабы і вэнджаніна | 2,58 | 4,27 | 4,80 |
| Рыба і рыбапрадукты | 0,83 | 1,07 | 1,10 |
| Бульба | 0,18 | 0,23 | 0,34 |
| Гародніна і бахчавыя | 0,29 | 0,35 | 0,39 |
| Фрукты і ягады свежыя | 0,75 | 1,16 | 1,47 |
| Цукеркі, халва і да т. п. | 1,88 | 2,68 | 2,58 |

## IV. БАГАТЫЯ ЖАБРАКІ

Адміністрацыйна-камандная сістэма прывучыла нас жыць у галечы і радавацца, што не пухнеш з голаду і ходзіш хоць у гумовых ці кірзавых, але — ботах. Мы ўпэўнены: сумленным шляхам мільён не заробіш. Проста не дадуць. У нашым уяўленні ў Хрусталёва знайшлі незлічоныя багацці. А што такое мільён рублёў? Прыкладна 50 тысяч долараў, калі, вядома, удасца памяняць рублі на валюту. Столькі менш чым за год мае ў ЗША сціплы інжынер або выкладчык універсітэта. Фантастычныя даходы?

Паводле ацэнкі некаторых нашых эканамістаў і публіцыстаў, нам даўно плацяць у 30—60 разоў меней, чым мы на самай справе зарабляем. Да таго ж мы яшчэ і не прывыклі, не зацікаўлены працаваць на мяжы сваіх магчымасцей! А калі раптам — рынак, калі — пачнём?

Пяць працэнтаў зямлі займаюць нашы агароды і садовыя ўчасткі. Але каля 30 працэнтаў усёй асноўнай гародніны і садавіны, крыху менш мяса і малака на наш стол пастурае менавіта з прысядзібных участкаў. І гэта пры тым, што на ўласных лапіках зямлі людзі маюць магчымасць працаваць толькі нязначную частку свайго часу.

Мы бедныя таму, што заўсёды былі вымушаны працаваць мала і неэфектыўна. Таму што багацці краіны, як у пясок, прасочваліся без аніякай карысці для народа пасля некаторых амаральных загадаў міністэрстваў, ведамстваў, лідэраў ваенна-прамысловага комплексу...

Безумоўна, нішчылі прыроду меліяратары (і атрымлівалі за гэта неймаверныя прэміі) або заводы станавіліся стратнымі (і пры гэтым выраблялі нікому не патрэбную прадукцыю) зусім не таму, што гэтага хацелася брыгадзірам, начальнікам участкаў, дырэктарам... Гэтага вымагала яе вялікасць Сістэма: ёй была выгаднай адсутнасць канкрэтных гаспадароў у нашай народнай (а таму і нічыйнай) гаспадаркі. Але вынікі дыктату над народнай гаспадаркай, пры якім аўтары цыркуляраў і рашучых загадаў асабіста ні за што не адказвалі, нам давядзецца ліквідоўваць дзесяцігоддзямі...

Вядома, «ценявая» эканоміка таксама адна з першых прычын нашага збяднення, але... Параўнаем тут некалькі свежых фактаў.

З Калінкавіцкай міжрайбазы Гомельскага аблспажыўсаюза 13 жніўня (памятаеце пік табачных бунтаў?) было пaслана ў Азербайджан цыгарэт «Космас» на суму каля 40 000 рублёў.

У Мінску на базе «Культгандаль» Мінгандлю БССР выяўлена 400 камплектаў відэасістэм «Панасонік», 384 відэамагнітафоны, 174 тэлевізары «Шыляліс» і 12 — «Селена». Дарэчы, база ахвотна плаціла два працэнты штрафу ад кошту неадпраўленага тавару...

На аптовай рыбнай базе ў Віцебску два гады чакалі пакупнікоў 6 000 бляшанак кансерваў «Печань траскі», дзесяткі скрынак з «Крабамі ў натуральным соку» ляжалі некалькі месяцаў.

А цяпер цытата з «Литературной газеты»: «Паглядзіце, куды цякуць чарнобыльскія грошы, да прыкладу, у Гомельскай вобласці: здабыча сапрапелю ў радыеактыўным возеры Равучым (266 тысяч рублёў), будаўніцтва меліярацыйных сістэм у саўгасе «Нова-Беліцкі» і калгасе імя Урыцкага (2 мільёны 189 тысяч рублёў), закладка плантацыі журавін у Лельчыцкім раёне, спрэс засеяным радыенуклідамі (402 тысячы рублёў), набыццё новых меліярацыйных механізмаў (1 мільён рублёў)...

...Чарнобыльская трагедыя стала сапраўдным падарункам для дзяржаўна-меліярацыйнай мафіі Беларусі, якая займела магчымасць і падставу асушыць апошнія балоты, выкапаць новыя каналы — і жыць прыпяваючы».

Калі ў спекулянтаў канфіскуюць скрыню каньяку і некалькі царскіх залатых чырвонцаў, мы абмяркоўваем гэтую навіну, абураемся і патрабуем суровага пакарання для злачынца.

Калі сотні тысяч нашых рублёў закопваюцца ў зямлю, мы рэагуем спакойна: прывыклі, з маленства ведаем, што дзяржава можа памыляцца.

Але ж памыляецца або (што здараецца часцей) свядома дае каманду знішчыць народныя сродкі канкрэтны чалавек! Вы памятаеце хоць бы адзін выпадак, калі б судзілі чыноўніка за дарэмна патрачаныя мільёны?

...І разам з тым мы вельмі багатыя. І рэсурсамі, і талентамі. ЦРУ, напрыклад, лічыць: адзін рубель рэальна каштуе 3 долары ЗША (Гл. «Огонек», № 31, за 1990 г.).

На прэс-канферэнцыі з журналістамі Мінска генерал-маёр КДБ Эдуард Іванавіч Шыркоўскі гаварыў пра тое, што за нашымі новымі тэхналогіямі, вынаходствамі ідзе сапраўднае паляванне, камерцыйныя тайны перастаюць быць тайнамі, вытворчыя сакрэты выкрадаюцца... Не сумняваюся, гэта так і ёсць. Хто ж пільна ахоўвае тое, што асабіста яму не належыць? Безумоўна, урон ад прамысловага шпіянажу мы нясём такі, якога і тысяча буйных спекулянтаў нам прынесці не можа.

**Бюджэт часу рабочых і служачых прамысловасці і калгаснікаў (у сярэднім на аднага працаўніка; гадзіны-мінуты)**

| | Рабочыя і служачыя прамысловасці | | | | Калгаснікі | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | мужчыны | | жанчыны | | мужчыны | | жанчыны | |
| | рабочы дзень | выхадны дзень | рабочы дзень | выхадны дзень | рабочы дзень | выхадны дзень | рабочы дзень | выхадны дзень |
| Сутачны фонд часу | 24-00 | 24-00 | 24-00 | 24-00 | 24-00 | 24-00 | 24-00 | 24-00 |
| **у тым ліку:** | | | | | | | | |
| рабочы час | 7-57 | — | 7-57 | — | 7-57 | — | 7-57 | — |
| час, звязаны з вытворчасцю (перамяшчэнне да месца работы і назад, абедзенны перапынак, прыём і здача змены) | 1-51 | — | 1-38 | — | 0-58 | — | 0-51 | — |
| час на вядзенне хатняй гаспадаркі | 0-58 | 2-44 | 3-13 | 6-18 | 0-45 | 1-57 | 3-44 | 6-13 |
| на пакупку тавараў і атрыманне паслуг | 0-16 | 0-58 | 0-46 | 1-25 | 0-10 | 0-35 | 0-29 | 0-52 |
| на працу па доме | 0-42 | 1-46 | 2-27 | 4-53 | 0-35 | 1-22 | 3-15 | 5-21 |
| затраты часу ў асабістай падсобнай гаспадарцы і на садовым участку | 0-04 | 0-17 | 0-01 | 0-04 | 1-25 | 2-09 | 1-05 | 1-29 |
| вольны час | 4-03 | 9-14 | 2-24 | 6-32 | 3-26 | 7-23 | 1-57 | 4-54 |
| час на задавальненне фізіялагічных патрэб (сон, прыняцце ежы, догляд сябе) | 8-55 | 10-43 | 8-40 | 10-26 | 9-30 | 10-57 | 8-57 | 10-25 |
| іншыя затраты часу | 0-12 | 1-02 | 0-07 | 0-40 | 0-19 | 1-34 | 0-11 | 0-59 |

## V. КУПІЦЕ ЯХТУ, ЯШЧЭ НЕ ПОЗНА...

Гэта чуеш цяпер на кожным кроку:

— Эканоміка гатова разваліцца... Ніхто не ведае, які ў нас рэзерв часу...

Мафія ведае дакладна, што ў яе ў запасе (для фантастычна лёгкай нажывы і выгаднага ўкладання капіталу) ёсць яшчэ два гады. Растлумачу. Справа ў тым, што ў цывілізаваных краінах любы «мафіёзі» баіцца сустрэчы з фініспектарам яшчэ больш, чым з паліцэйскім. Кожны год там неабходна запаўняць дэкларацыю, тлумачыць паходжанне ўсіх сваіх даходаў. «Адмыць» грошы — вялікая рызыка. Нашы ж нуварышы такіх праблем пакуль не ведаюць. **І мы, вядома, можам толькі здагадвацца, з якімі сродкамі ў кішэні чалавек заняў пасаду і з якімі пакінуў яе.**

Мяркуецца, што толькі з 1993 года ў нас з'явіцца новае падатковае заканадаўства і кожны грамадзянін пачне дэклараваць свае фінансавае становішча. Так што хаўруснікі і «калегі» Хрусталёва смела могуць працягваць скупляць дачы, золата, аўтамабілі, яхты... Іншая справа — тыя, хто заняты індывідуальнай працоўнай дзейнасцю, артысты, літаратары, вынаходнікі, вучоныя... Карацей кажучы, калі ты атрымліваеш аўтарскія ўзнагароджанні, вырашыў стаць фермерам або «індывідуалам» — усё, з 1991 года запаўняй дэкларацыю. Твая кішэня павінна быць першай шырока адкрыта для падатковай іспекцыі.

— Зараз галоўная надзея на лепшае, асноўная сіла рэспублікі,— гаварыў мне зусім нядаўна дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, вядомы эканаміст Аляксандр Рыгоравіч Жураўлёў,— у нашым інтэлектуальным патэнцыяле. На беларускіх прадпрыемствах састарэлае абсталяванне, няма добрай сельскагаспадарчай тэхнікі, шмат крадзяжоў і безгаспадарчасці, але ў нас моцныя вучоныя, праграмісты, тэхнолагі... Ва ўмовах рынку, цесных знешнеэканамічных сувязей БССР іх роля будзе рашаючай; іменна яны выканаюць асноўную работу па стабілізацыі эканомікі і выведуць яе з крызісу. Тады і забудуцца нашы жахлівыя чэргі, рассыплецца «чорны» рынак.

...Наіўна думаць, што ўсе дэфіцыты знікнуць за год-два. Аднак яшчэ больш наіўна спадзявацца, што аднымі карнымі мерамі можна прымусіць спекулянта не быць ім. Так што падзякуем міліцыю за яе гераічную барацьбу з «ценевікамі», але не будзем забывацца на галоўнае: дабрабыт грамадству забяспечаць рынак і здаровая эканоміка, а не канфіскацыі маёмасці.

**Валерый ЛАПІН.**

● **Н а з д ы м к а х Пятра КАСТРАМЫ — каштоўнасці, канфіскаваныя ў ходзе следства ў гандлёвай мафіі Мінска.**

# АНТАЛОГІЯ

**Уладзімір СЦЯПАН**



*Аўтару апавядання «Смаленне вепрука» — прысвячаю.*

Падзеі адбываліся на Гомельшчыне ў невялікай лясной вёсачцы Баркі. У старой Тарасіхі захварэла свіння. Што толькі Тарасіха не рабіла: давала свінні селядзец, паіла газай, кідала ў хлеў палын і зверабой, але ўсё марна. Свіння нічога не брала есці і пазірала на гаспадыню тужліва і самотна.

Прыехаў ветэрынар, паціскаў свіныя бакі, зазірнуў у пашчу, паслухаў перарывістае дыханне, задраў хвост і памераў тэмпературу, а потым параіў свінню закалоць — пакуль яшчэ жывая. Выцер аб траву тэрмометр і схаваў яго ў сумку, а ў кішэню паклаў пакамечаную траячку і з'ехаў на сваім газіку ў раён.

Праз дзень, калі свіння не выйшла з хлява, Тарасіха вырашыла, што чакаць больш нельга.

Побач з вёсачкай працавалі рабочыя лясгаса, якія карчавалі дзялянкі. Пад пень падкладвалі зарад дынаміту, запальвалі бікфордаў шнур, і вялізны дубовы корч, як павук, узлятаў у паветра. Вось да ўзрыўнікоў і звярнулася Тарасіха па дапамогу. Пасля абяцанага пачастунку хлопцы згадзіліся. З раніцы ўзрыўнікі завіталі да Тарасіхі. Яны агледзелі вялізную і сумную свінню, якая варожа зарохкала на іх, і вырашылі дзеля хуткасці справы скарыстаць звыклы і надзейны дынаміт. Спачатку свінню «аглушаць», а потым заколюць, разбяруць і вып'юць. Так запланавалі ўзрыўнікі.

З вялікімі цяжкасцямі свінню выгналі з хлява за хату, прывязалі да галавы невялікі зарад дынаміту, падпалілі бікфордаў шнур, а самі схаваліся за тоўстыя сцены паветкі.

Шнур пачаў сіпець — свіння спалохалася і, замест таго, каб чакаць выбуху, ірванулася праз веснічкі ў хлеў, у звыклыя родныя сцены.

Грымнуў выбух. Хлеў, крыты саломай, згарэў за паўгадзіны. Разам са свіннёй згарэлі бычок і дзве курыцы. Паветка і хата засталіся цэлыя.

Калі вогнішча згасла, вяскоўцы адкапалі напалову згарэлую свінню і бычка, чорнага, як галавешка.

● Антона Дымніка і Сымона Бульдо ў мястэчку ведаюць усе.

Гэта цяпер яны на пенсіі, а тады, калі адбылася гэтая гісторыя, працавалі грузчыкамі на чыгуначнай станцыі. Лёгка, як падушкі, ускідвалі на плечы мяхі з салетрай і цэментам, спрытна перацягвалі цяжкія скрыні са шклом, хутка перастаўлялі з платформы ў кодабы машын паддоны з цэглай і перакочвалі бочкі з саляркай.

Аднаго разу вярталіся яны са станцыі дадому і прыпыніліся каля калодзежа — смажыла. Старая кабета, што ішла па ваду, паглядзела на шырокія мужчынскія плечы, на дужыя рукі, заўважыла ў вачах прагу выпіць і прапанавала за дзве пляшкі гарэлкі дапамагчы ёй закалоць кабанчыка. Мужчыны імгненна далі згоду. Шкада, што яны не паглядзелі на пустыя вёдры; гэта надобрая прыкмета — сустрэць жанчыну з пустымі вёдрамі.

Але для таго, каб кабанчыка закалоць, яго трэба было выгнаць з цеснага хлеўчука ў двор. Кабанчык, відаць, адчуў небяспеку, бо колькі ні клікала гаспадыня, ён толькі рохкаў у бруднай цемры, а да дзвярэй не ішоў.

Антон быў крышку драбнейшы за Сымона, і таму лезці ў хляўчук выпала яму. Мужчыны дамовіліся, што, як толькі кабанчык высунецца, Сымон імгненна ўдарыць яго даўбнёй між вушэй.



Антон уціснуўся ў дзверцы і пачаў выганяць кабанчыка. Акрамя віску і страшэннай лаянкі, нічога не атрымалася.

Стомлены, злосны і перапэцканы гноем Антон вырашыў вылезці, каб крыху адпачыць. Можа з-за лаянкі, а магчыма з-за пранізлівага віску, Сымон не пачуў папярэджання свайго сябра, і цяжкая дубовая даўбня апусцілася на Антонаў карак.

Мужчына нават не войкнуў...

Кабанчык, калі б атрымаў гэткі ўдар, несумненна, быў бы забіты, а вось Антон застаўся жывы — толькі пасля трох месяцаў бальніцы, дзе яго наведваў раз на тыдзень сябрук, крыху заікаецца і галавой не можа адмоўна хітаць, калі прапануюць выпіць.

Пасля гэтага здарэння Сымона Бульдо і Антона Дымніка ведаюць не толькі ў мястэчку...

● Прапаршчык Насівец жыў у цешчы, побач з ваенным гарадком. Перад калядамі цешча загадала зяцю калоць кабана. Прапаршчык прывёў двух самых дужых салдат са сваёй роты, прыгатаваў рыштунак, але ў гэты час прыбег пасыльны з загадам з'явіцца на нараду да камандзіра. Прапаршчык надзеў партупею, вылаяўся і загадаў, каб да яго прыходу кабан ляжаў у двары абсмалены і вымыты.

Салдаты кінуліся выконваць загад. Яны паваліла кабана на бок і пачалі калоць...

Калі праз гадзіну прапаршчык выйшаў на штабны ганак, то пачуў далёкі віск. Прапаршчык спачатку пайшоў, а за брамай пабег, прытрымліваючы кабуру.

У двары, на ружовым снезе, ляжалі салдаты. Пад імі сутаргава біўся і знясілена вішчаў кабан. На галаве ў жывёлы быў надзеты цэлафанавы мех, а салдаты спрабавалі рукамі перацiснуць тоўстае горла і гэткім чынам наблізіць кабановую смерць. Прапаршчыкава цешча бегала па двары і брудна лаялася на свайго зяця-вайскоўца, на салдат і на сваю дачку-недарэку.

Салдаты не звярталі на жанчыну ўвагі і душылі кабана.

Калі Насівец убачыў, што адбываецца, то з ходу пачаў расшпільваць кабуру і шукаць зброю. Кабура была парожняя, і прапаршчык пачаў біць падначаленых і кабана нагамі, сварыцца і абзываць хлопцаў «інтэлігенцкімі зноскамі». Салдаты падхапіліся і сталі «смірна».

Кабан з акрываўленым паколатым жыватом таксама падхапіўся, але не застыў на месцы, а пачаў шалёна бегаць па двары. Сабака забіўся ў будку і жалобна скуголіў.

Праз колькі часу кабан выскачыў на вуліцу і пабег у напрамку КПП. Па крывавым следзе спяшаліся прапаршчык і салдаты. Машына, што выехала з брамы з чырвонай зоркай, набрала хуткасць і не паспела спыніцца. Вялікае кола з чорнымі пратэктарамі пераехала кабана.

Салдаты атрымалі па трое сутак «губы», а прапаршчыку давялося пачуць ад цешчы такое, ад чаго нават у яго твар пайшоў арабінавымі плямамі.

● Той зімою мне было сем гадоў... У сініх прыцемках сянец натужна гудзеў наждак. Залатым пяском сыпаліся вогненныя пырскі. Бацька ўказальным пальцам асцярожна кратаў гарачае джала трохкантовага штыка (добра памятаю, што швайкай у вёсцы не карысталіся). Вялізныя нажы, як селядцы, ляжалі на лаве і зіхацелі навостранымі лёзамі.

Мяне, каб не замінаў у хаце, выправілі ў двор. Амаль услед за мною, апранутыя ў брудныя, падраныя ватоўкі, выйшлі на ганак мужчыны. Яны падзівіліся на ранішняе сцюдзёнае неба, папалілі, зачынілі мяне ў сенцах і моўчкі, пругкай хадой пашыбавалі да хлява.

Праз акно мне было добра відаць, як урачыста вывелі вялізнага вепрука, як спрытна звязалі яму ногі, паваліліі на ранішні, яшчэ чысты снег і...

Я чуў пранізлівы імклівы віск, крыкі, лаянку, хрыпенне. Хацелася плакаць, у акно я не глядзеў і закрыў вушы рукамі. Дзверы адчыні-

ліся — у сенцы ўвайшоў мужчына. Ён кінуў на лаву акрываўлены штык, выпіў карэц вады, згроб нажы і сказаў, што я магу выходзіць, бо ўсё скончылася.

Мне падабалася глядзець на пругкае сіняе полымя, якое выдыхвала паяльная лямпа. Падабалася слухаць жарты, якімі перакідваліся мужчыны. Шалы бляск, што пульсаваў яшчэ колькі хвілін таму ў мужчынскіх вачах, паступова згасаў, позіркі рабіліся будзённымі.

Прыемна пахла згарэлай шчэццю, бензінам і зімовым раннем.

Лямпа чмыхнула і згасла. Мужчыны падаліся ў хату «ўзяць чарку», а мне сказалі, што ідуць ладзіць лямпу, бо яна слаба пячэ.

Я застаўся сам-насам з вялізным і страшным напалову абсмаленым вепруком.

Больш за ўсё мяне цікавіла дзірка пад пярэдняй левай нагой, заткнутая чорным абгарэлым калком. Мне вельмі карцела выцягнуць калок, вакол якога выразнай плямай чарнела кроў, але было і боязна. Каб пераадолець спалоханасць, я піхнуў вепрука нагой і адскочыў. Вяпрук, які ляжаў на спіне, павольна заваліўся на бок...

Закрычаў певень. Калі я павярнуўся — вяпрук стаяў на пярэдніх нагах і цяжка хістаў галавой з чорнымі абсмаленымі вушамі. З лыча, драпежна задранага, падалі яркія кроплі крыві, а праз імгненне кроў пачала ліцца густым струменем. Усярэдзіне вепрука нешта павярнулася, захрыпела, і ён падняўся на ногі.

Я кінуўся да драбін і хутка, як ніколі, узлез на гарышча. Я стаіўся пад сцяной у леташняй канюшыне і безгалосна плакаў. Упалі драбіны і выбілі акно...

Калі мяне знялі з гарышча, я размазваў па твары слёзы і дробна-дробна калаціўся. Я не жадаў глядзець на велізарнага залатога вепрука, вымытага і прыгожага. Я не жадаў бачыць, як нож перарэзае тлустую шыю і як бяжыць у міску густая гарачая кроў, і як мужчына зачэрпвае яе, соліць і ўрачыста п'е. Я не жадаў і быў супраць дарослых, якія закалолі вепрука.

Увечары я забыўся на сваю спалоханасць, чокаўся з мужчынамі чаркай з малінавым кампотам і з апетытам еў рассыпчатую крывянку і смажаныя вантробы.

● Штык, швайка, нож, даўбня, стрэльба, сякера з напаяным да абуха шыпам — гэта ўсё звыклы рыштунак.

Мужчына з сынам падлеткам вырашылі дзеля хуткасці скарыстаць моц электрычнага току. Праз фортачку з дома ў двор працягнулі ізаляваны здвоены дрот, якога ледзь хапіла ад разеткі да зямлі. Пад акном паставілі міску з малаком і прывялі свінню. Мужчына даў канец дроту сыну, папярэдзіўшы, каб малы не трымаўся за голы алюміній, а сам пабег дамоў, каб уставіць штэпсель у разетку.

Але свіння пачала нервавацца, магчыма, адчула нядобрае і адышла ад місы. Свінню зноў падвялі, а яна зноў адышла. Так адбывалася некалькі разоў, і мужчына стаміўся бегаць з дома ў двор. Ён крыху падумаў і папрасіў сына, каб той чухаў свінні за вухам, а правай рукой з дротам дакрануўся да яе вільготнага лыча.

Хлапец пачаў казытаць свінні за вухам, на што яна адказвала задаволеным рохканнем.

На гэты раз усё атрымалася. Калі штэпсель быў у разетцы — свіння ашчэрыла пашчу, падскочыла і кінулася ад ганка. Мужчына выходзіў з дома з выглядам пераможцы...

На снезе, падкурчыўшы ногі, ляжаў хлопчык. Правай рукой ён сціскаў чорны дрот, а левая рука сціскала снег, які павольна раставаў.

Малюнак аўтара.

## ПРАБЛЕМУ БАЧЫЦЬ ФОТАКОР



Савецкі чалавек прывык перадольваць цяжкасці. Часовыя, вядома. Яго мала чым можна здзівіць, ён да ўсяго хутка прызвычайваецца: да ўстойлівых капрызаў надвор'я, пустых паліц магазінаў, бясконцых чэргаў, талонаў абсалютна на ўсё — ад шкарпэтак да алею. І ўсё ж здараюцца сітуацыі, у якіх нават яго аптымістычная натура адчувае, мякка кажучы, дыскамфорт.

Неяк увечары мы з сябрамі зайшлі да знаёмых на шклянку чаю. Трохгадовы Юрасік, сын гаспадароў кватэры, які ўжо клаўся спаць, уцёк ад бабулі і прыбег у адной кашульцы пазнаёміцца з гасцямі. Яго чорныя хітранькія вочкі радасна бліснулі. Павітаўшыся з усімі, гэта шчаслівае дзіця чалавечае, якому ад самага нараджэння суправаджалі бясконцае патуранне і сюрпрызы дарослых, спытала:

— А падарункі?

Мне ніколі не было так сорамна. Праклінаючы сябе за чэрствасць і нездагадлівасць — хоць бы апельсін, хоць бы шакаладку захапілі (які апельсін, якая шакаладка ў наш час!), мы апраўдваліся перад малым, што зайшлі выпадкова, што ўжо позна і ўсе магазіны зачынены, а назаўтра мы абавязкова прынясём яму машынку. Шчаслівая ўсмешка пакрысе збегла з тварыка малога, ён неяк па-даросламу апусціў вочы, нібыта яму стала няёмка за нас. Адчуваючы, як холадна і няўтульна робіцца на душы, я дала сабе слова абавязкова выканаць абяцанне.

Лёгка сказаць! Сёння, відаць, прасцей злятаць на Марс і прывезці адтуль кошык яблыкаў, якія да гэтага часу паспелі, напэўна, бо ўжо столькі гадоў мы пераканаюць, што там «будуць яблыні цвісці», чым купіць добрую цацку ў нашых магазінах. Ды яшчэ машынку! Тут просценькі мячык ды надзіманая качка — нечуваная раскоша. Ведаючы гэта, разумныя бацькі за кіламетр абыходзяць магазін з назвай «Цацкі», каб лішні раз не траўміраваць дзіцяці.

Мой бедны Юрасік даўно, відаць, забыўся, як падманулі яго дарослыя цёткі і дзядзькі, і забавіўся з якой-небудзь самаробнай дзеравяшкай — дзеці, яны вынаходлівыя! А мне і дагэтуль сорамна і горка, балюча дапякае ўспамін.

У пошуках ісціны мы прыехалі на Гомельскую фабрыку цацак. Мо яна даўно не працуе? Спыніліся канвееры, апусцелі цэхі, а ў пустых складах гуляе вецер? Ды не, усё ў парадку. Завіхаюцца рабочыя, адна за адной выязджаюць з варот фабрыкі фуры з маляўнічай прадукцыяй. Больш як 200 назваў цацак — мякканабіўных і з поліхлорвінілу — выпускае прадпрыемства, з месяца ў месяц выконвае і перавыконвае план, выпрацоўваючы смешных зайцоў, парасят, Мікі-Маўсаў на пацеху дзецям. Куды ж знікае ўся гэта прадукцыя? У тым, што яна не даходзіць да пакупніка, мы лёгка пераканаліся, зазірнуўшы ў цэнтры Гомеля, на вуліцы Савецкай, у магазін «Цацкі». Выбар цацак там прыкладна такі ж, як і ў сталічных магазінах.

На наша пытанне, дзе падзеліся цацкі, прадаўцы магазіна адказалі контрпытаннем: «А дзе падзеліся каўбаса, цукеркі, абутак, вопратка, тэлевізары?»

Сапраўды, навошта здзіўляцца. Пара прывыкнуць і да гэтага феномена эпохі перабудовы. Калі прадпрымальныя загадчыкі магазінаў і дырэктары баз, рыхтуючыся да рынку, могуць прыхаваць на сваіх дачах тоны мукі ды цукру, дзесяткі тысяч пачкаў цыгарэт ды кавы, дык чаму б ім не нарыхтаваць кубел — другі пухнатых мядзведзікаў, зайцоў, сабачак? А потым, гады праз два, глядзіш, і з'явіцца на прылаўку прыватнага магазіна пацешны канёк-гарбунок з шыльдай: «Цана — 1.000 000...» Бізнес, ён далёкі ад сумлення.

І будзем купляць — дзе падзенешся. Чаго толькі не аддасі за дзіцячую ўсмешку!

**Людміла ЦІМАФЕЕВА.**

**На здымках:**
● Усё новыя і новыя цацкі для дзяцей прыдумваюць мастакі эксперыментальнай лабараторыі Таццяна Каратыкова, Таццяна Дубовік і Вольга Завольская.
● На машынным двары фабрыкі — звыклае ажыўленне.
● У цэху цацак з поліхлорвінілавага пластыку — як на дзіцячым кірмашы.

Фота Віктара ДРАЧОВА.

Мегрэ назіраў за сёстрамі. У цемнаце ён прыняў іх за блізнят. А цяпер, пры яркім святле, заўважыў, што сястра гады на тры — чатыры маладзейшая.

— Вы яго пазнаяце?

Пані Турэ трымала ў руках насоўку, але не плакала. Сястра трымала яе пад руку.

— Гэта Луі... Нябога...— уздыхнула ўдава.— Ці магла б я падумаць раніцай...— Раптам яна заўважыла:— Яму ж ніхто не закрыў вачэй...

— Можаце гэта зрабіць.

Сёстры пераглянуліся: а чый гэта абавязак?.. Разважыўшы, пані Турэ з урачыстым выглядам закрыла мужу вочы.

Прашаптаўшы: «Бедны Луі...»— яна звярнула ўвагу на чаравікі нябожчыка, бачныя з-пад прасціны, і адразу ж нахмурыла бровы:

— Што гэта?.. Хто надзеў яму гэтыя чаравікі?

— Яны былі на ім, калі мы яго знайшлі.

— Не можа быць. Луі ніколі не насіў жоўтых чаравікаў. Прынамсі, за ўсе дваццаць шэсць гадоў, што мы разам жылі. Ён ведаў: я такога колеру не дапусціла б. Жанна, ты бачыла?

Сястра згодна кіўнула.

— Вы ўсё-такі падумайце,— сказаў Мегрэ,— ці былі ў яго такія адзежа і абутак... А можа, гэта не ён?

— А хто ж? Але чаравікі не ягоныя. Я ж чышчу іх кожны дзень. Магла я запомніць іх колер?.. На працу ён надзяваў чорныя чаравікі на двайной падэшве.

Мегрэ адкінуў прасціну да канца.

— Паліто ягонае?

— Ягонае.

— А касцюм?

— Таксама. А гальштук — не. Ён ніколі не надзеў бы такога яркага гальштука. Гэты ж амаль чырвоны!

— Які лад жыцця быў у вашага мужа?

— Самы мерны. Сястра можа пацвердзіць. Уранку ён ад'язджаў на працу, сядаў у аўтобус, ехаў да вакзала на цягнік у восем семнаццаць. На Ліёнскім вакзале ён спускаўся ў метро і выходзіў на станцыі Сен-Мартэн.

Супрацоўнік інстытута зрабіў Мегрэ знак, і той, зразумеўшы яго, падвёў сясцёр да другога стала, на якім былі раскладзены рэчы, знойдзеныя ў кішэнях забітага.

— Спадзяюся, вы пазнаяце гэтыя рэчы?

На стале ляжалі срэбраны гадзіннік з ланцужком, насоўка без меткі, пачаты пачак цыгарэт, запальнічка, ключы і, побач з кашальком, два сінія білеты.

— Квіткі ў кіно,— адзначыла пані Турэ.

Мегрэ дадаў, зірнуўшы на іх:

— Кінатэатр «Навіны дня», бульвар Бон-Нувэль. Калі я не памыляюся, сённяшнія.

— Не можа быць. Ты чуеш, Жанна?

— Цікава,— адказала сястра.



# Чалавек на лаўцы[1]

Жорж СІМЯНОН

АПОВЕСЦЬ

**Пераклад з французскай мовы Алеся АСТАШОНКА.**



Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА

## I. ЖОЎТЫЯ ЧАРАВІКІ

Забойства здарылася ў панядзелак, 19 кастрычніка — у швагеркі камісара Мегрэ быў якраз дзень нараджэння. Дзіўна, але на набярэжнай Арфэўр[2] даўно заўважылі, што ў панядзелак забойстваў бывае меней, чым у астатнія дні.

Гэта была першая восеньская справа, расследуючы якую, Мегрэ адчуў набліжэнне зімы.

Усю нядзелю ліў дождж, халодны і дробны. Дахі і асфальт заблішчэлі, а потым узняўся жаўтаваты туман, які, здавалася, украдаўся ў жытло праз аконныя шчыліны.

Стала так холадна, што ў панядзелак раніцай пані Мегрэ сказала:

Трэба забіць шчыліны лямцам.

[1] Часопісны варыянт. Пераклад зроблены з выдання: Simenon Georges. Les enquêtes du commissaire Maigret.— Paris — France Loisirs, 1974.— 476 p.

[2] На набярэжнай Арфэўр знаходзіцца галоўны камісарыят крымінальнай паліцыі Парыжа.



ні кінутай люлькі ці пачка цыгарэт, ні шытва ці нават газеты, нічога такога, што магло б даць хоць нейкае ўяўленне, чым тут людзі жывуць.

Сесці гаспадыня гасцей не запрасіла, але выразна паглядала на іхнія ногі, перасцерагаючы ўсім сваім выглядам: «Не запэцкайце лінолеум!»

— Слухаю вас.

— Вашага мужа зваць Луі Турэ?

Нахмурыўшы бровы і спрабуючы здагадацца, што прывяло сюды паліцыю, яна кіўнула галавою.

— Ён працуе ў Парыжы?

— Памочнікам дырэктара фірмы «Каплан і Занэн», на вуліцы Бондзі.

— Ён працаваў калі-небудзь на складзе?

— Працаваў.

— Даўно?

— Некалькі гадоў таму назад. Але ўжо тады ён быў у дырэктара першым памагатым.

— У вас няма яго фатаграфіі?

— А нашто яна вам?

— Мне б хацелася ўпэўніцца...

— У чым? — Падазрона ўглядаючыся ў гасцей, пані Турэ запыталася: — Луі трапіў у аварыю?

Яна машынальна паглядзела на насценны гадзіннік, які вісеў на кухні, усё роўна як прыкідвала, дзе цяпер можа быць муж.

— Спярша я павінен упэўніцца, ці ён гэта.

— Гляньце на сервант,— сказала яна.

Падышоўшы да серванта, Мегрэ ўбачыў некалькі фатаграфій: на адной — маладзенькая дзяўчына, на другой — чалавек, зарэзаны ў тупіку, але маладзейшы, у чорным.

— Вы часам не ведаеце, ці ёсць у вашага мужа ворагі?

— Адкуль яны ў яго могуць быць?

Гаспадыня выйшла на хвілінку ў кухню і выключыла газавую гарэлку — на пліце нешта закіпела.

— А якой гадзіне вяртаецца ён звычайна дамоў?

— Ён выязджае з Ліёнскага вакзала ў шэсць дваццаць дзве. Дачка вяртаецца наступным цягніком, яна пазней заканчвае працаваць. У яе адказная пасада, і...

— Я вымушаны папрасіць вас праехаць з намі ў Парыж.

— Луі памёр? — яна паглядзела на іх спадылба, позіркам жанчыны, якая не цярпіць маны.— Скажыце мне праўду.

— Яго забілі.

— Дзе?

— У тупіку каля бульвара Сен-Мартэн.

— Што яму там спатрэбілася?

— Не ведаю.

— Калі гэта здарылася?

— Мы мяркуем, недзе пасля паловы пятай.

— А палове пятай ён быў яшчэ ў Капланаў. Вы з імі гаварылі?



былі ліхтарыкі, але твары можна было разгледзець толькі зблізку.

Тут было яшчэ халадней, чым на бульвары,— дзьмуў скразны вецер. Паміж ног круціўся, колькі яго ні адштурхоўвалі, нейкі сабака.

На зямлі, каля сырой сцяны, ляжаў чалавек. Адна ягоная рука была закінута за спіну, а другая, выцягнутая ва ўсю даўжыню, загароджвала амаль што ўвесь праход.

— Мёртвы?

Доктар кіўнуў:

— Смерць, відаць, наступіла імгненна.

Усё роўна як пацвярджаючы гэтыя словы, святло ліхтара прапаўзло па целе забітага і спынілася на нажы, усаджаным у спіну. Другі ліхтар асвяціў паўпаварот твару, адкрытае вока, шчаку, разадраную аб камяні пры падзенні.

— Хто яго знайшоў?

Адзін з паліцэйскіх, які толькі гэтага і чакаў, выступіў уперад.

— Я рабіў абход. Я звычайна зазіраю ва ўсе закуткі, бо ў іх усё і здараецца. І тут убачыў яго. Спярша я падумаў, што ён п'яны.

— Ён быў ужо мёртвы?

— Напэўна. Але цела было яшчэ цёплае.

— Які гэта быў час?

— Без чвэрці пяць. Я засвістаў паставому і пабег званіць у аддзяленне.

— Трубку падняў я,— уступіў у размову Жэнэ.— І адразу ж прыбыў на месца. Загадаў выклікаць доктара.

— Ніхто нічога не чуў?

— Не ведаю.

Непадалёк віднеліся невялікія дзверы, над якімі гарэла слабенькая лямпачка.

— Што гэта?

— Дзверы ў кантору ювелірнага магазіна. Імі рэдка карыстаюцца. З'явіліся эксперты, якіх Мегрэ выклікаў, выязджаючы з набярэжнай Арфэўр.

— А што там, у канцы двара? — спытаўся Мегрэ.

— Нічога. Сцяна. Ёсць дзверы ў дом па вуліцы Мэле, але яны даўно закалочаны.

Было відавочна: чалавека забілі ўдарам нажа ў спіну, як толькі ён зайшоў углыб тупічка. Нехта, праслізнуўшы ўслед за ім, ціха зрабіў сваю справу.

— Я праверыў кішэні і выняў кашалёк.

Невэ працягнуў яго Мегрэ. Адзін з экспертаў пасвяціў ліхтарыкам. Кашалёк як кашалёк, не новы, але і не надта заношаны, з добрай скуры. Усярэдзіне — тры паперкі па тысячы франкаў і некалькі па сто, пасведчанне, выдадзенае на імя Луі Турэ, кладаўшчыка, жыхара Жывізі (вуліца Таполяў, 37), картка выбаршчыка з тым самым іменем, шматок паперы, на якім напісаны алоўкам пяць-шэсць слоў, і старая фатаграфія маленькай дзяўчынкі.

— Ну што, прыступім? — спытаўся эксперт.

Камісар гадоў ужо пяць сама меней абяцаў жонцы кожную восень зрабіць гэта «ў наступную нядзелю».

Калі ён выйшаў з дому, першы раз надзеўшы гэтай восенню прапахлае нафталінам паліто — прапанавала жонка, была палова дзевятай, але на вуліцы было так змрочна, што ў кватэры яшчэ гарэла святло.

Удзень дождж скончыўся, аднак асфальт не прасыхаў і рабіўся ўсё больш брудны. А гадзіны ў чатыры Парыж зноў ахутаў той самы жаўтаваты туман, у якім расплывалася святло ліхтароў і вітрын.

Калі зазваніў тэлефон, у бюро не было ні Люка, ні Жанв'е, ні нават маленькага Лапуэнта. Адказаў Сантоні, карсіканец, новы чалавек у брыгадзе — да гэтага ён працаваў у аддзеле азартных гульняў, потым — у аддзеле нораваў.

— Шэф, вас турбуе інспектар Невэ, з трэцяга раёна,— далажыў Сантоні камісару.— Хоча пагаварыць асабіста з вамі. Здаецца, справа тэрміновая.

Мегрэ ўзяў трубку:

— Слухаю, даражэнькі.

— Званю з бістро на бульвары Сен-Мартэн. Толькі што знайшлі аднаго тыпа. Зарэзаны.

— На самім бульвары?

— Не, не зусім. У адным тупічку.

Невэ, які ўжо даўно працаваў у паліцыі, ведаў, пра што адразу ж падумае Мегрэ. Такое забойства, асабліва ў густанаселеных кварталах,— справа следчаму мала калі цікавая. Найчасцей гэта вынік п'яных сварак альбо звядзенне рахункаў сярод шпаны, іспанцаў, арабаў. Таму інспектар таропка дадаў:

— Справа здаецца мне няпростай. Лепей бы вы прыехалі. Гэта паміж вялікім ювелірным магазінам і лаўкаю штучных кветак.

— Добра. Еду.

Камісар упершыню паехаў з Сантоні і цяпер ніяк не мог дачакацца, калі ж яны прыедуць на месца — так моцна надушыўся інспектар. Каб здацца вышэйшым, нізкарослы карсіканец насіў чаравікі на высокіх абцасах, валасы ў яго былі напамаджаныя, на безыменным пальцы жаўцеў буйны брыльянт, напэўна, фальшывы.

На бульвары Сен-Мартэн стаяў натоўп: чалавек трыццаць. Іх стрымлівалі паліцэйскія ў накідках. Невэ, які чакаў камісара, адчыніў дзверцы машыны.

— Я папрасіў доктара пачакаць вас,— сказаў ён.

Быў той час, калі гэтая частка Вялікіх бульвараў робіцца найбольш шматлюднай. Вялікі святлівы гадзіннік над ювелірным магазінам паказваў дваццаць хвілін на шостую. Але ў лаўцы штучных кветак, якая выходзіла на вуліцу толькі адной вітрынаю, было ўжо цёмна. Шкло вітрыны было такое бруднае, што, здавалася, у лаўку ніхто ніколі і не заглядваў.

Паміж магазінам і лаўкаю — вузкі тупічок, дакладней, неасветлены, якіх багата ў гэтым квартале, праход ва ўнутраны двор.

Невэ праціснуўся ўперад, вызваляючы дарогу камісару. Метры за тры — чатыры ад пачатку праходу іх чакалі ў цемрадзі нейкія людзі. У двух



Мегрэ кіўнуў. Зазіхацелі бліцы, зашчоўкалі фотаапараты. Эксперты рабілі свае вымярэнні спакойна, не задавалі ніякіх пытанняў, адчувалася адно, што ім трохі няёмка працаваць у такім вузкім праходзе. Натоўп з боку бульвара павялічваўся, і паліцэйскія з цяжкасцю стрымлівалі яго.

Эксперты асцярожна вынялі нож і паклалі яго ў скрыню. Перакулілі цела на спіну. На твары ў забітага, чалавека гадоў сарака — пяцідзесяці, застыла здзіўленне. Было ў гэтым здзіўленні штосьці дзіцячае. Чалавек, напэўна, так і не зразумеў, што з ім здарылася. Нехта, гледзячы на яго, узнервавана хіхікнуў.

Апрануты ён быў прыстойна: чысты цёмны касцюм і бэжавае дэмісезоннае паліто. Але вось на нагах былі жоўтыя чаравікі, зусім не па сезону.

Каб не яны, то на вуліцы гэтага чалавека ніхто і не заўважыў бы, такі ён быў неадметны.

Аднак паліцэйскі, які знайшоў яго, сказаў:

— Мне здаецца, я яго недзе бачыў...

— Дзе?

— Не памятаю. Але твар мне знаёмы. Ведаеце, часта сустракаеш адных і тых самых людзей, а твары неяк не запамінаюцца.

Невэ пацвердзіў:

— Мне ён таксама некага нагадвае. Магчыма, працаваў тут непадалёк.

Але што магло спатрэбіцца нябозе ў гэтым тупіку?

Мегрэ паглядзеў на Сантоні. Карсіканец доўга працаваў у паліцыі нораваў і мог запомніць яго, як аднаго з маньякаў — шукальнікаў адзіноты. Там іх ведаюць амаль што ўсіх. Часам гэта значныя людзі. Зрэдку іх ловяць, але калі адпускаюць, яны зноў бяруцца за сваё.

Аднак Сантоні пакруціў галавою.

— Ніколі не бачыў.

Тады Мегрэ прыняў рашэнне:

— Працягвайце, панове. Калі адвезяце яго ў інстытут, не распранайце да майго загаду. А мы, Сантоні, паедзем. Паглядзім на яго сям'ю, калі такая ёсць.

Камісар быў заінтрыгаваны: забіты зусім звычайны, нічым не прыкметны чалавек...

— У Жувізі! — загадаў Мегрэ шаферу.

Яны спыніліся на момант каля Італьянскіх варотаў, каб выпіць па куфлю піва. А калі ў Жувізі, каля вакзала, пачалі распытваць пра вуліцу Таполяў, дык адказаў ім толькі пяты чалавек:

— Гэта вунь там, у недабудаваным раёне. Як даедзеце, дык глядзіце на шчыткі. Там кожная вуліца носіць назву якогасьці дрэва, а так яны ўсе аднолькавыя.

Спачатку доўга ехалі ўздоўж сарціровачнай станцыі, на якой лязгалі, пераязджаючы з аднаго пуці на другі, вагоны, свісталі і сіпелі, пускаючы клубы дыму, дзесяткі два паравозаў. Нарэшце дабраліся да патрэбнага раёна. Вузенькія вулкі, і праўда зусім аднолькавыя, сотні, можа,



тысячы досыць новых домікаў, пабудаваных па адной мадэлі. Дрэвы, пасадкі якіх давалі назвы вуліцам, яшчэ не паспелі вырасці, сям-там не было нават тратуараў. За аднымі дамамі — пусткі, за іншымі — чэзлыя садочкі, у якіх засыхалі апошнія восеньскія кветкі.

Дубовая вуліца... Бэзавая... Букавая... Магчыма, калі-небудзь гэты раён будзе падобны на парк, калі толькі ўсе гэтыя дрэнна пабудаваныя дамы не разваляцца, перш чым вырастуць як след дрэвы.

Жанчыны за вокнамі кухняў гатавалі вячэру. На вуліцах пуста. Дзенідзе — маленькія крамы, таксама даволі новыя з выгляду, аднак вітрыны іх нічым не вабілі.

— Налева.

Хвілін дзесяць кружылі, пакуль не прачыталі на шчытку патрэбную назву. Але дом яны праскочылі, бо трыццаць сёмы нумар ішоў чамусьці адразу ж за дваццаць першым.

Святло гарэла толькі на кухні, унізе. Было відаць, як за штораю ходзіць мажная жанчына.

— Хадзем,— уздыхнуў Мегрэ, з цяжкасцю вылазячы з маленькай машыны, і выбіў люльку аб абцас.

Калі ён ступіў на тратуар, штора зварухнулася і жанчына прыпала тварам да акна. Выдавала на тое, што прыезд машыны быў для яе падзеяй.

Мегрэ ступіў на ганак і спыніўся перад пакрытымі лакам сасновымі дзвярамі, з жалезнай ручкаю і сінім акенцам. Ён пачаў шукаць кнопку званка, але, перш чым знайшоў яе, пачуў голас з-за дзвярэй:

— Хто там?

— Пані Турэ?

— Я.

— Я хацеў бы пагаварыць з вамі.

Але жанчына не рашалася адчыніць дзверы.

— Паліцыя,— ціха дадаў Мегрэ.

Гаспадыня зняла ланцужок, адсунула засаўку і, агледзеўшы мужчын праз шчыліну прыадчыненых дзвярэй, спыталася:

— А што вам трэба?

— Пагаварыць з вамі.

— Чым вы дакажаце, што вы з паліцыі?

Мегрэ паказаў паліцэйскі жэтон.

— Добра. Спадзяюся, ён не фальшывы,— сказала пані Турэ, убачыўшы жэтон, і ўпусціла нечаканых гасцей.

Вузкі калідор, выбеленыя сцены, пакрытыя лакам дзверы і плінтусы. Дзверы на кухню заставаліся адчыненыя, жанчына правяла іх у суседні пакой і запаліла святло.

Мегрэ разгледзеў гаспадыню. Сорак — сорак пяць гадоў, як і мужу, паўнейшая за яго, але не рыхлая, а шырокая ў касцях. Імпазантнай не назавеш. Шэрая сукенка і фартух, які яна машынальна церабіла, яшчэ больш спрашчалі яе.

Спыніліся яны ў сталовай. Абсталюнак у вясковым стылі, кожная рэч на сваім месцы, як на вітрыне мэблевага магазіна. Нідзе нічога лішняга —



— Не, не паспелі. Ды мы й не ведаем яшчэ, дзе ён працуе.

— А хто ж яго забіў?

— Якраз гэта мы і спрабуем высветліць.

— Ён быў адзін?

Мегрэ адчуў раздражненне.

— Ці не лепей вам апрануцца і паехаць разам з намі?

— Што вы з ім зрабілі?

— Цяпер ён у Інстытуце судова-медыцынскай экспертызы.

— Гэта морг?

Мегрэ змаўчаў.

— Як мне папярэдзіць дачку?

— Можаце пакінуць запіску.

Гаспадыня задумалася.

— Не. Мы лепей заедзем да маёй сястры, і я перадам ёй ключ. Яна прыйдзе сюды і дачакаецца Моніку. Дачку вам таксама трэба ўбачыць?

— Пажадана.

— Дзе ёй лепш сустрэцца з намі?

— У маім бюро на набярэжнай Арфэўр. Гэта будзе найбольш апатыўна. Колькі ёй гадоў?

— Дваццаць два.

— А вы не маглі б папярэдзіць яе па тэлефоне?

— Па-першае, у нас няма тэлефона, а па-другое, яна пайшла ўжо з працы і едзе на вакзал. Пачакайце мяне.

Яна паднялася ўверх па лесвіцы, якая ўся рыпела пад ёю — дом быў пабудаваны з уцэненых матэрыялаў, і дажыць да старасці яму наўрад ці было наканавана.

Уніз яна спусцілася ў чорным, надушаная.

Падышоўшы да машыны, пані Турэ спынілася, усё роўна як сумнявалася, ці памесціцца яна ў такім маленькім аўтамабілі. Нехта назіраў за імі з акна суседняга дома.

— Сястра жыве за два кварталы адсюль. Няхай шафёр паверне направа, а потым на другую вуліцу налева.

Домікі сясцёр здаваліся блізнятамі. Адрозніваліся яны хіба што колерам шкла ў акенцы на дзвярах: тут яно было жоўтае.

— Я зараз вярнуся,— сказала пані Турэ, выйшаўшы з машыны, аднак затрымалася хвілін на пятнаццаць.

Вярнулася яна разам з сястрою, падобнай на яе як дзве кроплі вады і таксама апранутай у чорнае.

— Сястра паедзе з намі. Я думаю, месца хопіць. Яе муж пойдзе да мяне і дачакаецца Моніку. Сёння ў яго выхадны. Ён кантралёр на чыгунцы.

Мегрэ сеў побач з шафёрам. Сантоні ледзь уціснуўся на сядзенне побач з мажнымі жанчынамі. Па дарозе сёстры перашэптваліся.

Калі яны прыехалі ў Інстытут судмедэкспертызы, цела Луі Турэ ўжо ляжала на мармуровай пліце. Нябожчыка, згодна з загадам Мегрэ, яшчэ не распраналі. Камісар сам адкінуў з твару забітага прасціну.

# БЭЗАВЫ ПОПЕЛ

А л а СЯМЁНАВА

ФРАГМЕНТ З КНІГІ









Чалавечы голас... Жан Както недарэмна адчуў таямнічую ўладу гэтай нязначнай слухаўкі. Хто абышоўся без яе ў XX стагоддзі? Адхілена-збліжанае судачыненне чалавекаў. Хуткамоўленне людзей спраў. Скоклівая гарэзія балбатні. Вохклівыя енкі старых. І — доўгія размовы закаханых. І — нечаканыя званкі. І — чаканне званка. «Алё...» Голас добразычліва-свежы, усмешлівы, ранішні, нават калі ён гучыць а дзесятай гадзіне ўвечары. Жанчына, якая ўмее ўгадваць час слова і радасць аднаго імгнення. «Добры вечар...» Голас крадзецца і хаваецца ад некага. «Прывітанне!» Голас — стрэл. Словы — што пытанні анкеты. «Алё!» Голас робіць ласку. Словы пагойдваюцца, калышуцца, робяць кругі, голас як быццам ведае нешта такое, пра што ніхто не здагадваецца. «Вечар добры!» Голас вуркатліва-глухаваты. «Вечар добры...» — нібы табе, а нібыта і сам сабе. Ён так і будзе размаўляць, нібыта з табою, нібыта з сабою самім. «Перадай прывітанне маме. Не, паклон».

Я не пачую больш ні гэтага голасу, ні матчынага. У мацеры быў дзіўны, запамінальны голас. Арга́нны — малады, звонкі асноўны тон і гартанныя, кантральтавыя падгалоскі. Гэта не мае ўражанне — іншых. «Слухаю вас...»

А той вуркатліва-глухаваты голас — Міхася Стральцова.

Размовы нашыя часцей былі менавіта тэлефонныя. Доўгія. Гадзіну, а то і дзве. Званіў ён часцей ці ўранку, гадзіне а дзесятай, ці гадзін у дзевяць, а не дык і адзінаццаць — увечары. Пра што былі гаворкі? Пра чытанае, слуханае, пра тое, што ён збіраецца пісаць (згадваў неяк кнігу пра Янку Купалу, накшталт «Загадкі Багдановіча», не напісалася, на жаль), пра дробязі, пра «закон звезды и формулу цветка» (М. Цвятаева). Мудрыя і абачлівыя людзі ў такіх выпадках занатоўваюць размовы. У мяне ніколі не было тых дабрачыннасцяў: ні мудрасці, ні абачлівасці. Не, я заўсёды ведала, хто такі і што такое Міхась Стральцоў. Спрабавала пісаць пра яго, хаця разумела: «Страшна — усё роўна як узбіўся на дзёрзкую думку вывесці формулу роздуму ці ўзяць на далонь, каб разглядзець агонь ці снег». Была рэдактарам дзвюх яго кніжак. Крытыкі. Але, разумеючы, хто ёсць Міхась Стральцоў, неяк не магла сябе прымусіць занатоўваць размовы. Здавалася — гэта што сачыць за сабой у шчыліну замка. Глупства? Недаравальнае легкадумства? Магчыма. Затое лёс падараваў мне — ветрагонам шанцуе — цэлы скарб: 45 лістоў Міхася Стральцова. Ліставанне тое было ў не самы лёгкі год для яго і досыць складаны для мяне. Ягоныя і мае мітрэнгі не мелі судачынення. У кожнага было сваё. Аднак мо і быў у тым нейкі патаемны знак...

Помню, як я атрымала першы ліст Стральцова. Восеньскім вечарам у Дубултах — званок (зноў званок). Тэлефон унутраны. Адзіная знаёмая мне жанчына з'ехала. Пажар? Навадненне? Сусветны патоп? «Вам ліст, атрымайце». З дому мне пісалі «да запатрабавання». Ад каго? Почырк незнаёмы. Востранькі. Малачытэльны. Не почырк — клінапіс. Чытаю — ці, хутчэй, разгадваю, расшыфроўваю.

«Дарагая Ала Іванаўна!

Ну, ну, не хмурней брывом з выпадку такога сур'ёзнага звароту. Проста мне ўспомнілася, як міла ты мне выгаворвала аднойчы за Алу Іван[аўну] — вось і закарцела падражніцца.

Значыцца:

дарагая Ала!

Нешта падобнае да невялічкага катаклізму адбылося надоечы ў маім жыцці. Для здароўя і самаадчування майго карысным было прызнана двухгадовае знаходжанне ў па[ў]днёвых мясцінах спагаднага і мілага нашага краю. Вось і абзываюся адтуль, з самага дна колішняга мора Герадотавага, спакойна і павольна, нібы ў зачараваным сне, апетага сённяшнімі тубыльцамі X, Y, Z і інш[ымі] шаноўнымі турамі пяра. О, я на родине этих мужей, телом тучных и голосом рыкающих. Хвала им! Бессмяротнае слова іх падтрымлівае і мяне ў сумную хвіліну, а пазней, думаю, натхніць і на сціплы подзвіг пяра — чаму не натхніцца вартым пераймання прыкладам? Так што хутка я запішуся, калі прымуць, у секцыю «чающих воды» (Як гэта хораша і глыбакадумна сказана ў рамане Y.: «Усюды — куды ні глянь — была вада!» А было гэта ў часы сусветнага патопу і N.N.-чу нейкім чынам давялося прысутнічаць пры гэтым у якасці духа боскага, ці як? — «И божий дух носился над водою». Глыбака капаюць і высака лятаюць палешукі!).

А слухай усё ж: мясціны гэтыя мне былі і раней трохі знаёмыя — быў некалі непадалёк адсюль на вайсковых зборах. І тое-сёе ў маім тутэйшым бытаванні нагадвае колішняе. Але толькі тое-сёе! На жаль.

КПП. Там круціцца пласцінка,
Хрыплаватым голасам пяе.
«Ты — галінка, я — твая расінка»,—
Мне чуваць у голасе яе.
Я міну лінейкі і газоны,
Гэткія, як некалі раней,
Успамінак даўні, гарнізонны
Ціхім смуткам сэрца мне кране і г. д.

(КПП — кантрольна-прапускны пункт).

Але хопіць. Ты павінна здагадацца ўжо, што напісаў гэта я толькі затым, каб атрымаць ад цябе ліст. Не палянуйся, га? Пішы — мне ўсё будзе цікава.

Міхась»

І было ліставанне. Даўжынёю ў год — з восені 1981 да восені 1982 года. Пакуль ён быў у Мазыры.

Ліставанне. Тэлефонныя гаворкі. «Есть в близости людей заветная черта...» У нашых адносінах гэта заўсёды была дыстанцыя. Тая дыстанцыя, што змяшчала і нязмушанасць сяброўскіх адносін, і літаратурна-мройнае дадумванне адзін аднаго. І аберацыю часоў. Студэнцкіх. Нядаўніх. Сённяшніх. Было і тое, пра што ён напісаў у адным са сваіх вершаў, якія былі ў лістах: «Так размінаецца душа з другой душой — і плача вецер»... (Згадваю ўсё не дзеля таго, каб давесці свету гісторыю нашых узаемаадносін, а дзеля таго, каб пазначыць вельмі важныя стасункі для разумення такой творчай асобы, як Міхась Стральцоў.)

Дарэчы, па універсітэце я Стральцова не памятаю. А ён недзе здалёк заўважыў, але не падышоў. «Можа, і добра,— гаварыў год праз дваццаць,— і напакутавалася б ты са мной». А я тады, у студэнцтве, і ад блізарукасці, і ад галавы, «поўнай сонцам», і ад таго, што неба было для мяне колеру мары, а край свету недзе побач, на рагу знаёмых вуліц, ад звоннага тлуму сталіцы пасля Навагрудскай цішы — не пабачыла, не згледзела. Блакітны вецер стральцоўскай мары заспеў мяне, канечне ж, насуперак логіцы (наскрозь алагічны чалавек) у маёй любімай Ленінцы, калі прачыталася:

> Адносіны паміж смяротнымі
> бессмяротныя.
> Барыс ПАСТАРНАК.

«У радасці свая вясна, і калі стане вясновай душа — народзіцца радасць.

І неабавязкова ёй прыходзіць да чалавека вясной: ёсць яшчэ лета і зіма, ёсць восень, і ёсць яшчэ дзень і ноч, усход і захад сонца. Зімою трашчыць уночы на рэках лёд, і гул ідзе высока, аж да неба, а раніцай ляжаць снягі, ружовыя і чыстыя, як радасць. А ў жытнёвае лета вісіць над зямлёю яблык, пераспелы і светлы, як даўняя журба: ён упадзе — надыдзе восень, а восенню хлапчукі пякуць на полі бульбу, і ўвосень прыходзяць да чалавека ўспаміны пра маленства. Але толькі вясною высока ў небе клічуць радасць журавы, і калі яна запазнілася да цябе, зімой ці летам, удзень ці ўночы, дык абавязкова прыйдзе з гэтаю песняю, і ты, можа, спазнаеш тады і трывогу, і шкадаванні, і журбу, але ўсё адно гэта будзе радасцю».

Свет існаваў. Свет руйнаваўся. На вачах. Каміна ў мяне не было. Грубка роднага дома была за сто пяцьдзесят кіламетраў. Класічны, прыгожы спосаб знішчэння ўласных допісаў — спаліць! Каб быў толькі попел — не існаваў. І я ціха шматкавала спісаныя замашыстым почыркам лісткі ў бібліятэчную сметніцу. «Уже написан Вертер...» (Пазней даведалася, што адчуванне тое было знаёмае нават самаму Стральцову: «Бывае ўсё-такі зайздросна, Вось ты высільваўся, пацеў, А твой радок надзіва проста у вершы сябра заляцеў»). А студэнцкай парою я суцешылася тым, што ў якую трансцэндэнтную гадзіну, калі шэра-бэзавы надвячорак ранняй вясны, строгая графіка дрэў, напаўрэальнае мройлівае паветра, трывога надзеі ў вясновага птаства — і ты сам-насам з усім гэтым, з пранізлівым усведамленнем прыроднай явы — там, недзе, на самым донцы свядомасці, заўсёды жыла памяць: ёсць чалавек, для якога ўсё гэта таксама не толькі кругаварот прыроды, не толькі час, калі пачынаюць прыкідваць планы на адпачынак.

Сустрэліся мы першы раз... Хаця гэта была хутчэй «невстреча». Адбылася яна таксама недзе напрадвесні.

Два разумныя хлопцы, сябры Міхася Стральцова, напісалі два артыкулы, аркушы са тры кожны. Артыкулы добрыя. Але нешта ім стрэліла ў галаў зляпіць іх разам і пазначыць як кнігу. А Стральцоў падпісаў той рукапіс як тытульны рэдактар — ганаровы, так бы мовіць. Быў ён тады ў зеніце сваёй славы. Яшчэ малады — а ўжо вядомы. Толькі што выйшла яго кніжка ў Маскве «Что будет сниться» са знакамітай прадмовай Янкі Брыля: чытаў «амаль на адной хвалі прыёму» з Буніным.

Мае аўтары, мабыць, ужо распавялі яму пра нашу спрэчку — я лічыла, што два розныя артыкулы розных аўтараў яшчэ не кніга — і Стральцоў уляцеў у рэдакцыю: шапка набакір, кажушок нарасхрыст (кажушок на тую пару самы ўсхліп

моды). Маналог свой ён распачаў ад парога. Я то рабілася белай, як мой шыкоўны з кутасамі шалік (радасць аж захліствала мяне, каб бабуля-суседка прэзентавала гэты дарунак свайго пляменніка з Аўстраліі), то чырвонай, як мая святочная сукенка. (Канечне ж, я насунула на сябе ўсё лепшае, што ў мяне было — барані Божа, не дзеля таго, каб спадабацца ці зрабіць ураканне,— не, я толькі ліхаманкава імкнулася адпавядаць урачыстасці моманту: прыйдзе сам Міхась Стральцоў.) А момант быў сур'ёзны. Гняўлівы Стральцоў распякаў мяне, як мог. Я моўчкі стаяла на сваім: максімалізм заклятай выдатніцы.

Урэшце тыя хлопцы выдалі кожны сваю кнігу. А са Стральцовым мы сустрэліся гадоў праз пяць у выдавецтве «Мастацкая літаратура».

Быў тады, як сёння кажуць, самы застой. Цэлыя пласты гісторыі і літаратуры нібыта і не існавалі — маўчанне. Шмат каго і шмат чаго не друкавалі. Шмат чаго мы і не разлічвалі надрукаваць. Многа чаго адстойвалі, «кідаючыся на амбразуру». Але... Ці то таму, што пачатак кожнай справы надае ўсяму імпэт. Ці то таму, што Мікалай Гаўрылавіч Ткачоў, наш дырэктар, адміністрацыйны геній, стварыў атмасферу будзённага свята, аднак «в те дни «МЛ» была Элладой», калі перастварыць вядомыя радкі. Не, садоў Акадэміі ў нас не было, усе рэдакцыі сядзелі ў двух пакоях. Ажно дзе-небудзь апоўдні ў пакоі віхурна з'яўляўся Рыгор Барадулін: толькі што ці то з Ушачаў, ці то з Багамскіх астравоў. Увесь у рыфмах, шчодры, яркі, і незбыт добры, і незбыт з'едлівы адначасо-



ва: «...як захлынуўся ад радасці жаўранак». Праходзіла праз пакоі Алена Васілевіч — сама жаноцкасць, у выкшталцоным паліто і рамантычным капелюшы... Узнікаў канцэнтравана-інтравертны Алесь Разанаў, нібыта толькі што скончыўшы дыялог ці то з Сакратам, ці то з Хайдэгерам... Шпарка крочыла з ахапкам кветак Вера Палтаран — і валошкавым цветам цвілі яе вочы... Сыходзіў з нейкай урачыстай явы ў шалёна выразнай форме каўтаранга Васіль Хомчанка... Вялі інтэлектуальныя размовы малодшыя рэдактары...

Царавала атмасфера паразумення, надзей, спадзяванняў...

Заходзіў і Міхась Стральцоў. Знакаміты. Але да той, незамглёна-светлай славы дадалася яшчэ адна. Тая слава, што спадарожнічала не аднаму і не двум паэтам. Празаікам. Мастакам... Тая слава, што прывяла і ў Мазыр, адкуль я атрымала ліст...

А з пачатку 70-х і ўзніклі тэлефонныя «спатканні». Нейкай парою ён званіў часта, нейкай — гады ў рады. Заходзіў у выдавецтва. «Праводжу цябе да тралейбуса».— «Чакай, я куплю піражок». Ён гмыкаў, пасміхаючыся. І купляў на цэлы рубель тых піражкоў (ці не апошні рубель? Ён тады не рабіў афіцыйна, і грошы не вяліся ў яго). «Ведаеш, я цябе буду сустракаць, як з дзіцячага сада». І мы доўга шпацыруем — з Паркавай магістралі (праспекта Машэрава) прысадамі, разлеглым яблыневым садам. «Ведаеш, Алеся [малодшая яго дачка] збіраецца ў секцыю тэніса», «Хто твой муж? Я ніколі не апушчуся да таго, каб пытацца ў некага». «Вераніка (сярэдняя дачка) піша вершы. Сустрэнься з ёю»,— гэта пазней, ужо ў лісце з Мазыра.

Згадваю ўсё гэта, зноў жа, не дзеля рызыкі пазначыць — бачыце, як ставіўся да мяне Міхась Стральцоў,— а каб падаць штрышкі ягонага характару.

Ведала я яго, безумоўна, з лепшага боку. Нават і адтуль, з Мазыра, ён не пісаў, як яму там, што з ім, які яго побыт і небыт. Згадвалася, можа, іншым адрасатам? У лістах жа да мяне гэта часам прарывалася агульнай раздражнёнасцю ды хіба вось такімі радкамі: «Я сантыментальным яшчэ не стаў, але здагадваюся ўжо, што нешта падобнае чакае мяне наперадзе. Гэта, мусіць, ад адзіноты, уяві сабе многа-многа мужчын у адным месцы, да таго ж падобных адзін да аднаго, як шпакі. **И все с болячками**, с пупырышками — душевными, конечно,— бр-р!» Або: «Не забывай мазырскага палонніка».

Агульны тон лістоў быў іранічна-лірычны, амаль кожны ліст быў з вершамі. Як згадваў ён сам: «...адбываю рату вершамі». Часам ён так і пачынаў:

«Дзень добры, Ала!  
Не сумую сягоння: навошта?  
Мо цягнік пастараўся, а мо  
Галубіная лёгкая пошта  
Мне прынесла тваё пісьмо.

А чаму не паслаць было чаіц  
Ад шумлівых тваіх берагоў,  
Каб вясёласць маю прывячалі  
Над маркотай асенніх лугоў?

Іх маркота хаця б з нагоды,  
Што, зняверыўшыся ў жальбе  
Лістападаўскае прыроды,  
Свет зняверыўся і ў сабе.

Што ўжо рэчкі, стагі і долы  
І прадзьмуты вятрамі лес



У задумнасці невясёлай  
Пакарыліся восені спрэс,—

Хоць ад замеці ліставея  
Скразнякамі святло ў барах,  
Хоць і ў сэрцы трымціць надзея,  
Як лісток на тугіх вятрах...

Гэта ўсё так табе знаёма!  
Не падумаю я з тугой,  
Што ты бліжай цяпер да дома,  
Чым я дома да дома свайго,—

Проста гэту асеннюю замець,  
Гэты лес у асеннім агні  
Пасылаю табе на памяць:  
Мне вясною яго вярні!»

Гэты ліст я таксама атрымала яшчэ ў Дубултах, трэці ліст Міхася. А перад тым быў вось такі.

«Дзень добры, Ала!

— А таечка мая, а слухай-ка ты сюды-ы,— як любіла выражоўвацца адна вясковая кабетка,— ляжу гэта я на казённым ложку, пятою збэрсаўшы казённае прасцірадла, **вырачыўшы** вочы і **ўталопіўшы** іх у столь (цьфу — зноў слоўца бессмяротнага Y!), дык ляжу гэта я і думаю: а што было б, каб, скажам, D раней за X стаў акадэмікам і што сказаў бы на гэта Саша Я.? Га?

І тут мне прыносяць нешта падобнае да пісьма. Гм! Почырк, скажу я, востранькі такі, але і завітушачкі ёсць,— ну, не раўнуючы,— **калючая ружа**! Эге,— думаю, і ўспамінаю, што казаў у такіх выпадках мой сусед — «Эх, **Мяндоза**. Тут няйначай нейкая **Мяндоза**!» — Гэта ён некалі шэкспіраўскі спектакль па тэлевізары бачыў, і класіка яго праняла. Гляджу далей: Гвадалупа не Гвадалупа, Ганалулу не Ганалулу, Ганалес не Ганалес — **Паланга** нейкая. А самае дзіўнае: там, дзе подпіс павінен быць, ці то вензель, ці то адмысловая пячатка. Падобная і да жука скарабея і да кітайскага ці японскага знака. Ну, думаю, тут без М. Ф. Фядоранкі (ці Федарэнкі?) не разбярэш. Ці то хіба Кавабату на дапамогу паклікаць.

Але ўсё-ткі, таечка ты мая, сэнсу я даўмеўся, і дапяў, і дапаў, і насалоду, як Караткевіч ужо кажа, тым часам меў. Дзякуй.

Ну, дык вось. Хмаркі, дзякуй богу, плывуць і тут, а куды і з якім намерам, нават на КПП (кантрольна-прапускны пункт) не ведаюць. А сосны тут таксама ёсць, і над імі музыка пад вечар да знямогі грае, запрашаючы прамчацца на аленях ранкам раннім, а бывае, што над безабаронным птаствам і сімфонія грыміць. Невядома навошта, так сабе. Хочаш вершык пра гэта?

Вось гэта музыка сама  
Сабе гучыць...»

Далей ішоў цалкам гэты верш.

Лісты былі розныя: паштоўкі-віншаванні, часцей — вялікія, часам старонак на 8—10 яго спорнага, сціслага почырку. Я была акуратным карэспандэнтам. Яму быў патрэбны такі. Пра аднаго са сваіх добрых літаратурных сяброў (Міхась хораша пра яго пазней напіша), да якога прасіў звярнуцца з дзелавой нагоды, ён, Міхась Стральцоў, згадваў: «...ведаю ягоную эпісталярную глухату: лепш браць галубка голымі рукамі на месцы».

Калі праз год Міхась Стральцоў вярнуўся, і той «галубок», і Рыгор Барадулін (можа, як ніхто іншы), і Анатоль Кудравец, і Віктар Карамазаў, і Карлас Шэрман, і Анатоль Грачанікаў — усе яны спрыялі таму, каб вярнулася да Міхася яго рэнаме ў літаратурным свеце.

Выйшла яго новая кніга паэзіі «Мой свеце ясны», кніга крытыкі «Пячатка майстра». Ён назапашваў сілы на прозу...

Прайшоў яго юбілей — былі вечары, тэлеперадачы, тэлефільмы. Была вандроўка на яго радзіму, на Слаўгарадчыну, там здымалі кароткаметражны тэлефільм. У тыя зімовыя, хрустка-марозныя дні здавалася — іх яшчэ будзе-будзе, такіх зім. Для яго зіма была апошняй... І сёння згадваецца як святочна-вакацыйны шпацыр тая вандроўка. Хаця рабілася справа. І мы весела (дзякуй богу, што чалавек не ведае апошняга часу свайго), неяк па-студэнцку рызыканца лезлі ў глыбокі снег, дабіраючыся да хаты, дзе гадаваўся Міхась, хаты ў вёсцы Сычын. Ён сам, яго дачка Алеся, яго сястра, Рыгор Барадулін, Алесь Пісьмянкоў, Саня Шлег, работнікі тэлебачання. І лезлі на званіцу ў Слаўгарадзе. І ішлі на паклон да маці Міхася...

Былі паўгода мы з ім у адной рэдакцыі, у адным аддзеле... Былі доўгія тры месяцы, калі ўсе мы, яго сябры, званілі з ранку да позняга вечара ў Бараўляны, адно аднаму... Ездзілі ў Бараўляны...

Былі... Было... Быў... Адышоў ён ад нас 23 жніўня 1987 года. Між іншым, гэтым днём, толькі на дзевятнаццаць гадоў раней, памёр мой бацька...

А ёсць... Яго кнігі. Яго шэдэўры: «Загадка Багдановіча», «Смаленне вепрука», «Дзень у шэсцьдзесят сутак», «Адзін лапаць, адзін чунь»... Яго крытычная проза. Яго вершы...

Успаміны пра яго. У кожнага свае. Яго лісты. Не толькі ў мяне, зразумела. А я, перагортваючы лісты — перакладзеныя паперай бібулкавай,— баюся дакрануцца да іх: лісткі клёну, пялёсткі браткаў, бэзу, яшчэ нейкіх кветак — яны рассыпаюцца ад дотыку. І застаецца бэзавы попел. Бэзавы попел... У ім свой патаемны сэнс, той сэнс, які ўкладваў у яго Барыс Пастарнак...

...Некалі я адпісала Міхасю, што не маю права адна валодаць такой раскошай — яго вершамі. Ён выдаў кнігу. Спадзяюся, што і лісты яго, і згадкі пра яго — надрукуюцца. Я не маю права — адна — на гэты скарб.

А жывучы ў дні сённяшнім — спрабую ўявіць сабе яго, Міхася Стральцова, сёння. Наўрад ці ён займаў бы трыбуны, наўрад ці пісаў бы злабадзённыя артыкулы і вершы, наўрад ці зрабіўся б членам якой партыі. Ён быў сузіральнікам. Філосафам па натуры. Ён глыбінна, сутнасна адчуваў душу свайго народа. Быў чалавекам, які выразна ўвасобіў беларускі нацыянальны характар. Меў вытанчаны літаратурны густ. Быў заўзятым кніжнікам. Знаўцам паэзіі беларускай, рускай, замежнай. Ніколі не быў мітуслівым. Ніколі — літаратурным прыстасавальнікам. Меціў новыя шляхі беларускай прозы. Нездарма такі высокі аўтарытэт мае сярод беларускай творчай моладзі.

Ён не быў анёлам. Ён шукаў і не знаходзіў абсалют. Ён прагнуў гармоніі і не знаходзіў яе. Ён быў заўсёды самім сабою. Ён шмат чаго не спраўдзіў. Але... «Душа сбылась...» Гэта — і пра яго.

Заканчэнне. Пачатак на 8-й стар.

# ГРАКІ НЕ ПРЫЛЯЦЕЛІ

На зямлі дзьмуў моцны вецер. Барыса працягнула па каменнях, ударыў калена. Абрэзаў стропы фінкай. Камуфляжнае квадратнае шаўковае палотнішча вецер скамячыў і пакаціў па даліне. Барыс не стаў яго даганяць. Так, можа, лепш. Парашут у небе маглі засекчы. Будуць шукаць. Чым далей ён апынецца ад парашута, а парашут ад яго, тым цяжэй стане яго лаўцам.

Праверыў пісталет. У кішэні курткі быў усяго адзін запасны «стручок». Папракнуў сябе:

— Бесклапотна мы вылятаем. Не думаем, што можам спешыцца. Зямля, яна мае сілу прыцягнення, дарагія таварышы. Вось так, Шувалаў! Ні пуху, ні пяра. Пайшоў к чорту! Ці пацэліпі хоць у мост? Дарагую ж цану заплацілі...

Адно ён убачыў пэўна: у ракетную ўстаноўку пацэліў. Калі іх пачнуць шукаць, а шукаць будуць верталёты, заўсёды шукалі верталёты, з гэтай устаноўкі пуску не будзе. Наўрад ці ёсць у іх другая для «Стынгераў». Гэта ўсё ж не чушкі «зямля-зямля», якія можна запусціць з драўляных козлаў.

Але... адыходзіць. Хутчэй адыходзіць!

Ен умеў добра лятаць. Умеў хадзіць па роўнай палескай зямлі. Ён не навучыўся хадзіць па гарах. Па каўказскіх. Кароткая паўза была паміж камандзіроўкамі сюды, у чужыя горы.

Напрасцяк лез на даволі крутую гору, трымаючыся на поўнач. У спіну яму свяціла сонца. Па схілах гор плылі цені ад хмар. Злавесныя, як звяры. Сонца гарачае. А вецер халодны. Зняў куртку — вецер ледзяніў успацелую спіну.

Гадзіны праз дзве такой нязвыклай хады знясілеў; не дапамагла слава лепшага валейбольнага іграка — за дывізію іграў.

— Слабак! Слабак!— узлавана дакараў сябе.

Перасохла ў горле. Пакутліва смажыла. І — хаця б які раўчачок. Хаця б са скалы ці з неба ўпала кропля вады. Пажоўклая трава. Голыя кусты.

— І за зямлю гэтую льецца столькі крыві! Ён гаварыў... не сам з сабою. З Леанідам. Ен усё яшчэ адчуваў яго прысутнасць. Жывога. Здавалася, што Сушко прыкрывае яго. Як у палёце. Азіраўся і бачыў яго — унізе, у міжгор'і, дзе, здавалася, струменіць вада. Разумеў, што гэта ўжо галюцынацыі. Ранавата.

— Слабак! Слабак!

З'еў нейкія ярка-чырвоныя горкія ягады — каб прагнаць смагу, падмацаваць сілы. Але ад іх, што ад чачы, закружылася галава. Сеў. Прыцісну́ўся захаладалай спінай да нагрэтай сонцам скалы. Пакрыў грудзі курткай. Стала добра, утульна, толькі балелі палец, што пракусіў, не даваў ні на міг забыцца пра Лёню, і калена. Калена трывожыла: разбаліцца так, што не здолее ісці, тады выйсце адно — куля... Але думку такую выракала ўся яго істота. Не, змагацца да канца! Паўзці на жываце. Колькі паўзці? Куды? Добра ведаў, што гэты пагранічны раён пад уладай душманаў. Сустрэць можна толькі іх. І літасці ад іх не чакай.

Парадаваўся, што падняўся высока. Нямнога засталося да пакатай вяршыні, да перавалу. Што там за перавалам? Можа, даліна? Чалавечае жытло? Няўбраная кукуруза. Яна смачная і сырая. У часці даўно паабедалі! Набліжаецца вячэра...

Барыс пракаўтнуў горкую сліну.

— Хто шукае нас? Сам Шувалаў? Крык мой па Лёню пачуў і зразумеў... Для яго гэта ўдар, якога даўно не было — адразу страціць дзве машыны. Чалавека, Шувалаў! Чалавека! Ах, Лёня, Лёня! Дрэнь ты, маёр! Ці не служыш двум гаспадарам? Чаго варты твае разведданыя? Мост і дурань мог выявіць. А чым яго прыкрываюць? Не. Нейкія знакі ён рысаваў.

Але ці лёгка на такой хуткасці ўсё ўбачыць, усё засекчы! Абрыдла ўсё да д'ябла. Чаму я павінен забіваць? У імя чаго? Каму я вінен? Што? Чаму я павінен паміраць? За што?

Цііўкнула куля.

Барысу здалося, што ён заснуў. Але інстынкт самаахаваы прымусіў паваліцца на бок, прыціснуцца да зямлі. Цііўкнула другая. Са скалы над ім пырснулі каменныя асколкі. Яго засеклі! Пагоня! А было ж адчуванне, што навокал на многа вёрст — ніводнай жывой душы. Калі засеклі тыя, хто шукае яго, хто атрымаў загад па рацыі... радыёсувязь маджахеды забяспечаны лепш, чым афганскія ўрадавыя войскі, багатых апекуноў маюць,— шанцы яго на ўратаванне ўпалі да нулявой адзнакі, як на шкале гаручага.

Пачакаўшы трэцяй кулі, якая аднак не ціўкнула, Барыс перапоўз за бліжэйшы валун. Добра, што далёкі землятрус навярнуў іх тут! Пакуль не дабраўся да расколіны, поўз па-пластунску; вучылі некалі на стравай і гэтаму. Вучылі шмат чаму, што здавалася будучым лётчыкам непатрэбным. Выходзіць, усё можа спатрэбіцца! Бацька скардзіцца, што яму не хапае ведаў па фізіцы і медыцыне — пасля аварыі. Ах, бацька! Мама! Не даведаецеся вы, як я памру!

Перамяшчэнне па-пластунску знясіліла зусім. Больш таго, гэтае прыпадабненне паўзуну аднімала апошнюю надзею на ўратаванне. Колькі ён можа прапаўзці? А паўзці трэба ўгору. Толькі ўгору!

— Не! Не буду я, бандзюгі, перад вамі поўзаць! Не дачакаецеся!

Падняўся ў поўны рост, махнуў курткай, як бы даючы сігнал — вось дзе я! Лавіце. Апрануў куртку. Узвёў пісталет — на той выпадак, калі яны знянацку з'явяцца перад ім.

— Жывым не здамся! І мёртвага задарма не возьмеце! Прыйдзецца вам заплаціць.

І зноў палез на гару, але не так ужо проста, як у пачатку,— па серпанціну, так пракладваюць горныя дарогі.

Сонца села за гару, і на схіл, па якім Барыс падымаўся, упаў цень. Вельмі можа быць, што гэта яго ратавала.

Паўднёвая асенняя ноч наступіла раптоўна — як толькі на ўсходзе перастала іскрыцца снежная вяршыня далёкай гары.

Барыс спрабаваў ісці ў змроку, але спатыкнуўся, ударыў калена, ажно з вачэй пасыпаліся слёзы. І не здолеў падняцца. Нягледзячы на боль, праваліўся ў глыбокі сон імгненна, так засынаюць цяжка змораныя і пакрыўджаныя дзеці, напалакаўшыся.

Прачнуўся ад холаду — моцна змерзлі ногі. Яшчэ адзін пралік — ад самаўпэўненасці. Куртку апрануў, а боты на унты не памяняў. Унты ніхто не абуваў. На вышынях тут не хадзілі, паветраных баёў не вялі, хадзілі паміж гор, касілі душманскія калоны з кулямётаў, бамбілі іх базы.

Якое аднак усё кантрастнае! Удзень млелі на лётным полі, уначы дрыжэлі ў палатках. Дык гэта ж там, у даліне, на вышыні нейкіх чатырохсот метраў над узроўнем мора. А тут ён на якой вышыні? Тут кастрычніцкая ноч пранесла зіму. Ажно анямела калена. Замарозілася. Пашкадаваў, што кінуў парашут, ім можна было б накрыць ногі, загарнуцца ў яго. Не. Парашут нялёгкі. Несці яго ўгору не хапіла б сілы.

— Слабак! Слабак! А казырыўся. Гусара іграў.

Больш не заснуў — баяўся абмарозіць ногі. Грэў ногі хадою — у поўнай цемры лез на гару. Ажно пакуль не спужаў, напэўна, горнага казла. Сам спужаўся. Жывёліна выскачыла з-пад чорнай скалы, ледзьве не збіла з ног, дыхнула ў самы твар цеплынёй. Цеплыня навяла на думку, што казёл спаў ва ўкрыцці. Памацаў скалу і знайшоў звярыное лежбішча — вузкую пячору. У ёй непрыемна пахла, але трымалася цеплыня, быццам за тысячы гадоў казлы нагрэлі скалу, і яна не астывала і ў зімовую сцюжу.

І Барыс заснуў у гэтым хляве. Сон быў цяжкі, як пад наркозам. Адчуваў боль — і не мог прачнуцца. Сніў страшнае: пагоню барадатых душманаў, яны даганялі яго, а ён не мог бегчы з-за болю ўназе; перажыў дзікі страх.

Праспаў ён доўга, выпаўз з пячоры — відна. Гадзіннік яго паказваў палову дзесятай па кабульскаму часу. Разгар дня. Але дзень быў змрочны. Хмарны. І хмары плылі з захаду. А ўчора вецер дзьмуў з усходу. Тут нячаста бываюць такія змены надвор'я. Але ж восень. Дзіўна: сонечныя дні тут мала падобныя на нашы, а ў хмарных ёсць нешта агульнае, таму і абвастраецца ў такія дні настальгія па разанскіх дуб смаленскіх, па палескіх аблоках.

Балела нага. Аднак хацелася есці. Ад голаду — у кішэчніку цэлы аркестр. Мільганула думка: перачакаць у гэтай бярлозе, пакуль трохі не атухне боль. Але менавіта голад адагнаў такую думку; а жыць чым? Святым духам? Малітвамі алаху? О, каб багі маглі карміць, то людзі не ваявалі б!

Пакульгаў далей. З натугай пераадольваў боль у калене. Хутка лёс узнагародзіў яго. У цясніне натрапіў на кусты з ягадамі накшталт нашай крушыны — такія ж на выгляд і на смак. Цэлая града кустоў. Ёсць раслiннасць і немалая — ёсць блізка вада. Не, вада тут была хіба вясной. Але і ягады — набытак. Падмарожаныя, яны ўтрымлівалі халодную вільгаць і праганялі смагу. І пэўным чынам насычалі галодны страўнік. У жываце забурчэла лагодна, без болю. Прыкметна прыбавілі сілы.

Барыс загадаў сабе есці нямнога. Але набіў ягадамі ўсе кішэні. І выразаў кій, крывы, сукаваты. Калі абапёрся на яго, не так балела калена.

Хутка дасягнуў вяршыні. Але гэта не парадавала. Не было перавалу. Не было за перавалам спуску ў даліну з рэчкай, полем, населеным пунктам — з жыццём. На многа кіламетраў рассцілалася выпаленае сонцам горнае плато з асобнымі пакатымі скаламі, аблізанымі вятрамі. На далягядзе ўзнімаліся невысокія шэрыя горы. Толькі на ўсходзе, як бы вянчаючы граду гэтых гор, узвышалася тая снежная вяршыня, якая была ім арыенцірам яшчэ пры атрыманні задання, якую бачылі ў палёце.

— Дзе яна, тая гара, пад якой вада? Пад якой павінна быць вада. Дзе б яна ні была, мне да яе не дайсці.

Хмары то закрываюць снежную шапку, то адкрываюць. Ненадзейны арыенцір! Трэба мець іншы, бліжэйшы. Выбраў граду скал, недалёкую. Але як дайсці да яе?

— Няўжо хмары не прыносяць сюды дажджу? Праклятыя богам мясціны. І за іх льецца кроў людская. Пашлі хоць кроплю, хмара! Я злаўлю яе языком. Жменяй. Для чаго ты нарадзілася? Каб несці дождж! Дзе ж твой дождж?

Замёр на месцы, бо ўбачыў перад сабою жывую істоту. Сусліка. Ен стаяў на задніх лапках і абгрызаў нейкі злак. Абпаліла галодная думка: здабыча! Барыс асцярожна дастаў з кішэні пісталет. Узняў яго, убачыў, што рука дрыжыць. Ды не гэта яго спыніла — думка, што, калі і заб'е звярка, то мусіць есці яго сырым. Запалак не было. Ён яшчэ ўчора пасля прызямлення, праверыўшы рэвізію кішэняў, здзівіўся і засмуціўся, што не аказалася запальнічкі. Калі і куды знікла? Дзіўна. Цыгарэты ёсць, а запальнічкі няма, ніколі такога не здаралася. Уяўленне, што суслік — той жа палявы пацук, грызун, пацягнула на рвоту, але ванітаваць было нечым, і балючая спазма скрупіла яго. Апусціў пісталет у кішэню. А суслік не баяўся чалавека, мабыць, рэдка бачыў яго. Падпусціў зусім блізка. Вочкі яго свяціліся што брусенічкі.

Барыс гаварыў з суслікам, амаль узрадаваны, што не забіў яго. Ды і звярок знік як прывід — уміг, і норкі яго не знайсці.

А калена балела ўсё мацней. Калена распухла, распірала штаніну.

Нарэшце пайшоў дождж. Але дробны, імжысты — асенні. Выходзіць, і тут ён бывае. Але вада нідзе не збіралася. Шлем, які ён наставіў, убіраў кроплі дажджу і заставаўся сухім. Барыс прагна аблізваў рукі свае, рукавы курткі. Пасля дастаў пісталет, толькі на ім, у насечках ручкі, сабіралася сапраўдная вада. Але хутка знайшоў камень, у якім было паглыбленне ў выглядзе чашы. Вакол каменя — птушыны памёт. Мабыць, з гэтай чашы пілі арлы. Ен цярпліва чакаў, пакуль сабярэцца ў паглыбленні хоць лыжка вады, і вылізваў яе.

Але трэба ісці. Куды? Да каго ён прыйдзе? Наступала страшная абыякавасць — усё роўна, куды, да каго. Да душманаў? Няхай да душманаў. Але тут жа гатовы быў разбіць галаву аб камень.

Упарта ішоў далей, перамагаючы боль. Ягад засталася маленькая жменька, і ён не адважваўся іх есці; на гэтым выпаленым сонцам плато наўрад ці знойдзе яшчэ штосьці, што можа падтрымаць сілы. Што грыз суслік? Нешта ж грыз. Але раслінкі той, як і норкі, не знайшоў. Калена не давала нізка нахіляцца. Шукаў камяні, на якіх магла б сабрацца вада. Але, як на бяду, усе камяні — што абточаныя.

Наперадзе ў імжы вырысоўвалася постаць. Чалавек! Чалавек! Жаночая постаць. Не, гэта не афганка ў чорным адзенні. Жанчына ў белым. Як у вясельнай фаце... Гэта...

— Ма-ма!

Закрычаў і тады толькі сцяміў, што гэта галюцынацыя. Аднак — дзіўна!— не спалохаўся свайго хворага стану.

Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

# СЛУЖБА



# ЎЗАЕМАДАПАМОГІ

**«О времена! О нравы!» — з горыччу канстатаваў у свой час класік, хаця ў той час з-за аднаго толькі абразлівага слова мужчыны выклікалі адзін аднаго на дуэль. Цяпер іншыя часы і норавы іншыя. І, на вялікі жаль, куды горшыя, чым былі раней. Сёння адпаведныя статыстычныя зводкі літаральна стогнуць, перадаючы неймаверны рост злачыннасці, жорсткасці, разнастайных і надзвычай жахлівых амаральных праяў.**
**Цяжка сёння ўсім нам. Вельмі цяжка.**
**І ўсё ж, як бы там ні было, а духоўнасць людзей не зусім дэфармавана і знявечана. Яна жыве ў народзе. І высакародны дэвіз «чалавек чалавеку — сябар, таварыш і брат» яшчэ заўчасна спісваць ў небыццё. Людзі вераць у лепшае.**
**Пра тое сведчыць і пошта нашай «Узаемадапамогі». Таму мы лічым сваім абавязкам і надалей уносіць сціплы ўклад ва ўмацаванне гэтай светлай людской веры і па шматлікіх просьбах чытачоў працягваем у новым годзе работу нашага клуба.**
**Для тых, хто ўпершыню разгарнуў старонкі «Беларусі», нагадваем умовы работы «Службы ўзаемадапамогі».**

■

Грамадскі аддзел «Узаемадапамога» створан у нашым часопісе, каб даць людзям магчымасць зрабіць адзін аднаму паслугу, аказаць дапамогу, знайсці сяброў.

■

Аб'явы ва «Узаемадапамозе» друкуюцца бясплатна.

■

Аб'явы могуць змяшчацца за подпісам аўтара ці, калі ён таго жадае, мець лічбавы індэкс. У водгуках жа просім абавязкова пазначаць індэкс аб'явы, якая вас зацікавіла, што дазволіць нам у найкарацейшы тэрмін звязаць вас з патрэбным чалавекам.

■

Паколькі «Узаемадапамога» атрымлівае надзвычай многа пісьмаў, мы не можам весці перапіскі з асобнымі аўтарамі. Ды і мэта аддзела іншая: чытачы павінны самі адказваць адзін аднаму.

■

Адрасы тых, чые аб'явы былі надрукаваны пад кодам, рэдакцыя не дасылае. Калі вы вырашылі звязацца з тым ці іншым аўтарам надрукаванай аб'явы, дашліце пісьмо ў рэдакцыю і ўкажыце лічбавы індэкс ліста, які вас зацікавіў.

■

Калі вы адгукнуліся на аб'яву, якая была надрукавана ў часопісе, а адказу не дачакаліся, не трэба крыўдаваць на рэдакцыю — мы робім сваю справу дакладна, і ўсе пісьмы знаходзяць сваіх адрасатаў. Значыць, сам чалавек, які вас зацікавіў, не знайшоў магчымасці вам адказаць.

Карыстаючыся выпадкам, заклікаем тых, чые аб'явы трапілі на старонку часопіса, абавязкова адказваць на ўсе лісты, якія мы вам дасылаем.

■

І апошняе. Мы атрымліваем сотні і сотні просьбаў надрукаваць тую альбо іншую аб'яву. Магчымасці ж для публікацыі, як вы самі бачыце,— даволі абмежаваныя: усяго адна часопісная старонка. Таму просім зразумець нас правільна тых, чые аб'явы не трапілі ў выпускі «Узаемадапамогі». Шчыра верым: вам яшчэ пашанцуе ў жыцці!



## ШОСТЫ ГОД ХАДЖУ Я Ў МОРА...

Ёсць у мяне запаветная мара: каб у час плавання чакала мяне на беразе мая каханая. Але, на жаль, пакуль я яе так і не сустрэў. З надзеяй стварыць сям'ю звяртаюся да «Узаемадапамогі» — дапамажы!

Мне 28 гадоў. Рост 168. Захапляюся спортам, люблю слухаць музыку. Не куру, да спіртнога раўнадушны.

З задавальненнем адкажу на кожны ліст.

Мой адрас: 163061, г. Архангельск, уладальніку пашпарта МФ-1 № 505212.

## АДНА Ў НАТОЎПЕ

З мужам мы пражылі амаль пяць гадоў. Ён працаваў шафёрам, часта ездзіў у камандзіроўкі. Відаць, у адной з іх і пазнаёміўся з жанчынай, дзеля якой урэшце кінуў мяне і дачку (зараз ёй чатыры гадкі). Толькі яна, мая дачушка, дае мне зараз сілы для працы і жыцця.

Хачу пазнаёміцца з чалавекам, які падзеліць нашы клопаты і турботы.

Дарагая «Узаемадапамога»! Я чытала і чула, што вы шмат каму дапамагаеце знайсці шчасце. Гэта так высакародна, тым больш, што цяпер надзвычай многа адзінокіх людзей, якім няпроста знайсці сябе ў людскім натоўпе. А мне і на вуліцу выйсці пакуль няма калі. Працую я ў тры змены на кране. Потым — адразу дадому, толькі дачушку з садка забяру.

Мне 26 гадоў. Рост 158 см, вага — 48 кг.

Калі мужчына, які наважыцца мне напісаць, жыве з дачкой ці з сынам, няхай ведае, што для мяне гэта — не перашкода. Хай ён будзе рабочым, вучоным, шафёрам — гэта ўсё роўна. Галоўнае, каб ён быў добрым чалавекам, верным, сумленным мужам. Пажадана, каб па нацыянальнасці ён быў беларусам.

**Ірына (305).**

## ПАЛЯВАЦЬ, ДЫК РАЗАМ!

Дарагія сябры! Я — паляўнічы! Мне 37 гадоў, жыву ў невялічкім гарадку ў цэнтры Польшчы. Мару знайсці сяброў-паляўнічых у вашай краіне.

Я адкажу на ліст кожнага паляўнічага, які напіша па адрасу:

Roman **BARTOSIK**
m. Ogrodowa 21/8
98220 Zduńska wol a
**POLSKA** — Польшча

## ДЗЕ ВЫ, РОДНЫЯ!

Завуць мяне Макарэвіч Генадзь Аляксандравіч. Жыву ў Мінску. Мне 62 гады.

Вось ужо шмат гадоў шукаю родных майго бацькі — Макарэвіча Аляксандра Пятровіча. Нарадзіўся ён у 1892 годзе. Працаваў аўтамеханікам. У 1940-м годзе быў арыштаваны і высланы ў Комі АССР. Памёр бацька ў 1948 годзе. Пасмяротна рэабілітаваны.

А вось што я ведаю пра родных бацькі: У яго былі тры сястры — Вольга, Алена, Наталля і брат Ота. Яго бацька — Макарэвіч Пётр Антонавіч працаваў у лясніцтве. Маці звалі Ганна-Марыя. Яна трымала майстэрню і магазін галаўных убораў у горадзе Калішэ (Польшча).

Звяртаюся да чытачоў «Узаемадапамогі»: а раптам каму вядома што-небудзь пра родных майго бацькі? Пішыце мне на адрас: 220036, г. Мінск, вул. Волаха, 29-24, Макарэвічу Г. А.

## СІРОЦТВА Ў 50 ГАДОЎ

Жыццё адзінокай жанчыны ў 50 гадоў падобна на сірочае. Мужа няма, дзеці выраслі, у іх свае праблемы, свае клопаты. Мяркую, што мужчына гэтага ўзросту ў падобным становішчы таксама адчувае сябе не лепшым чынам.

Вельмі гэта сумная перспектыва: праводзіць у адзіноце свае апошнія гады, не мець падтрымкі блізкага чалавека. Адзінота не ўпрыгожвае жыццё чалавека, а робіць яго непрывабным, цяжкім.

Таму і жадаю звязаць свой лёс з прыстойным, сціплым, чулым, добразычлівым мужчынам. Пажадана, каб ён быў ва ўзросце да 56 гадоў, ростам не ніжэй за 170 см, сярэдняга складу.

Сама я здольна зрабіць усё, каб чалавек, які ўпрыгожыць маё жыццё, адчуваў сябе шчаслівым і быў задаволены лёсам.

Мой адрас: 212030, г. Магілёў, галоўпаштамт, да запатрабавання, уладальніку пашпарта IV-40 № 716552.

## ШУКАЮ СЯБРОЎ ПА ПЕРАПІСЦЫ

Звяртаецца да вас дзяўчына з літоўскага горада Крэцінга. Завуць мяне Эдзіта, мне 17 гадоў. Я вельмі хачу мець шмат сяброў у Беларусі. Адкажу ўсім! Мой адрас: 235700, Літва, г. Кретинга, ул. Тарибу, 18-5, Шашкуте Эдита.

Я — студэнтка 2-га курса Гродзенскага медыцынскага інстытута. 19 гадоў. Люблю сучасную музыку, кіно, спорт. Жадала б мець шмат цікавых сяброў. Мой адрас: 230015, г. Гродна, БЛК-11, інтэрнат 5, пакой 43, Мозава Ала.

Дарагая «Узаемадапамога»! Пішуць табе дзве сяброўкі — Вольга і Марына. Мы хочам перапісвацца з дзяўчатамі і хлопцамі 15—17 гадоў. Нашы адрасы:

231913, Гродзенская вобласць, Ваўкавыскі раён, п/а Дубаўцы, в. Плябанаўцы, д. 19. Грыневіч Вольга. 14 гадоў.

230005, г. Гродна, вул. Брыкеля, д. 23, кор. 1, кв. 40. Бялко Марына. 13 гадоў.

## ДЗЯКУЙ ЗА ДАПАМОГУ!

Мой ліст быў надрукаваны ў шостым нумары «Беларусі» за 1990 год. Якое гэта для мяне было шчасце! Вы робіце вялікую, важную, патрэбную справу. Тым больш, што людзей, лёс якіх падобны на мой, вельмі многа.

І вось у мяне з'явілася надзея! Дзякуй табе за гэта, «Узаемадапамога»!

**Валерый (268).**

Да вас зноў звяртаецца Аляксандр, ліст якога быў надрукаваны пад лічбавым індэксам 257. Я пішу свой ліст, каб сказаць вам вялікае дзякуй. Прабачце, што пішу толькі цяпер. Шмат часу прайшло з тае пары, калі мой ліст быў надрукаваны ва «Узаемадапамозе». Але я, калі вы памятаеце, знаходжуся ў месцах пазбаўлення волі і таму адпраўляць больш чым два пісьмы ў месяц не маю права. Найперш вырашыў скарыстаць гэта права, каб адказаць тым жанчынам, якія адгукнуліся на мой ліст.

Дарагая «Узаемадапамога»! Я шчыра ўдзячны табе за тваю міласэрнасць. Дзякуй, што дапамагаеш людзям набыць Веру, Надзею, Любоў.

**Аляксандр** (257).

**Падрыхтавала Алена ШАБАЛІНА.**
**Фота Алены АДАМЧЫК.**




Аддзел вядзе заслужаны трэнер БССР **А. РАКІТНІЦКІ.**

## ПРЫГОЖАЯ РАЗВЯЗКА

Эцюды Крыштафа Малашкевіча можна сустрэць не толькі ў беларускай, а і ва ўсесаюзнай прэсе.

Паглядзіце кароткую, але прыгожую развязку ягонага новага твора.

**Эцюд К. Малашкевіча**
(г. Ліда)



Выйгрыш.

1. e1—c3! h2—g1 (калі 1. ... c5—b4, то 2. c3—a1 і далей так, як разглядаецца ніжэй) 2. f2—g3 c5—b4 3. c3—a1! a3—b2 4. a1:g7!! g1—h2 5. a5:c3!

## БОГ НЕ ЦЯЛЯ, БАЧЫЦЬ КРУЦЯЛЯ

На адкрыццё Віцебскага абласнога шахматна-шашачнага клуба, якое адбылося 20 лютага 1967 года, Спорткамітэт БССР накіраваў гросмайстра Ісака Яфрэмавіча Баляслаўскага і мяне. Пасля выступлення старшыні Віцебскага гарвыканкома Яўгеніі Аляксееўны Маўрынай, дзякуючы якой і быў урэшце адкрыты клуб, мы расказалі аб стане шахмат і шашак у краіне і на Беларусі. Затым перайшлі да правядзення сеансаў адначасовай гульні. Сапернікаў у Баляслаўскага аказалася значна больш. І гэта тлумачылася ягоным вялікім аўтарытэтам і першай сустрэчай з віцябчанамі. У меншым пакоі і з меншай колькасцю ўдзельнікаў (усяго 15 дошак) я паспеў правесці тры сеансы.

Дагэтуль запомніўся выпадак з хлапцом гадоў 15—16. Ён двойчы «паспеў» прайграць, а на трэцім разе, відаць, рашыў «вызначыцца» (за яго спінай з'явіліся знаёмыя хлапчукі і дзяўчынкі). Ён непрыкметна падставіў сабе лішнюю шашку на поле e7. Я гэта заўважыў.



Выйгрыш.

— А яна тут і была,— пачырванеўшы, адказаў ён.

І раптам я ўбачыў, што менавіта гэта «народжаная» шашка дазваляе правесці разгромную камбінацыю.

Адбылося: 1. e5—f6! g7:c3 2. d2:b4 b6:d4 3. h2—g3! a5:c3 4. e1—d2 c3:e1 5. g3—h4 e1:g3 6. h4:h4.

Уражаныя прыгожай камбінацыяй, хлапец і яго сябрукі на момант заціхлі. Затым пачалося бурнае рэагаванне, смех. Дзядок, які поруч сачыў за ўсёй партыяй, трапна заўважыў: «Бог не цяля, бачыць круцяля».

## ГЭТА ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

Першы ў свеце падручнік па шашках быў выдадзены ў Валенсіі (Іспанія) у 1547 годзе. Аўтарам яго быў Антоні Тарквемада.

Першы падручнік у Расіі «Руководство к основательному познанию шашечной игры или искусство обыгрывать всех в простые шашки» Аляксандра Пятрова выйшаў у Санкт-Пецярбурзе ў 1827 годзе.

Першая ў савецкі час кніга «Шашкі» Васіля Русо была выдадзена ў Маскве ў 1924 годзе.

Першая кніга на Беларусі «Курс канцоў рускай народнай гульні ў шашкі» Якава Гордзіна выйшла ў Мінску ў 1932 годзе.

Першая пасляваенная кніга А. Ракітніцкага «У дапамогу пачынаючаму шашысту» выйшла ў Мінску ў 1954 годзе.

# ГУМАР



**— Ну, што, можа перасялішся на іншае дрэва!**

**— Нізавошта! Радзімы не мяняю!**




**Алан Чумак: — А цяпер пастаўце перад экранам свае пустыя талеркі і міскі, я зараджу іх.**






**Без слоў.**

**Малюнкі Людмілы ШНІП.**




# «АНАГРАМЫ»

**З кожнага слова-загадкі, пераставіўшы ў ім літары, можна атрымаць новае слова — анаграму. Нагадаем, што некаторыя словы маюць некалькі анаграм. Так, слова «донар» (па вертыкалі № 31) мае наступныя анаграмы: радно, рандо, ронда, народ. Трэба быць уважлівым і падабраць неабходную анаграму.**



ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: 5. Картэр. 6. Пломба. 10. Карта. 11. Ангар. 12. Заранак. 15. Аскет. 16. Саван. 18. Тавар. 19. Пратон. 20. Танкер. 24. Матуз. 25. Астра. 26. Цурка. 28. Напітак. 32. Бурка. 33. Казак. 34. Плотка. 35. Кардон.

ПА ВЕРТЫКАЛІ: 1. Рэнта. 2. Наказ. 3. Пілка. 4. Мароз. 7. Праект. 8. Рулада. 9. Сатана. 13. Нататка. 14. Вазніца. 16. Тапор. 17. Васал. 21. Бурсак. 22. Лаціна. 23. Стачка. 27. Пасол. 29. Нарач. 30. Дакор. 31. Донар.

**Склаў Рыгор ЯКУШ.**

## АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 12

**Па гарызанталі:** 2. «Лянок». 4. Амбушур. 6. «Атака». 8. Заір. 9. Ядро. 10. Дудар. 13. «Маці». 16. Шлег. 18. Скрыган. 19. Пяро. 20. Эльф. 22. Пакунак. 26. Мікст. 27. Яшчар. 28. Гравюра. 32. Дылема. 33. Паверх. 34. Марціра. 35. Стаката. 36. Лучанок. 37. Петарда.

**Па вертыкалі:** 1. Бандура. 2. Ламбард. 3. «Крутаяр». 5. Паяц. 7. Арол. 11. Уюрок. 12. Аргон. 14. Аляксеева. 15. Ісоп. 16. Шнэк. 17. Ельяшэвіч. 21. Бірыла. 23. Аер. 24. Акр. 25. Катрэн. 28. Гама. 29. Агрэст. 30. Юпітэр. 31. Апал.



*«Чалавек, памажы сабе сам...»*
*Л. БЕТХОВЕН.*

# Актыўныя знакі

Для тых, хто не чытаў папярэдняга нумара «Беларусі» і толькі пачаў знаёміцца з арабскім гараскопам, нагадаю схему яго асноўных знакаў, ад якіх залежаць усе нашы ўдачы і трывогі:

Кожны з гэтых знакаў у пэўны перыяд года праяўляе найбольшую актыўнасць, несучы некаторыя перамены ў жыцці людзей, якія пад гэтым знакам нарадзіліся. Вось якраз пра гэта мы сёння і пагаворым.

**ЗЯМЛЯ**

**1 студзеня — 19 студзеня**
**20 красавіка — 19 мая**
**20 жніўня — 19 верасня**
**20 снежня — 31 снежня**

**ВАДА**

**20 лютага — 19 сакавіка**
**20 чэрвеня — 19 ліпеня**
**20 кастрычніка — 19 лістапада.**

**ПАВЕТРА**

**20 студзеня — 19 лютага**
**20 мая — 19 чэрвеня**
**20 верасня — 19 кастрычніка**

**АГОНЬ**

**20 сакавіка — 19 красавіка**
**20 ліпеня — 19 жніўня**
**20 лістапада — 19 снежня**



## І КВАРТАЛ — СТУДЗЕНЬ, ЛЮТЫ, САКАВІК

Самы актыўны знак у гэты перыяд — **паветра**, а разам з ім і яго носьбіты (сангвінікі), якія нарадзіліся ў перыяд з 20 студзеня па 19 лютага. Актыўнасць праяўляецца ў тым, што людзі гэтага знака маюць больш патэнцыяльных (фізічных і духоўных) магчымасцей, чым усе астатнія, хто святкуе свой дзень нараджэння ў гэтым квартале, а таксама маюць перавагу перад людзьмі знака паветра ў любым квартале года. Перавага гэта адчуваецца ва ўсіх сферах жыцця: у грамадстве, сям'і, калектыве. Гаворачы мовай магіі, гэтыя людзі адчуваюць «прыхільнасць лёсу», ім шанцуе ва ўсім.

Для «лютаўскіх» мужчын лёс прадастаўляе вялікі выбар паспяховых жыццёвых варыянтаў. Як правіла, мужчыны гэтага знака надзвычай таварыскія, гаваркія, любяць шумныя кампаніі, цудоўна гуляюць у карты. Яны могуць хутка і лёгка мяняць род дзейнасці, без цяжкасці пераносіць увагу з аднаго аб'екта на другі. Лёгка засвойваючы ўсё новае, яны, на жаль, не заўсёды глыбока і грунтоўна асэнсоўваюць яго. Іх жыццё, успрыманне навакольнага свету нагадвае, гаворачы словамі англійскага філосафа мінулага стагоддзя Давіда Юма, імклівы экспрэс. Нібы з акна цягніка, «лютаўскія» мужчыны, працягваючы гэта простае параўнанне, бачаць жыццё, не заўважаючы дробных дэталей і засяроджваючы увагу толькі на тым, што іх цікавіць.

Жанчынам, якія вырашылі звязаць свой лёс з гэтымі мужчынамі-сангвінікамі, трэба памятаць, што быць для іх заўсёды цікавай і патрэбнай — справа складаная. Неабходна заўсёды быць новай, незвычайнай, умець зноў і зноў здзіўляць, прываблівааць увагу. І ні ў якім разе не скардзіцца на свае жаночыя беды, не патрабаваць цяпла, увагі да сябе. Не заводзьце доўгіх размоў аб вашых узаемаадносінах, інакш... вы неўзабаве адчуеце, як ад «лютаўца» пацягнула холадам. Вядома, на словах ён будзе спачуваць вам, магчыма, пацалуе і прылашчыць, але думкі яго будуць далёка ад вас. Вось чаму вы абавязаны, менавіта абавязаны, заўсёды быць у добрай форме, адносіцца да жыцця больш лёгка, мяняць інтарэсы і сяброў, пастаянна гаварыць каханаму аб яго выключнасці, не забываючыся, аднак, пра свой уласны выгляд.

Надзвычай арыгінальныя «лютаўцы» ў выбары адзення. Для іх характэрны шырокі выбар фасонаў, пажадана нязмушанага, свабоднага крою. Ім вельмі да твару экстравагантныя рэчы — «варонкі», джынсы, разнастайныя курткі, майкі, вялікія лісіныя або сабачыя шапкі і г. д. Які-небудзь шырокі і даўгі шалік, лёгка перакінуты праз плячо, куртка нараспашку... Колеры заўсёды яркія, кантрастныя, часта чорны, але абавязкова з нейкай чырвонай, белай, карычневай плямай. Ва ўсім уборы абавязкова павінен прысутнічаць белы колер, няхай невялічкі кавалак, бо ён жа — сімвал паветра. Галоўнае ў вопратцы — ніякай строгасці, педантызму, традыцыйнасці. Гэта дзеці рэвалюцыі, як знешне, так і ў душы. Яны гатовы да любых, няхай нават самых дзёрзкіх перамен і штодзённых перабудоў у сваім жыцці. Магчыма, усё гэта ненадоўга, але вонкава прыгожа, рэкламна, ярка. Такім чынам, парада жанчыны, якая з ім побач, будзе неацэннай. Будзьце заўсёды свежымі і новымі, адкіньце ўсякі кансерватызм, менш папро-

Малюнкі Алены ДАШКЕВІЧ.

каў і капрызаў, заўваг, больш экстравагантнасці, чыста жаночага «шарму».

Больш складанасцей у характары жаночай паловы гэтага знака. Найлепшым варыянтам для іх з'яўляюцца ўзаемаадносіны з гэткімі ж, як яны, «лютаўцамі», з якімі ім лягчэй за ўсё знайсці агульную «мову», падладзіцца пад іх звычкі і тэмп жыцця. У той жа час мужчыны гэтага знака нібыта адчуваюць чалавека «сваёй масці», імкнуцца, хоць і не вельмі прыкметна, бываць часцей разам са сваёй сяброўкай.

А ці могуць быць удалымі ўзаемаадносіны з мужчынамі іншых знакаў, акрамя «лютаўцаў»? Могуць, але гарантыя ўдалых саюзаў складае не больш як 30—35 працэнтаў. Гэта мужчыны наступных перыядаў і знакаў:

неблагі варыянт — **20 ліпеня — 19 жніўня** (агонь),

крыху горшы варыянт—**20 сакавіка — 19 красавіка** (агонь),

**20 лістапада — 19 снежня** (агонь),

**20 мая — 19 чэрвеня** (паветра),

**20 верасня — 19 кастрычніка** (паветра),

няўдалыя варыянты — са знакамі **зямлі і вады.**

## II КВАРТАЛ — КРАСАВІК, МАЙ, ЧЭРВЕНЬ

У гэтым квартале актыўнасць праяўляюць меланхолікі або «майскія» — 20 красавіка — 19 мая. Людзі гэтага перыяду надзвычай эмацыянальныя, іх наогул лічаць «адчувальнай натурай». Яны больш, чым хто іншы, суперажываюць таму, што адбываецца навокал, прымаюць блізка да сэрца кожную драбязь, прычым як асабістага, так і агульнадзяржаўнага маштабу. Практычна кожны дзень яны аналізуюць пражытыя суткі, даюць ацэнку сваім справам і ўчынкам, з горыччу азіраюцца на пражытыя гады і з надзеяй спрабуюць зазірнуць у будучыню. Разам з тым, яны не вельмі абмежаваныя ў сваім выбары, як, напрыклад, «лютаўцы».

Хто больш за ўсё падыходзіць «майскім» меланхолікам? Лепшыя адносіны з людзьмі наступных знакаў:

аптымальны варыянт **20 кастрычніка — 19 лістапада** (вада),

неблагія варыянты — **20 лютага — 19 сакавіка** (вада),

**20 чэрвеня — 19 ліпеня** (вада),

**20 жніўня — 19 верасня** (зямля),

**20 снежня — 31 снежня** (зямля),

ёсць шанц і ў варыянта — **1 студзеня — 19 студзеня** (зямля).



Якія ж асаблівасці характару «майскіх»?

Перш за ўсё, няма істотнай розніцы ў характары мужчын і жанчын гэтага перыяду, хоць слабы пол больш эмацыянальны і інтэлектуальна развіты. І ўсё ж адрозненне існуе: звычайна меланхалічныя жанчыны больш памяркоўныя, разважлівыя і паслядоўныя ў сваіх учынках у параўнанні з «рыцарамі хітрасці і разліку», як іншы раз называюць «майскіх» мужчын. Заўважу, што дзяўчаты гэтага знака звычайна больш дасціпныя і вытанчаныя, чым мужчыны. Ва ўсім астатнім яны даволі блізкія па сваіх параметрах. Для іх адметная замкнёнасць, індывідуалізм, імкненне самастойна вырашаць складаныя жыццёвыя праблемы, непрыхільнасць да шумных кампаній, хваравітая крыўдлівасць, імкненне да самазахавання.

Часцей за ўсё «майскія» — адналюбы, хоць аддаюць увагу любым сімпатычным людзям вакол сябе. Яны цвёрда прытрымліваюцца сваёй пазіцыі, у спрэчцы прыводзяць мноства аргументаў, актыўна жэстыкулююць, мяняюць інтанацыі голасу, міміку твару і г. д. Для іх характэрны кансерватызм, зварот да нормаў мінулага і крытычныя адносіны да ўсяго авангарднага, абстрактнага, нерэальнага. Яны асэнсоўваюць жыццёвыя падзеі з розных пазіцый, нярэдка застаючыся крыху ўбаку і ўстрымліваючыся ад паспешлівых высноў, дзеянняў. Звычайна «майскі» меланхолік баіцца памыліцца, ён цярпліва чакае і назірае збоку за сваім аб'ектам. У гэтым выяўляецца павышанае пачуццё самазахавання, якое прымушае чалавека спачатку аналізаваць, а потым дзейнічаць. Да таго ж, назіранне збоку дапамагае глыбей зразумець, што адбываецца, і альбо знайсці тое, што шукаў, альбо адкінуць назаўсёды.

Апранаюцца «майскія» ў асноўным строга, але не святочна, звычайна нагадваюць дзелавых людзей, менавіта тых, хто сапраўды займаецца справай, а не расказвае пра яе. Як правіла, яны схільныя да інтэлектуальнай працы, любяць (у меру) алкаголь, гадзіну-другую паспаць днём, але прадуктыўна працуюць увечары.

Раўнівыя, злапамятныя, добра кантралююць ход спраў, звычайна выконваюць любое заданне датэрмінова, імкнуцца ўгору па службовай лесвіцы. Сімпатызуюць падначаленым жанчынам, цудоўныя секс-партнёры і сем'яніны. Хваравіта пераносяць папрокі і заўвагі блізкіх. Ніколі не даруюць здрады! Іх не ўтрымлівае ні сям'я, ні дзеці, ні камфорт — чулыя, адданыя, пяшчотныя, яны не могуць дараваць памылку каханаму чалавеку.

Тым, хто збіраецца звязаць свой лёс з «майскімі», трэба памятаць, што галоўнае — стымуляванне іх поспехаў, клопат і ўвага. Часцей цікаўцеся іх работай, здароўем, падбадзёрвайце ў цяжкую хвіліну. Менш спрэчак і прэтэнзій — гэтым вы самі ломіце свой лёс. «Майскія» жадаюць быць «прэзідэнтамі» і ідэалізуюць сваіх блізкіх. Памажыце ім у гэтым, і ў вас не будзе праблем.

Дарэчы, калі «лютаўцы» абыякава ставяцца да мінулага сваіх сяброўак, то «майскія» карпатліва вывучаюць яго і «памылкі маладосці» даруюць вельмі рэдка. Памятайце пра гэта!



**Сяргей АНУПРЫЕНКА,**
**кандыдат філасофскіх навук.**


беларусь

**ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС**

САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**№ 1 (625) СТУДЗЕНЬ 1991 г.**

Заснаваны ў 1930 годзе.

**Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па друку, Мінск.**




НА ПЕРШАЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: **паўгалоднае, паўжабрацкае пасляваеннае маленства яшчэ можна было вытлумачыць і зразумець. Чым вытлумачыць, чым апраўдаць абкрадзенае, прыгнечанае татальным дэфіцытам маленства сённяшніх дзяцей!**
**Фота Віктара ДРАЧОВА.**


**Журнал «Беларусь»**
**на белорусском языке.**
**Здадзена ў набор 13.11.90.**
**Падпісана да друку 25.12.90.**
**Фармат 70×108 1/16.**
**Афсетны друк.**
**Ум. друк. арк. 7.**
**Ул.-выд. арк. 11,4.**
**Ум. фарбаадб. 12,6.**
**Т. 16 600 экз.**
**Зак. 1042.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220600, Мінск, ГСП,**
**вуліца Захарава, 19.**

**Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 33-20-01; намесніка галоўнага рэдактара, адказнага сакратара, аддзела літаратуры — 33-02-29; аддзелаў грамадска-палітычнага, культуры і мастацтва — 33-20-53; аддзела мастацкага афармлення — 33-20-54.**

**Рэдакцыя разглядае рукапісы памерам не больш як 12 машынапісных старонак.**

**220041, Мінск,**
**Ленінскі праспект, 79.**
**Ордэна**
**Працоўнага Чырвонага Сцяга**
**друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.**

НАШЫ ПЫТАННІ:

1. Назавіце імя гэтага сімпатычнага хлопца.
2. Дзе, калі і пры якіх абставінах ён пазнаёміўся з амерыканцам Ленсам Рынгнелдам?
3. Назавіце апошнюю яркую падзею ў жыцці нашага героя.
Чакаем дакладных адказаў. Узнагарода кожнаму, хто дашле іх,— фатаграфія «зоркі» з аўтографам.

●

Адказы на фотавіктарыну, надрукаваную ў №№ 8, 9 нашага часопіса за 1990 г.:
1. У аснову фільма, кадр з якога змешчаны ў часопісе, пакладзена аповесць В. Быкава «Альпійская балада».
2. Выканаўца галоўнай ролі — актрыса Любоў Рыгораўна Румянцава.
3. Кінадэбют актрысы адбыўся ў 1965 годзе ў фільме «Альпійская балада». Так лічыць сама актрыса. Але маюць рацыю і тыя чытачы, якія напісалі, што Любоў Румянцава дэбютавала значна раней. Сапраўды, у 1960 годзе будучая актрыса здымалася на кінастудыі «Малдовафільм» у кінафільме «Калыханка».
Дакладныя адказы даслалі І. Пярцоўскі з Мінска, М. Селязень з вёскі Запруддзе Глыбоцкага раёна, С. Макарэнка з Гомеля і А. Талашкевіч з г. п. Плешчаніцы.

## «ВЫ — ПРА ЗОРАК, ЗОРКІ — ДЛЯ ВАС»

Фота Генадзя АНАТОЛЬЕВА.

ЛЮТЫ

| П | А | С | Ч | П | С | Н | П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | | | | | | | | | | |

Фазы Месяца: ○ — 1—3 — поўня, ☾ — 4—11 — ветах, ● — 12—18 — маладзік, ☽ — 19—25 — сход, ○ — 26—5 сакавіка — поўня.

Беларусь

Цана 40 кап. «Беларусь», 1991, № 1, 1—36. Індэкс 74820.